

Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 10 лістапада 1989 г. № 45 (3507) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.


## Пад знакам рэвалюцыі і абнаўлення

Краіна ўрачыста адзначыла 72-ю гадавіну Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. Пад знакам рэвалюцыйнага пераўтварэння і абнаўлення грамадства гэтае свята прайшло і на Беларусі.

Вечарам 4 лістапада ў Дзяржаўным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета БССР прагучаў «Інтэрнацыянал» у гонар знамянальнай даты. У прэзідыуме ўрачыстага сходу знаходзіліся таварышы Я. Я. Сакалоў, М. І. Дзямянцей, М. В. Кавалёў, іншыя члены і кандыдаты ў члены Бюро ЦК КПБ, народныя дэпутаты СССР, партыйныя і савецкія кіраўнікі, ветэраны ленінскай партыі і военачальнікі, перадавікі вытворчасці, дзеячы навукі і культуры.

З дакладам аб 72-й гадавіне Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі перад прадстаўнікамі працоўных калектываў, партыйных і савецкіх органаў, грамадскіх арганізацый горада і воінскіх часцей Мінскага гарнізона выступіў сакратар ЦК Кампартыі Беларусі У. А. Ляпёшкін.

Урачыстыя сходы, прысвечаныя святу Кастрычніка, прайшлі ва ўсіх абласных і раённых цэнтрах, працоўных калектывах рэспублікі.

7 лістапада ў Мінску адбыліся ваенны парад і дэманстрацыя працоўных. Святочнае шэсце працоўных горада завяршыў зводны аркестр Чырванасцяжнай Беларускай ваеннай акругі. Свята працягвалася масавым народным гуляннем ва ўсіх парках, на плошчах Мінска.

Святочныя дэманстрацыі і мітынгі прайшлі ва ўсіх гарадах і раённых цэнтрах рэспублікі.

## Адзначылі літаратары

Кастрычніцкі вечар адбыўся ў Доме літаратара. Вядучы вечара сакратар парткома СП БССР Віктар Супрунчук, С. Законнікаў, В. Аколава, В. Шніп гаварылі аб незваротнасці працэсаў перабудовы ў краіне, перспектывах нацыянальнага адраджэння ў рэспубліцы, чыталі свае творы.

Вечар завяршыўся святочным канцэртам.

**Наш кар.**

## З'ЕЗД ЗАВЯРШЫЎСЯ

5 лістапада ў Доме літаратара працягваў работу X з'езд Саюза кампазітараў Беларусі. Удзельнікі творчай дыскусіі абмяркоўвалі арганізацыйныя праблемы жыцця саюза, гаварылі пра стан беларускай музыкі, дзяліліся ўражаннямі аб праслуханых канцэртных праграмах.

Увечары адбыліся выбары новага складу кіруючых органаў. Старшынёй праўлення СК Беларусі абраны І. Лучанок (альтэрнатыўнай кандыдатурай на гэтую пасаду быў Д. Смольскі).

У рабоце з'езда ўдзельнічалі таварышы Я. Сакалоў, А. Камай, А. Малафееў, іншыя прадстаўнікі кіраўніцтва рэспублікі.

**Наш кар.**



Марыя Стэфанава пасля заканчэння Брэсцкага педінстытута працавала настаўніцай мовы і літаратуры. Цяпер узначальвае ў горадзе Бярозе пастаянную камісію па справах непаўналетніх, з'яўляецца членам літаратурнага аб'яднання пры Бярозаўскай раённай газеце.

Сёння, у Дзень савецкай міліцыі, віншуем Марыю і яе калег з прафесійным святам, жадаем поспехаў у нялёгкай працы.

Фота А. КЛЕШЧУКА.

НА ТЭМУ ДНЯ

## МЫ ЖЫЛІ АДНОЙ СЯМ'ЁЙ

Свежы вецер рэвалюцыйнага абнаўлення пранікае ва ўсе сферы нашага жыцця. Але радасці пакуль мала. Перабудова даецца надзвычай цяжка. А ў дадатак да эканамічных цяжкасцей у розных рэгіёнах краіны *ўспыхнулі канфлікты на нацыянальнай глебе.* Чаго не падзялілі паміж сабой людзі розных нацыянальнасцей, якія спрадвек жылі ў ладзе і згодзе?

У кожнай здаровай нацыі заўсёды вельмі моцныя ідэі інтэрнацыяналізму. Прыкладаў далёка шукаць не трэба. У маім родным Капылі з даўніх часоў у добрым суседстве жылі беларусы, татары, яўрэі, палякі, рускія. Людзі побач працавалі ў майстэрнях, кузнях, гарбарнях, ганчарных, кравецкіх, шавецкіх арцелях. Ніхто нікога не крыўдзіў, не абражаў, не было ніколі нейкіх *канфліктаў,* тым больш канфрантацый на нацыянальнай глебе.

Па ўспамінах вядомага рускага крытыка і літаратуразнаўцы Л. М. Клейнбарта (яго бацька — выхаванец Лейпцыгскага універсітэта — моцна сябраваў з мясцовым свяшчэннікам праваслаўнай царквы Савічам, памешчыкам Іёдкам і іншымі прагрэсіўнымі людзьмі), у перыяд разгулу царскай рэакцыі, калі па краіне пракацілася хваля яўрэйскіх пагромаў, капыляне выступілі супраць чарнасоценцаў, не далі праліцца яўрэйскай крыві.

У савецкі час да інтэрнацыянальнай сям'і Капыля далучыліся ўкраінцы, прадстаўнікі іншых народнасцей. Быў у нас майстар каўбасных вырабаў кітаец Лі Янгу, які пра сябе гаварыў: «Я — беларуса». Гэты добры і памяркоўны чалавек пабраўся з мясцовай беларускай дзяўчынай, выгадаваў сына, які загінуў на фронце Вялікай Айчыннай вайны. Дачка яго скончыла Пінскі фінансава-крэдытны тэхнікум і жыве цяпер у Мінску за разумным чалавекам «нашанскай» капыльскай пароды.

Сябравалі між сабой не толькі сталыя, дарослыя людзі, а і вучні беларускай, яўрэйскай і рускай школ. Хатняй бібліятэкай беларускіх татараў Александровічаў карысталіся мо сотні юнакоў і дзяўчат. З прыватнай кніжнай скарбніцы Александровічаў і аўтар гэтых радкоў упершыню пазнаёміўся з творамі Янкі Маўра, класікаў сусветнай, рускай і беларускай літаратур. А з якой пашанай капыляне разам з групай беларускіх пісьменнікаў на чале з Міхасём Лыньковым адзначалі 100-годдзе з дня нараджэння знакамітага нашага земляка, класіка яўрэйскай літаратуры Мендэле Мойхер-Сфорыма! Гэта было сапраўднае інтэрнацыянальнае свята.

Сіламі ўдзельнікаў драматычнай студыі ў Капылі ставіліся «Любоў Яравая», «Хто смяецца апошнім», іншыя спектаклі славутых рускіх, беларускіх, украінскіх драматургаў. Захаваўся здымак удзельнікаў студыі, зроблены напярэдадні Вялікай Айчыннай вайны.

Трагічны лёс выпаў на долю тых маладых людзей. Вясёлы хлопец з добрымі акцёрскімі задаткамі Ізя Шульман стаў камандзірам падводнай лодкі і загінуў у халодным бяздонні Балтыкі. У паўночных шыротах краіны паў смерцю героя марскі пехацінец, таленавіты

(Працяг на стар. 2).

# Усё пра гісторыю Беларусі

Выданні «БелСЭ» імя П. Броўкі добра вядомыя нашым чытачам. Сярод іх — універсальныя, рэгіянальныя і галіновыя энцыклапедычныя даведнікі. Згадаем, што зусім нядаўна з'явіліся на прылаўках кнігарань даведнік «Францыск Скарына» і «Статут Вялікага княства Літоўскага». Зрэшты, няма сэнсу пералічваць усё зробленае. На сёння важней пагаварыць пра планы на будучыню. А сярод іх адно з найбольш важных месц займае энцыклапедыя «Гісторыя Беларусі», абмеркаванне праекта якой адбылося днямі.

Паводле задумы, у энцыклапедыю ўвойдзе каля 10 тысяч тэрмінаў. Мяркуецца, што будзе яна складацца з пяці тамоў. Аднак, як сказаў намеснік галоўнага рэдактара І. Хаўратовіч, калі матэрыял не змесціцца ў 5-ці тамах, будуць выдадзены 6 ці 7. Несумненна, што некаторыя пытанні ў згаданай энцыклапедыі асвятляцца не будуць, бо гэтае выданне будзе падмацоўвацца сумежнымі. Так, да канца гэтага года выйдзе даведнік «Этнаграфія Беларусі», крыху счакаўшы—«Беларусь у Вялікай Айчыннай вайне», потым—«Археалогія Беларусі». Таму асноўны акцэнт у энцыклапедыі робіцца на палітычную гісторыю.

Загадчык рэдакцыі выдавецтва, вядомы гісторык М. Ткачоў адзначыў, што, нягледзячы на недахопы, якія ўжо зараз заўважаюцца ў абмяркоўваемым праекце, гэтае выданне павінна стаць на сёння ў нейкай ступені авангардам гістарычнай навукі.

У энцыклапедыі мяркуецца на багатым ілюстрацыйным матэрыяле шырока паказаць эпоху Адраджэння. Вялікі аб'ём адводзіцца на адлюстраванне падзей 1917 года і паслярэвалюцыйных дзесяцігоддзяў. Задумана даць шырокую карціну тагачасных палітычных падзей, па-новаму ацаніць ролю і дзейнасць многіх нашых адраджэнцаў, імёны якіх у застойныя часы нават не згадваліся ў друку. Улічваючы наяўнасць спецыяльнага выдання, аб'ём старонак, адведзеных на асвятленне подзвігу беларускага народа ў Айчыннай вайне, будзе крыху зменшаны. Затое ў энцыклапедыі знойдзецца месца для адлюстравання часоў сталінісцкіх рэпрэсій, не будуць апушчаны Курапаты, іншыя месцы масавага знішчэння людзей у тыя гады, будуць названы імёны катаў беларускага народа. Што да сучаснасці, то плануецца асвятліць не толькі гістсрыю Камуністычнай партыі Беларусі, але і гісторыю ўсіх грамадскіх рухаў і арганізацый, якія ўзніклі ў апошнія гады.

Амаль чатыры гадзіны цягнулася абмеркаванне згаданага праекта энцыклапедыі. У гаворцы прынялі ўдзел гісторыкі А. Грыцкевіч, Я. Юхо, М. Ермаловіч, С. Падокшын, М. Бацвіннік, Л. Казлоў, А. Сарокін, П. Башко, М. Іофе, М. Спірыдонаў, археолагі Г. Штыхаў, Л. Побаль, А. Трусаў, пісьменнікі А. Мальдзіс, Г. Каханоўскі, Б. Сачанка, А. Сідарэвіч, этнограф М. Піліпенка, супрацоўнік Ленінградскай бібліятэкі імя М. Салтыкова-Шчадрына, М. Нікаласў, а таксама інструктар Мінскага абкома партыі У. Гусараў.

У выступленнях адзначалася, што энцыклапедычныя распрацоўкі створаць базу для напісання новых падручнікаў па гісторыі БССР як для школы, так і для ВНУ. Аднак выданне энцыклапедыі не здымае надзвычай актуальнага пытання аб заснаванні гістарычнага часопіса ў рэспубліцы. Надаючы вялікае значэнне з'яўленню энцыклапедыі «Гісторыя Беларусі» менавіта ў часы перабудовы і галоснасці, прамоўцы адзначылі і шэраг недапрацовак, якія здолелі заўважыць у праекце. Па-ранейшаму кідаецца ў вочы дыспрапорцыя паміж колькасцю і аб'ёмам артыкулаў па савецкім і дасавецкім перыядах. Энцыклапедыя перагружана матэрыяламі па гісторыі Камуністычнай партыі, таму ўзнікла нават прапанова выдаць асобную энцыклапедыю па гэтай тэме. Былі выказаны пажаданні, каб энцыклапедыя адлюстроўвала гісторыю беларускага народа, а не гісторыю рэспублікі. Бо, як вядома, за межамі сучаснай Беларусі жыве 3 мільёны беларусаў. Несправядліва і неразумна абыходзіць маўчаннем іхнюю дзейнасць у галіне навукі і культуры, гісторыка-культурныя цэнтры, бібліятэкі, перыядычныя выданні, якія створаны беларусамі ў эміграцыі. Да прыкладу, тыя ж газеты «Бацькаўшчына», «Беларус», «Зважай» і іншыя, беларускі архіў у Нью-Йорку, бібліятэка імя Ф. Скарыны ў Лондане і іншыя цэнтры беларусазнаўства.

Паколькі мяркуецца ў асноўным прадставіць у энцыклапедыі гісторыю палітычную, то неабходна звярнуць увагу на пытанне дзяржаўнасці Беларусі ў розныя перыяды яе існавання. Былі заўвагі, што тычыліся недастатковай прадуманасці біяграфічнай часткі, бо адсутнічаюць многія імёны, якія непасрэдна звязаны з гісторыяй нашага народа, і інш.

Супрацоўнікі «БелСЭ» падзякавалі прысутным за ўсе выказаныя заўвагі, якія абяцалі па магчымасці ўлічыць. На заканчэнне намеснік галоўнага рэдактара А. Петрашкевіч пазнаёміў з планамі выдавецтва на будучыню. Ён сказаў, што пачынаецца выданне серыі «Мысліцелі Беларусі», якая будзе завершана персанальнай энцыклапедыяй «Кастусь Каліноўскі». Ёсць задума выдаць беларускія летапісы ў перакладзе на сучасную літаратурную мову. Увогуле энцыклапедыстаў чакае многа працы: пасля скарынінскай «Бібліі» трэба выдаць творы У. Ігнатоўскага, В. Ластоўскага.

Удзельнікі абмеркавання падпісалі зварот да прэзідэнта АН БССР У. Платонава з прапановай стварыць пад эгідай АН навукова-масавы ілюстраваны часопіс «Гісторыя Беларусі».

**НАШ КАР.**

# ВІНШАВАННЕ ЮБІЛЯРА

**2 лістапада споўнілася 80 год з дня нараджэння Максіма Лужаніна (Аляксандра Амвросьевіча Каратая) — аднаго са старэйшых беларускіх паэтаў, лаўрэата Літаратурнай прэміі імя Якуба Коласа, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі.**

**У той дзень на пашыраным пасяджэнні прэзідыума праўлення СП БССР адбылося віншаванне юбіляра. Паэты і празаікі, прадстаўнікі партыйных органаў, грамадскіх арганізацый, літаратурных выданняў і выдавецтваў цёпла віншавалі Аляксандра Амвросьевіча, прыгадвалі галоўныя вехі яго жыццёвага і творчага шляху, жадалі здароўя і поспеху ў працы.**

# У ДОБРЫ ШЛЯХ

**Абласны семінар творчай моладзі Віцебшчыны стаў традыцыйным. Наладжваюць яго ўпраўленне культуры аблвыканкома, абласны камітэт камсамола і творчыя арганізацыі вобласці.**

**На гэты раз ён праходзіў у Новалукомлі. На семінар з'ехаліся лепшыя прадстаўнікі творчай маладой інтэлігенцыі: мастакі, кампазітары, выканаўцы аўтарскай песні, кінааматары і літаратары. Як і заўсёды, пераважалі апошнія.**

**Удзельнікі семінара пазнаёміліся з флагманам беларускай энергетыкі — Лукомльскай ДРЭС, выступілі з творчай справаздачай у калгасе «Новая зара» Чашніцкага раёна, у Новалукомльскім Доме культуры.**

**Мне хочацца сказаць некалькі слоў найперш пра маладых паэтаў і празаікаў, пра тых, хто ўжо прымаў удзел у такіх семінарах, і пра тых, хто яшчэ невядомы чытачу.**

**І першыя, і другія не расчаравалі. Некаторыя «дараслі» ўжо да публікацый у абласной газеце, часопісе «Маладосць», у штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва». А ўрач з Бешанковіч Алесь Бабаед, напрыклад, паспеў надрукаваць вялікую нізку вершаў у калектыўным зборніку «Лагодны промень раніцы», стаў лаўрэатам прэміі камсамола Віцебшчыны.**

**Вырасла паэтычнае майстэрства настаўніцы з Лепельшчыны Веры Буланды. Яна таксама друкавалася ўжо ў абласной і рэспубліканскіх газетах. Тое ж можна сказаць і пра студэнта Віцебскага педагагічнага інстытута Юрыя Іваноўскага.**

**Прыемнае ўражанне пакінулі навічкі: настаўнік Ігар Пракаповіч з Пастаў, журналістка з Ушач Галіна Варатынская, інструктар абкома камсамола Алена Масла, рабочыя-палачане Сяргей Агееў і Аляксандр Суднік.**

**Наперадзе ў іх — нялёгкая літаратурная дарога. І добра, што на семінары яны пазнаёміліся, пасябравалі, падзяліліся сваімі думкамі, клопатамі і трывогамі.**

**У рабоце семінара бралі ўдзел загадчык сектара культуры ідэалагічнага аддзела абкома КПБ М. Пашынскі, паэты з Мінска Алесь Емяльянаў і Вячаслаў Дашкевіч.**

**У абласной газеце «Віцебскі рабочы» змешчана літаратурная старонка «Зарніцы» з творамі ўдзельнікаў семінара.**

**Алег САЛТУК,**
**сакратар абласнога аддзялення СП БССР.**

# МЫ ЖЫЛІ АДНОЙ СЯМ'ЁЙ

(Пачатак на стар. 1).

выканаўца ролі Гарлахвацкага з камедыі К. Крапівы Міхаіл Рубіс. Навечна праславіў сябе ў Лаўскім баі Аляксандр Ждановіч. Бязногім вярнуўся з вайны Хаім Абштэйн. Мужнай партызанкай і вернай спадарожніцай жыцця адважнага камандзіра народных мсціўцаў праявіла сябе Валянціна Александровіч.

А мы, малодшыя, жылі тады сваімі, не надта турботнымі клопатамі і заняткамі. Услаўлялі «вялікага» Сталіна за радаснае дзяцінства, вельмі спачувалі пакутнікам-неграм у капіталістычных краінах, і амаль штодня зацята вырывалі з падручнікаў старонкі з партрэтамі «ворагаў народа». Не ведалі, не думалі тады, што побач існуюць страшэнныя Курапаты, што недзе ў бязмежнай імперыі сталінскага рэпрэсіўнага архіпелагу бяздушныя вылюдкі катуюць і здзекуюцца з нашага выдатнага земляка — першага старшыні Беларускага савецкага ўрада Зміцера Фёдаравіча Жылуновіча, з мільёнаў бязвінных ахвяр бяздушнага таталітарнага рэжыму.

Асабліва моцна знітавалася наша інтэрнацыянальная дружба ў гады вайны. У партызанскіх атрадах, што дзейнічалі на Капыльшчыне, з ненавіснымі акупантамі змагаліся плячо ў плячо партызаны дзесяткаў нацыянальнасцей. Былы партызан брыгады імя Чапаева, а затым палкоўнік войска польскага Ольгерд Харытановіч нядаўна наведаў Капыльшчыну. Ён пісаў у раённай газеце: «У жорсткіх баях з гітлераўцамі ўдзельнічалі беларусы, рускія, украінцы, яўрэі, славакі... І разам з іншымі мовамі ў лясах раёна вялася размова на польскай мове. Побач граў на гармоніку паляк Франак Рымашэўскі і на баяне — беларус Саша. Разам ішлі на баявыя заданні і са смуткам апускалі ў магілы баявых сяброў».

Дык чаму ж цяпер у нашай краіне пачалася такая канфрантацыя на нацыянальнай аснове? Я думаю, што гэта і ад дэфіцыту духоўнасці. Прыкладаў тут можна прывесці безліч. Зазірніце ў нашу раённую бібліятэку, у яе чытальную залу — тут вы ўбачыце лічаных людзей, а брудны піўны бар ад адкрыцця да закрыцця нагадвае паўднёвы чыгуначны вакзал у пік курортнага сезону, яго бяруць штурмам.

Нельга стаць патрыётам, не паважаючы свой і іншыя народы з іх непаўторнымі традыцыямі, мовай і культурай.

Успамінаю зімовыя марозныя дні на пачатку 1945 года. Вайна грымела ўжо далёка за межамі Беларусі, а мы, яшчэ не абстраляныя беларускія хлопцы, грукалі чаравікамі ў абмотках па мёрзлым грунце Уручча і зычнымі галасамі абуджалі дрымотныя кроны соснаў папулярнай страявой песняй: «Нам друзья-товарищи, путь один — в волчью берлогу, дорога на Берлин».

Час цягнуўся аднастайна, марудна. У шэсць гадзін раніцы — пад'ём. А затым, пасля снедання і пастраення, аж да самага цямна — бясконцая таўкатня ля супрацьтанкавай саракапяткі, за якою трывала замацавалася назва «Бывай, Радзіма!». Больш за ўсё дапякала здзеклівая, зняважлівая муштра памочніка камандзіра артылерыйскага ўзвода Смяюхі. На яго пагонах чырванелі ўсяго дзве лычкі, а гонару было, што ў генерала. Не ведаю, ці прачытаў ён у жыцці хоць адну кніжку. Родная ўкраінская мова ў яго ных вуснах выглядала суцэльнай бруднай лаянкай. І яшчэ — нікога ён не любіў, салдат розных нацыянальнасцей надзяляў абразлівымі мянушкамі: чучмэк, кацап, бульбаш, жыд, пшэк і да т. п.

Хіба мала такіх Смяюх зараз? Гэта яны сеюць нянавісць між рознымі нацыянальнасцямі, на жаль, не сустракаючы пакуль належнага адпору.

У гэтым артыкуле я закрануў тэму інтэрнацыяналізму, братняй дружбы паміж народамі нашай краіны. Дружба гэтая зараз праходзіць цяжкія выпрабаванні. Веру, што яна выйдзе з іх абноўленай, яшчэ больш моцнай.

**У. ГУРЫНОВІЧ,**
**журналіст.**

г. Капыль.

---

Часам нам падабаецца, што вельмі імпэтна вырашаецца тая ці іншая справа, а прыгледзімся больш уважліва—бачым: памыляемся, гэта толькі ствараецца бачнасць вялікага імпэту. Які ўжо год у рэспубліцы дыскутуюцца пытанні адраджэння беларускай мовы, гавораць пра гэта з самых высокіх трыбун, з заўвагамі і прапановамі выступаюць у друку шматлікія аўтары — ад студэнта да акадэміка, і здаецца, усе перапоўнены цвёрдай рашучасцю неадкладна выправіць трывожную моўную сітуацыю, а яна, як на грэх, ну ніяк не выпраўляецца. Ад таго, што там-сям, нябыначай для аздаблення, родная мова загучала ў грамадскіх месцах, дзе-нідзе з'явіліся на ёй шыльды, вялікага задавальнення быць не можа. Асноўная задача — рэзкае пашырэнне сферы ўжытку роднай мовы — не вырашана.

Пра гэта пішуць нашы чытачы. «Цяжка адказаць на пытанне, якое месца займае сёння ў нашым жыцці беларуская мова і культура, — чытаем у лісце чытача з Віцебска С. Кавалеўскага. — Цяжка таму, што адно мы чытаем на старонках рэспубліканскага друку, другое бачым у жыцці. У друку мільгаюць аднатыпныя артыкулы аб «адраджэнні і пашырэнні» сферы ўжытку роднай мовы, а на самай справе адбываецца іншае: мова неўпрыкмет, як і раней, знікае, гіне, паціху страчвае свае і так хісткія пазіцыі і нацыянальная культура».

І такое сцвярджэнне чытача мае падставы. Вы часта ў жыцці сустракаеце беларускае слова? Гучыць яно сёння ў сценах афіцыйных арганізацый і ўстаноў? Пытанне, бадай, рытарычнае, адказ — вядомы. А, можа, я ўсё-такі праблему ўтрырую і тут усё ж намеціліся добрыя зрухі? Не, крызіс ці не паглыбляецца. Мой сябра, які нядаўна праводзіў сацыялагічныя даследаванні ў некаторых раёнах рэспублікі, вярнуўся з чарговай камандзіроўкі ў глыбокім трансе: «Амаль палова апытаных прапанавала тыражы беларускамоўных кніг урэзаць напалову». Старшы электрамеханік Асіповіцкага раённага вузла сувязі П. Жданаў з горыччу піша: «У мяне проста апускаюцца рукі, калі табе ў вочы кідаюць словы: «Навошта нам **ваша** мова і гісторыя, яна нам хлеба і мяса не дае, лепш бы заняліся тым, каб жылося лягчэй, а жыць можна і без **вашай** мовы, абы ўсё было добра». Каб так гаварыў не беларус, я б чалавека зразумеў, але калі такое гаворыць наш браток-беларус, я проста не знаходжу слоў, выказаць абурэнне, душа баліць ад таго, што яны нават і слухаць не хочуць аб адраджэнні нацыі».

Даруем духоўным фарцоўшчыкам, якія настойліва прапаноўваюць зрабіць эквівалентны абмен мовы на хлеб і каўбасу: для некаторых калі ў дэфіцыце першае, не мае сэнсу і другое, ад гэтага нікуды не дзенешся. Ацэньваючы падобную сітуацыю, можна сказаць: «Ішлі мы йшлі, браткі, і дайшлі!» Калі яшчэ крыху працягнецца такая духоўная «эвалюцыя», то, падобна, забытыя ад часоў нэпа млосныя воклічы «Хлеба, водки и зрелищ!» канчаткова зняславяць маўклівасць святых курганоў Белай Русі.

Некаторыя пярэчаць: такая абстаноўка не ўсюды. Маўляў, паглядзіце, як павысілася цікавасць да роднай мовы і культуры ў людзей творчых, асабліва інтэлігенцыі. Не трэба хлусіць самім сабе, хоць некаторыя, часта паўтараючы хлусню, могуць і самі з цягам часу ў яе паверыць. Становішча за гэтыя гады, на жаль, не палепшылася. Вось, да прыкладу, дынаміка росту астатку літаратуры на беларускай мове нашых рэспубліканскіх выдавецтваў: 1985 г.—1090,6 тысячы

*Беларускай мове — статус дзяржаўнай*

# НЕБЯСПЕЧНЫ СІНДРОМ

**ПАЛЕМІЧНЫЯ НАТАТКІ**

рублёў, 1986 г.—1132,0, 1987 г. — 1536,7, 1988 г. — 2095,7 тысячы рублёў. Як бачым, за тры гады астатак такой літаратуры ўзрос на 1 мільён рублёў. Зайдзіце ў кнігарні і гляньце на паліцы. Да болю журботнае відовішча: стаяць у адзіноце шыкоўна выдадзеныя шматтомнікі «Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі», «Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі», «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы». Блікуюць арыгінальнымі вокладкамі першыя тамы «Гісторыі мастацтва Беларусі», якую пачалі выдаваць адносна нядаўна, і я, заходзячы ў мінскі магазін «Падпісныя выданні», цвёрда перакананы, што яны апынянца сярод «неперспектыўных» кніг. Такія выданні, як «Беларуская ССР. Кароткая энцыклапедыя», «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы», «Беларускае народнае адзенне» ўтанілі напалову, але ад гэтага попыт на іх не ўзрос.

— Здаецца, робім шмат, каб зацікавіць чытача нашай кнігай, — расказвае намеснік генеральнага дырэктара аптоварознічнага аб'яднання кніжнага гандлю «Белкніга» А. Сліжова. — Мы распрацавалі шэраг мерапрыемстваў па паляпшэнні прапаганды і распаўсюджвання беларускай кнігі, летась упершыню ўвялі асартыментны мінімум кніг на нацыянальнай мове.

Да сумных высноў прыводзіць аналіз падпіскі на выданні нашых вядомых пісьменнікаў. На творы У. Караткевіча падпісалася ў рэспубліцы 19863 чалавекі (тыраж 60000 экземпляраў), А. Макаёнка — 1300 чалавек (тыр. 7000 экз.), Ц. Гартнага — 560 чалавек (тыр. 6600 экз). Не буду вылічваць, на колькі тысяч чалавек прыходзіцца адна кніга таго ці іншага пісьменніка. Не сумняваюся: будзе своеасаблівы рэкорд краіны. Але гэта, на жаль, не апошні здзіўляючы рэкорд, які высвечвае духоўныя запатрабаванні нашага народа.

— Летась быў праведзены пайменны ўлік літаратуры, — працягвае размову А. Сліжова, — астатак кніг у сярэднім па краіне склаў 3,7 працэнта. У нас жа засталося не рэалізаваным ад тыражоў 9,6 працэнта беларускамоўных кніг — першае месца ў краіне. Пасля нас ідуць Таджыкістан — 9, Малдавія — 8,8 працэнта. Гэта пры тым, што тыражы беларускамоўных кніг зусім не высокія...

Чаму за апошнія гады ў моўным пытанні мы амаль не адчулі пазітыўных зрухаў? Ці не таму, што на дзяржаўным узроўні робіцца недастаткова рэальных, канкрэтных захадаў дзеля вырашэння гэтага пытання. Працэс адраджэння мовы некаторыя ўяўляюць так: адбудзецца адраджэнне — добра, не атрымаецца — бог з ім, ані ў каго за такі грэх пагоны з плеч не здымуць. Прынялі праграму «Родная мова», і пачалі кіраўнікі ўсіх рангаў набіраць сабе дывідэнты: «Яе мы падтрымалі, распрацавалі, цяпер толькі засталося ўкараніць у жыццё...» Але рэалісты, а не ілюзорна мыслячыя асобы ўпэўнены, што праграма — чарговая паператворчасць — нічога значнага не дасць, як не ўпэўнены мы ў эфектыўнасці праграм «Здароўе», «Экалогія», «Спадчына». Як усе пераканаліся, такія праграмы не выконваюцца гадамі. Напрыклад, «Харчовая праграма» сёння стала «притчей во языце». Калі з такім поспехам будзе ажыццяўляцца праграма «Родная мова», то праз нейкія два дзесяцігоддзі на нашай зямлі наогул не пачуем беларускага слова.

«Відаць, нашым высокім таварышам родная мова не трэба, — развакае ўмудроная жыццём інтэлігенцыя, — была б у іх толькі лыжка і міска глыбейшая» (перафраз усім вядомай песні). Сапраўды, пазіцыя адказных асоб у гэтым пытанні звышінтэрнацыянальная і дэмакратычная: кожны, хто жыве ў Беларусі, можа адносіцца да культуры карэннага насельніцтва, як пажадае. Толькі некаторыя, спрабуючы стварыць эфектную бачнасць сваёй заклапочанасці станам беларускай мовы, пераконваюць: развіццё мовы — дзяржаўная справа, і дзяржава бярэ пад абарону мову карэннага насельніцтва. Нават недзе адкрываюцца курсы па вывучэнню роднай мовы. Вось з майскай аб'явы ў Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР: «Жадаючым займацца ўдасканаленнем сваёй беларускай мовы пад кіраўніцтвам П. Садоўскага. Заняткі мяркуем пачаць у нашым інстытуце ў самы бліжэйшы час пры **наяўнасці** (падкрэслена мною. — **В. Л.**) пэўнай колькасці прыняць удзел у занятках. Камітэт камсамола, прафком».

Заўважылі, якія грамадскія арганізацыі запрашаюць на заняткі? Камітэт камсамола і прафком. Запрашаюць, як у ЖЭСах жанчын на курсы крою і шыцця: хочаш — хадзі, хочаш — не, і заняткі пачнуцца толькі пры наяўнасці эннай колькасці чалавек.

Вялікая частка кіраўнікоў не толькі не зацікаўлена ў адраджэнні мовы, але, горш таго, сваімі дзеяннямі яшчэ і тармозіць гэты працэс. Сярод прычын, якія «перашкаджаюць» больш інтэнсіўна ўкараняць родную мову ў жыццё, яны вылучаюць дзве.

Паскарэнне тэмпаў, ім здаецца, паспрыяе ўзнікненню міжнацыянальных канфліктаў, а гэта прывядзе народ у стан поўнай дэмаралізацыі. Пасля рэвалюцыі, з іх слоў, праводзіць падобную кампанію было значна прасцей, беларуская мова жыла ў народзе, а цяпер, маўляў, адбыліся вялікія перамены ў свядомасці.

Звернемся да фактаў. Бурная дыскусія па далейшым развіцці нацыянальнага жыцця ў рэспубліцы адбылася ў сакавіку 1923 года на VII з'ездзе Кампартыі Беларусі. Праціўнікі беларусізацыі, якія былі на з'ездзе ў большасці, прагаласавалі супраць рэзалюцыі аб неабходнасці распрацоўкі мерапрыемстваў па пашырэнні ўжывання нашай мовы на тэрыторыі рэспублікі. Старшыні ЦВК БССР А. Чарвякову не ўдалося пераканаць камуністаў у неабходнасці такіх мер. Больш таго, у выніку з'ездаўскіх дыскусій была прынята рэзалюцыя, у якой гаварылася аб засіллі нацыяналістаў у культурна-асветніцкім асяроддзі, аб неабходнасці ўзмацнення барацьбы з так званымі «нацдэмаўцамі». Сцвярджалася, што карэнізацыя насельніцтва нічога не дасць, бо народ не падтрымае ініцыятывы з'езда.

У гэтых разваканнях быццам прысутнічала рацыянальнае зерне. Вось што, напрыклад, паказала апытанне на факультэце грамадскіх навук Белдзяржуніверсітэта ў снежні 1922 года, пра што пісаў «Веснік наркампроса ССРБ» (1922 г., № 3, ст. 14). Было апытана 736 чалавек, па нацыянальнай прыналежнасці беларусаў — 193 чалавекі (26%), яўрэяў —498 (67%), рускіх — 26 (4%), палякаў — 4 (0,5%), іншых нацыянальнасцей — 16 (2,5%) чалавек. Як родную мову 112 чалавек назвалі беларускую — (15%), 380 — яўрэйскую (52%), 201 — рускую (27%), 7 — польскую (1%), 5% роднай мовай назвалі мовы іншых народаў СССР. Як бачым, нават 11% беларусаў адракліся ад сваёй мовы. Самаадрачэнне ад сваёй мовы было ўласціва і народам іншых нацыянальнасцей. Напрыклад, 15% апытаных яўрэяў таксама не прызналі сваёй роднай мовай мову свайго народа. І гэта сёння гучыць не як папрок у адрас народаў, а як прыкры боль за іх невысокую этнічную самасвядомасць. Заўважце яшчэ адну тэндэнцыю, характэрную і для дня сённяшняга: амаль 25% нярускіх мову рускую назвалі роднаю. Здавалася, што беларусізацыю было праводзіць немагчыма. Але суверэнная рэспубліка ніяк не магла існаваць без сваёй мовы, гэта выдатна разумела высокасвядомае партыйнае і савецкае кіраўніцтва Беларусі, і карэнізацыя адбылася, прынёсшы нашаму народу нябачнае ў гісторыі адраджэнне.

Цяпер пра другую прычыну, якая быццам перашкаджае надаць статус дзяржаўнай беларускай мове. Многія кіруючыя і некіруючыя таварышы сцвярджаюць, што гэтага не хоча... народ. З настойлівасцю, вартай лепшага прымянення, такая думка мусіруецца на канферэнцыях і нарадах, у выступленнях адказных асоб. Інспектар Мінскага абкома партыі М. Падгайны, удзельнічаючы ў дні работы VIII пленума ЦК ЛКСМБ у рабоце дыскусійнага цэнтра па праблемах беларускай мовы, падкрэсліў: «Мы праводзілі і праводзім сацыялагічныя даследаванні, якія пераконваюць, што сам народ супраць дзяржаўнасці беларускай мовы».

Азіраючыся на вялікія і малыя кампаніі, якія рэгулярна напаўнялі тлумам наша жыццё, заўважым, што ва ўсе часы свае кроўныя інтарэсы той-сёй заўсёды выдаваў за «народныя». Таму паўстае заканамернае пытанне: ці можна так катэгарычна сцвярджаць? Думаю, што не.

Па-першае, сацыялагічнае апытанне — гэта ўсяго толькі апытанне, з людзьмі можна гаварыць па-рознаму і лічбы могуць быць самыя розныя, асабліва ж па такой складанай праблеме, як моўная. Па-другое, слухаючы такіх прамоўцаў, я ўспамінаю пісьмы, якія прыходзяць у рэдакцыю і ў якіх гучыць дыяметральна супрацьлеглая думка. Прывяду радкі толькі з некаторых.

**«Беларуская рэспубліка павінна быць з дзяржаўным статусам беларускай мовы, — піша ветэран вайны і працы з далёкай Тульшчыны Я. Кохан. — Гэта натуральна і адпавядае здароваму сэнсу. Але хто паспеў ад гэтага адвыкнуць за мінулае паўвека, пнецца даказаць бяздоказнае аб ушчамленні правоў небеларускамоўнага насельніцтва».**

**«Толькі наданне беларускай мове статуса дзяржаўнай зможа пакласці пачатак яе выратаванню», — упэўнены студэнт Д. Мальчэўскі з Мінска.**

**«Абласныя драмтэатры павінны быць беларускамоўнымі, тады не будзе паўставаць неразумнага пытання аб двухмоўі на адной сцэне, — піша інжынер з Вільнюса Л. Мілош. — А поспехам у гледача больш карыстаюцца беларускамоўныя тэатры. Такі вывад я зрабіла пасля гастроляў у нас тэатра імя Я. Купалы і Гродзенскага аблдрамтэатра».**

**З цвярозай развакліваццю падыходзіць да вырашэння наспеўшых моўных праблем мінчанін В. Паўловіч. «Уважліва прачытаў прынятае рашэнне пастаяннай камісіі па нацыянальных пытаннях і міжнацыянальных адносінах Вярхоўнага Савета БССР па развіцці і павышэнні ролі беларускай мовы ў жыцці рэспублікі. Добрае рашэнне, своечасовае. Засмучае толькі неканкрэтнасць у пытанні надання мове статуса дзяржаўнай. Прапануецца СТВАРЫЦЬ умовы для таго, каб НАДАЦЬ мове статус дзяржаўнай. Мне здаецца, спачатку трэба НАДАЦЬ мове статус дзяржаўнай, а потым патрабаваць стварэння ўмоў для развіцця мовы на АСНОВЕ ЗАКОНА. У адваротным выпадку давядзецца ствараць умовы яшчэ, паверце мне, дзесяткі гадоў».**

Міжволі прыходзіш да высновы, што супраць надання дзяржаўнага статуса роднай мове нярэдка выступае не народ, а, часцей, надзеленыя рэальнай уладай таварышы. Гэтая ўлада і дазваляе ім ствараць эфект «народанепрызнання» (свядома ці не —гэта ўжо іншая справа). Нездарма, на думку нашага чытача В. Арлова з Віцебска, сёння актуальна гучаць словы старшыні ЦВК БССР А. Чарвякова, сказаныя ім у 1923 годзе: «Мы ведаем, што ў сваёй працы нам давядзецца спаткаць супраціўленне былых расейскіх чыноўнікаў — выхадцаў з беларускай вёскі. Апіраючыся на сваё беларускае паходжанне, яны будуць даводзіць, што хоць яны й беларусы, аднак не бачаць патрэбы ў беларусізацыі...» («Савецкая Беларусь», 23.06.1923).

Вось як праходзіла сёлета жнівеньская раённая нарада настаўнікаў у Рэчыцы, пра што нам напісаў настаўнік Э. Акулін: «Выступіў на ёй загадчык райана, але сціплая інфармацыя і непераканаўчы заклік да стварэння першасных суполак ТБМ — яшчэ не шчырая занепакоенасць, пра якую гаварыла Міністэрства народнай адукацыі... А выступленне першага сакратара РК КПБ І. Ф. Тачылкіна па гэтым пытанні наогул прымусіла многіх «сур'ёзна» задумацца. Таму што, відаць, асноўнай мэтай яго даклада было жаданне звярнуць самую пільную ўвагу на «негатыўныя працэсы», якія адбываюцца ў рэспубліках Прыбалтыкі і якія нібы ў многім звязаны з моўнымі праблемамі. Ён настойліва падкрэсліваў права «свабоднага моўнага выбару» для беларусаў».

**І такая думка «звышпільных інтэрнацыяналістаў» падтрымліваецца, на жаль, на самым высокім узроўні. Здаецца, каму-каму, а былому Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР Г. С. Таразевічу было вядома, да чаго даведзена беларуская мова ў рэспубліцы, прэзідэнтам якой ён з'яўляўся. Перад апошнімі выбарамі ў народныя дэпутаты СССР ён даў інтэрв'ю карэспандэнту мядзельскай райгазеты «Нарачанская зара» (17. 02. 89). Адно з пытанняў тычылася адкрыцця ў Мядзеле новай школы і мовы, на якой павінна весціся ў ёй выкладанне (руская школа ў райцэнтры, зразумела, ужо была). Адказ Г. С. Таразевіча: «...ленінская думка заключаецца ў наступным: там, дзе насельніцтва ў якасці зносін карыстаецца некалькімі мовамі, устанаўліваць якую-небудзь адну дзяржаўнай — гэта проста няправільна... Таму, калі сёння развакаць аб рэальнасці, то, магчыма, і разумна было б ставіць пытанне аб дзвюх дзяржаўных мовах — беларускай і рускай». Вось якая канцэпцыя двухмоўя, вось якая пазіцыя ў справе выратавання роднай мовы! Параду мядзельцы зразумелі «правільна»: званю ў райцэнтр — там адкрылася новая руская школа.**

Гэты факт яшчэ раз пераконвае ў тым, які горкі лёс наканаваны роднай мове пры ажыццяўленні афіцыйнай палітыкі двухмоўя на Беларусі.

Такія адносіны высокіх асоб да адраджэння беларускай мовы перадаюцца кіраўнікам ніжэйшых рангаў. Прысутнічаючы на пасяджэнні таго самага дыскусійнага цэнтра, пачуў я цікавую інфармацыю. У многіх выклікала непаразуменне фармуліроўка праекта рэзалюцыі «Аб беларускай мове»: «ЦК ЛКСМ Беларусі выказваецца за наданне і рэальнае забеспячэнне беларускай мове статуса дзяржаўнай мовы ў Беларускай ССР, **а рускай мове — статуса агульнадзяржаўнай у маштабе СССР»** (падкрэслена мною. — **В. Л.**). З апошняй прапановай не пагадзілася большасць удзельнікаў дыскусіі. Высветлілася, што ў першапачатковым варыянце такога тэксту і не было, гэта фармуліроўка з'явілася пасля Пленума ЦК КПСС па нацыянальным пытанні.

**Чытачы разумеюць вастрыню праблемы. «Я лічу, што аднымі з самых пацярпеўшых у пытаннях роднай мовы апынуліся мы, беларусы, — развакае мінчанін А. Гурыновіч, — Нас з дапамогай рэпрэсій і пагроз амаль сілком змусілі забыць сваю родную мову, культуру, мы страцілі нацыянальны гонар і апынуліся ў ліку нацыянальных нігілістаў».**

**«У кожнай рэспубліцы, без выключэння, свая мова павінна стаць дзяржаўнай», — перакананы ветэран Узброеных Сіл СССР М. Луканскі з Мінска.**

**Тыповую карцінку таго, як мы «адвучваемся» ад сваёй мовы, падае ў сваім лісце інжынер-будаўнік са Смаргоні З. Марчанка: «З дзяцінства ў вёсцы я чула навокал толькі родную беларускую мову, закончыла беларускую вясковую школу і паехала вучыцца ў горад. А там усе гавораць па-руску і ўсе прадметы выкладаюць на рускай мове. Прызнаюся, вельмі цяжка было прывыкаць, адчувала я сябе няёмка. Усё гэта выклікала ў мяне злосць немаведама на каго. Злосць была ад таго, што я нідзе не магла карыстацца сваёй роднай мовай».**

Але трэба быць дакладным: ці мы ад роднай мовы адвучыліся ці нас адвучылі? Адказ на гэта пытанне дае згаданы ліст В. Арлова з Віцебска. У ім аўтар спрачаецца з пазіцыяй гісторыка П. Петрыкава, які афіцыйна ў друку выказаў думку, што страта народам беларускай мовы — працэс натуральны і аб'ектыўны. «Ён павінен ведаць, а чытачы, можа, і памятаюць, як у 50—60-ыя гады ўсе беларускамоўныя школы ў горадзе ператварыліся ў рускамоўныя. Шаноўны доктар гістарычных навук павінен ведаць аб усесаюзнай канферэнцыі ў Ташкенце пад старшынствам Рашыдава ў 1979 г. па пашырэнні ўжывання рускай мовы. Гісторык павінен добра памятаць і пастанову ЦК КПСС і СМ СССР № 473 ад 26 мая 1983 года «Аб дадатковых мерах па паляпшэнні вывучэння мовы ў агульнаадукацыйных школах і іншых навучальных установах саюзных рэспублік», якая ў друку толькі пераказвалася, на падставе якой і цяпер класы і групы большыя за 25 навучэнцаў пры вывучэнні рускай мовы дзеляцца папалам, а пры вывучэнні роднай — не, на падставе якой настаўнікі рускай мовы і сёння атрымліваюць на 15% больш заробак, чым настаўнікі беларускай мовы».

Занепакоенасць станам роднай мовы гучыць у лістах А. Івашэвіч з Ліды, У. Савіцкага з Мінска, У. Харытонава і А. Уладыкі з Маладзечна, Рачкоўскага з Віцебска, З. Руткоўскай са Смаргоні, Т. Трафімчык са Слоніма і многіх іншых.

І не проста занепакоенасць. Чытачы турбуюцца: калі ж, урэшце, адбудуцца тут істотныя змены? Існаванне ж мовы — неабходная ўмова годнага існавання, жыццядзейнасці народа.

Вячаслаў **ЛАПЦІК**.

## З пошты «ЛіМа»

# • Пятнаццаць з шаснаццаці
# • Так і не змагла знайсці...
# • Супярэчыць ці не супярэчыць?
# • З мэтай далейшай дэмакратызацыі...

□

На правым беразе ракі Гайны, што працякае праз Лагойск, знаходзіцца маляўнічы куток прыроды. Гэта парк культуры і адпачынку, заснаваны ў 30-я гады мінулага стагоддзя слаўтым археолагам і этнографам Канстанцінам Тышкевічам.

Парк займае плошчу 16 гектараў. Якія толькі дрэвы не былі высаджаны ў ім! Тут і канадскі топаль, і ваўстралісты клён, і пенсільванскі ясень, завезеныя здалёку, і мясцовыя пароды дрэў—елка, вярба, бяроза.

Ствараўся парк па строга прадуманым плане. Пасадка дрэў вялася купамі і алеямі, з экзатычнымі між іх палянамі. Характво парку надавалі крыніцы, якія прабіваліся наверх з глыбінь зямлі. Пад шатамі дрэў заўсёды, нават у летнія спякотныя дні, была прахалода.

І яшчэ адна адметнасць. Лагойскі парк—месца гістарычнае, тут да нашых дзён збераглося высокае замчышча, глыбокія равы вакол яго.

Парк аб'яўлены заказнікам. Аднак толькі на словах. За паркам па сутнасці ніхто не сочыць, насаджэнні яго псуюцца. Больш таго. Добрую частку гэтага унікальнага кутка прыроды з дазволу мясцовых улад пераварылі ў спартыўны комплекс. Для гэтага была сапсавана цэнтральная паляна, насаджэнні вакол яе высечаны. Знішчылі, па сутнасці, і другую паляну, на якой таксама абасноўваліся розныя спартыўныя збудаванні.

Некалькі гадоў назад было прынята рашэнне рэканструяваць парк, вярнуць яму былую прыгажосць. Але, зноў-такі, рабілася гэта некваліфікавана. Галоўная ўвага была звернута на розныя дэкаратыўныя збудаванні, а не на захаванне зялёнага ўбору. Старыя дрэвы паступова адыходзяць у нябыт, а на іх месцы новыя не паяўляюцца. Можа стацца так, што праз колькі гадоў уратаваць парк будзе позна.

Ды і рака Гайна, што цячэ праз парк, не ў лепшым стане. Хоць і ачышчалі дно, паглыбілі воднае люстра, аднак берагі па-ранейшаму засталіся забалочанымі, да іх месцамі не падступіцца. Зроблена ўсё наспех, абы асвоіць адпушчаныя сродкі. У дадатак рэчка забруджваецца адыходамі прадпрыемстваў і становіцца мёртвай.

**Б. САСНОЎСКІ.**

г. п. Лагойск.

□

**Спачатку было слова. Так гаварылі старадаўнія мудрацы. І, напэўна. не без падстаў. Сучасныя ўвішныя «деловые» асобы часта кідаюць нам у твар: «Работать нужно, поднимать экономику, а не о языке болтать!»**

**Так, вядома, працаваць трэба, але ж праца без галавы, без душы — гэта праца раба. Вынікі гэтай «дзелавой» філасофіі—наглядны стан нашай сучаснай эканомікі і культуры.**

**Роднае слова—гэта не пусты гук, а святая існасць, жыццядайная сіла народа. Чалавек без роднай мовы — як птушка без крыл. Адгаворка, што бацькі не хочуць, каб іх дзеці вучыліся на беларускай мове, не адпавядае рэальнасці. Разумны чалавек не адрачэцца ад роднай мовы, як і ад свайго народа. Маю думку пацвярджае і адзін з мноства такіх фактаў.**

**Незадоўга да 1 верасня сёлетняга года па прапанове загадчыка гарана г. Баранавічы я ўзяў без выбару спіс 16 сем'яў, дзеці якіх павінны былі ісці ў першы клас. На працягу трох дзён у вольны час я наведваў сем'і. Размове з бацькамі кожнага школьніка я аддаў не больш за пяць хвілін. Вынік: з 16 бацькоў 15 выказалі жаданне вучыцца на беларускай мове.**

**Праўда, большасць бацькоў бачаць гарантыю навучання і авалодання роднай мовай толькі пры ўмове дзяржаўнасці беларускай мовы.**

**Уладзімір ШУТ,**
**член Таварыства беларускай мовы.**

г. Баранавічы.

□

Неяк я загаварыла пра творы беларускіх аўтараў з вучаніцамі музычнай школы. Спыталася пра сучасных нашых кампазітараў.

— Ханок, Лучанок,—амаль у адзін голас адказвалі пяцікласніцы.

— І Глебаў, здаецца, беларускі кампазітар,—дадала старэйшая.

Высветлілася, што за час вучобы ў музычнай школе ніхто з маіх субяседніц не выконваў беларускіх твораў, ніхто з імі нават не гаварыў пра беларускіх аўтараў. Курс беларускай музычнай літаратуры пачынае выкладацца ў школе толькі ў выпускным класе, пасля вывучэння замежнай, рускай і савецкай музлітаратур. І адведзена на яго ўсяго толькі 36 гадзін. За такі час немагчыма нават інфармацыйна пазнаёміць вучняў з усімі дасягненнямі беларускай музычнай культуры.

Такое ж становішча і ў музычных вучылішчах рэспублікі. Там сітуацыя такая: 37 гадзін на трэцім курсе (і не як прадмет, а як абавязковы факультатыў). Карацей кажучы, знаёмства з родным мастацтвам адбываецца як бы на бягу, на ляту. А што разгледзіш на бягу, на ляту?

Ну, а знаёмства з фальклорам? Выкладаецца, зноў-такі, рускі фальклор. На сённяшні дзень у Беларусі няма ніводнага падручніка, ніводнага метадычнага дапаможніка па выкладанні менавіта беларускага фальклору ў музычных вучылішчах рэспублікі. Вывучэнне гэтага прадмета вядзецца па рускіх падручніках. Зыходзячы з іх, будуюцца і навучальныя праграмы па гэтым курсе. Калі і даведваюцца навучэнцы пра тыя ці іншыя беларускія абрады і песні, дык толькі з вуснаў выкладчыкаў-энтузіястаў (калі такія ў вучылішчы ёсць).

Наогул, у навучальных установах вельмі рэдка гучаць беларускія творы. Звяртаюцца да іх нямногія выкладчыкі, па сутнасці—адзінкі. Неяк я рыхтавала тэлеперадачу «Пераэовы». Як ні шукала, але так і не змагла знайсці ў Брэсцкім музычным вучылішчы навучэнца-скрыпача, які б выканаў у ёй беларускі твор. А ў дадатак пачула ад выкладчыцы, што струннікі ўвогуле стараюцца пазбягаць твораў беларускіх кампазітараў.

Мне здаецца, трэба перагледзець навучальныя праграмы музычных устаноў рэспублікі і ўключыць у іх абавязковае выкананне беларускіх твораў, асабліва на ўступных і выпускных экзаменах. Існуе ж абавязковае выкананне поліфанічнага твора буйной формы і гэтак далей? Чаму б не дадаць сюды яшчэ адзін твор беларускага аўтара? На мой погляд, гэта дапамагло б «прачнуцца» тым педагогам-музыкантам, якія мала цікавяцца беларускай музыкай або не цікавяцца зусім.

Час перагледзець і практыку атэстацыі самадзейных мастацкіх калектываў. Ці можа насіць ганаровае званне «народны» калектыў, у рэпертуары якога адзін-два, а то і зусім няма беларускіх твораў? Які гэта прыклад для іншых?

І яшчэ. Ужо які год па краіне крочыць перабудова, ідзе адраджэнне нацыянальных традыцый, моў, культур. Але гэты пазітыўны працэс вельмі марудны на Брэсцкай абласной студыі тэлебачання. Тут пераважная большасць праграм выходзіць па-руску. Не лепшае становішча і на Брэсцкім абласным радыё, дзе, да ўсяго, яшчэ і нізкая моўная культура ўвогуле. Вельмі часта тут называецца «двухмоўе навыварат», калі інтэрв'ю даецца па-беларуску, а журналіст, не ведаючы мовы, задае пытанні па-руску.

«Нельга есці хлеб народа і грэбаваць яго наай мовай»,—сказаў больш за сто гадоў назад вялікі сын беларускага народа, рэвалюцыянер і асветнік Кастусь Каліноўскі. Сёння гэтыя словы набываюць новы сэнс. Толькі праз нацыянальнае, самабытнае магчыма зразумець агульначалавечае, а не наадварот. Толькі праз нацыянальнае магчыма выхаваць сапраўднага інтэрнацыяналіста, пазбавіцца негатыўных з'яў у міжнацыянальных адносінах.

**Марыя АСІНЧАНКА,**
**настаўніца СШ № 7.**

г. Брэст.

□

**У «Заключэнні па статуту Беларускага народнага фронту за перабудову «Адраджэнне» адмаўленне ў рэгістрацыі БНФ абгрунтоўваецца тым, што ў статуце маецца «палажэнне, якое супярэчыць канстытуцыйным прынцыпам». Гэтае палажэнне аб тым, што «БНФ—аўтаномнае фарміраванне, якое дзейнічае самастойна і не падпарадкоўваецца іншым арганізацыям і ўстановам». Пярэчанні выклікала і тое, што «БНФ прымае ўдзел у грамадскім кантролі за ходам выбарчай кампаніі», а таксама, «што БНФ ажыццяўляе грамадскі кантроль за дзейнасцю выканаўчых органаў улады», «сочыць за выкананнем у Беларускай ССР міжнародных пагадненняў і пактаў па абароне грамадзянскіх, палітычных, сацыяльных правоў, па абароне правоў і свабод чалавека». Ну, і несумненна тое, што БНФ імкнецца змяніць некаторыя артыкулы Канстытуцый СССР і БССР.**

**На маю думку, такое «Заключэнне» выяўляе прынцыповае адмаўленне народаўладдзя і дэмакратыі, парушае правы чалавека. зафіксаваныя ў Канстытуцыях БССР і СССР і міжнародных пагадненнях, падпісаных СССР. Бо ў Міжнародным пакце аб грамадзянскіх і палітычных правах, прынятым на XXI сесіі Генеральнай Асамблеі ААН 16.XII.1966 г., ратыфікаваным Прэзідыумам Вярхоўнага Савета СССР 18.IX.1973, і які ўступіў у сілу 23.III.1976 г., у артыкуле 22 сказана: «Кожны чалавек мае права на свабоду асацыяцый з іншымі, уключаючы права ствараць прафсаюзы, у якія ўступае для абароны сваіх інтарэсаў. Выкарыстанне гэтага права не падлягае ніякім абмежаванням, акрамя тых, якія прадугледжваюцца законам і якія неабходны ў дэмакратычным грамадстве ў інтарэсах дзяржаўнай і грамадскай бяспекі, грамадскага парадку, аховы здароўя, духоўнасці насельніцтва і абароны правоў і свабоды іншых асоб». А ў артыкуле 25 сказана: «Кожны грамадзянін павінен мець без якой бы ні было дыскрымінацыі і неабгрунтаваных абмежаванняў права і магчымасць: а) прымаць удзел у вядзенні дзяржаўных спраў як непасрэдна, так і праз выбраных прадстаўнікоў».**

**У «Асновах грамадзянскага заканадаўства СССР і саюзных рэспублік» у артыкуле 129 сказана: «Калі міжнародным дагаворам або міжнародным пагадненнем, у якім удзельнічае СССР, устаноўлены іншыя правілы, чым тыя, якія ўтрымліваюцца ў Савецкім грамадзянскім заканадаўстве, то прымаюцца правілы міжнароднага пагаднення».**

**Акрамя таго, у «Заключэнні па статуту Беларускага народнага фронту...» утрымліваецца шэраг супярэчнасцей і ператрымак. Так, у адным месцы прыгадваецца, што паводле статута «БНФ дзейнічае ў рамках Канстытуцыі і законаў БССР», а праз некалькі абзацаў сцвярджаецца: «У статуце БНФ нічога не сказана пра абавязкі яго ўдзельнікаў захоўваць Канстытуцыю СССР, Канстытуцыю БССР і савецкія законы, паважаць правілы сацыялістычнай супольнасці».**

**Імкненне БНФ адрадзіць мову, культуру, нацыянальную самасвядомасць беларусаў, на думку аўтараў «Заключэння...», «непазбежна прывядзе да парушэння раўнапраўя людзей, дыскрымінацыі многіх асоб у сувязі з нацыянальнай прыналежнасцю, распальвання нацыянальнай розні», хоць у праграме і статуце БНФ выразна заяўляецца аб павазе правоў і культур усіх нацыянальных меншасцяў.**

**Наводзіць на роздум той факт, што да сённяшняга дня грамадскія арганізацыі, якія ўзніклі самастойна без удзелу ўлад (за выключэннем ТБМ), да гэтага часу не зарэгістраваны.**

**Л. РАВУН,**
**настаўнік, ветэран працы.**

г. Мінск.

□

Апошнім часам у нашу рэспубліку зачасцілі прадстаўнікі інтэрфрантоў Прыбалтыкі. Як мы павінны ставіцца да гэтага? Мусіць, усе мы не хочам, каб і насельніцтва Беларусі падзялілася на дзве палавіны, каб і ў нас была канфрантацыя і варожасць розных груповак. Моўная сітуацыя ў нас і ў прыбалтыйскіх рэспубліках зусім іншая. У Беларусі становішча з роднай мовай проста катастрафічнае. Нацыянальная свядомасць большасці беларусаў надзвычай нізкая. Разгул нацыяналізму нам не пагражае. Кожны небеларус, які валодае рускай мовай, разумее па-беларуску. Таму ў нас інтэрфронт—наўрад ці мае базу. Але ён можа быць створаны рэакцыйнымі сіламі з мэтай арганізацыйнага расколу грамадства, дэстабілізацыі і без таго падарванага сацыяльна-эканамічнага становішча, загубы дэмакратычных пачынанняў у нацыянальным пытанні.

Вось таму і выклікае насцярожанасць тое, што многія прадпрыемствы і партыйныя арганізацыі, глыбока не ўнікаючы ў сутнасць справы, аддаюць свае трыбуны розным наездным «інтэрфронтаўцам». Насцярожанасць узрастае ад таго, што рух гэты прэтэндуе на агульнасаюзны, уключаючы інтэрфранты Эстоніі, Латвіі, Малдавіі, іншых рэгіёнаў (гл.: «Во славу Родины», 12 ліпеня; «Советская Белоруссия», 15 жніўня 1989 г.).

Дык хто ж бярэ на сябе адказнасць за арганізацыю расколу ў Беларусі грамадскіх перабудоўчых сіл?

**Алесь ЛОЗКА,**
**малодшы навуковы супрацоўнік ІМЭФ АН БССР.**

г. Мінск.

□

**У рэзалюцыі XIX Усесаюзнай партканферэнцыі «Аб дэмакратызацыі савецкага грамадства і рэформе палітычнай сістэмы» сказана: «Як пазітыўную з'яву трэба разглядаць узнікненне ў апошні час шэрагу новых асацыяцый і аб'яднанняў, якія ставяць сваёй мэтай садзеянне справе сацыялістычнага абнаўлення». І яшчэ: «Са свайго боку партыя будзе ўсямерна садзейнічаць... каб і далей развіваўся ўсенародны патрыятычны рух за перабудову».**

**У краіне абвешчаны курс на канструктыўны дыялог з самымі рознымі грамадскімі фарміраваннямі, на падыходзе Закон СССР аб грамадскіх арганізацыях і добраахвотных аб'яднаннях грамадзян. Тым больш выклікае здзіўленне выступленне некаторых членаў КПСС на апошнім пленуме Мінскага гаркома партыі.**

**Хоць у большасці выступленняў і ў спрэчках па дакладзе сакратароў райкомаў, парторгаў прадпрыемстваў прагучалі канструктыўныя прапановы па «кансалідацыі ўсіх здаровых сіл і аб'яднанняў грамадзян і грамадскіх рухаў», заклікі «не ісці на канфрантацыю дзеля канфрантацыі», знайшліся і такія, хто, відаць, не згодны з гэтым. Так, В. Чыкін, сакратар парткома гадзіннікавага завода, у сваім выступленні актывістаў руху ў падтрымку перабудовы—Беларускага народнага фронту—прама назваў «праціўнікамі» (чытай—ворагамі), а ў абуджэнні палітычнай актыўнасці мас угледзеў «цяжкі крызіс». «Грамадска-палітычная сітуацыя ў горадзе катастрафічная», — палохаў ён прысутных. «Папярэднюю выбарчую кампанію прайгралі», — так ацаніў Чыкін вынікі выбараў народных дэпутатаў СССР у Мінску. Чыкіна не цікавіць, што працэнтны склад членаў КПСС сярод дэпутатаў Вярхоўнага Савета СССР павялічыўся да 80 працэнтаў, ім кіруюць іншыя меркаванні. «Калі прайграем і гэтую выбарчую кампанію (у мясцовыя Саветы), то з уладай давядзецца расстацца». Вось яно што!**

**Паражэнне на выбарах асобных работнікаў апарату аўтаматычна пераносіцца на паражэнне ўсёй партыі. Перабудову пачалі лепшыя сілы партыі, і яе падтрымлівае народ. Без адзінства народа і партыі нам задачы перабудовы не вырашыць. Чыкін жа дагаварыўся да таго, што нібыта «БНФ вядзе работу па адхіленні партыі ад улады». Я чытаў праграму БНФ, там няма і намёку на гэта. Наадварот, там сказана, што БНФ «ствараецца для арганізацыі шырокай народнай падтрымкі пачатых лепшымі сіламі КПСС радыкальных перамен ва ўсіх сферах жыцця».**

**У чым жа Чыкін бачыць выйсце? «У чыстцы (зноў 37-ы год?) партыйных радоў ад тых членаў КПСС, якія кампраметуюць сябе супрацоўніцтвам з БНФ». І хоць іншыя прамоўцы адзначалі цэлы шэраг станоўчых прыкладаў супрацоўніцтва афіцыйных органаў з нефармаламі (работа па стварэнні камітэтаў грамадскага самакіравання, па вывучэнні беларускай мовы), Чыкін непахісны. І ці не пра такіх, як ён, сказаў у дакладзе сакратар гаркома партыі П. Краўчанка: «З'явілася катэгорыя наменклатурных работнікаў.., якія хочуць выжыць, утрымацца ва ўладзе любой цаной»?**

**Нядаўна прачытаў у «Ленинградской правде» № 212 за 15.09.89 г. праект праграмы дзейнняў партарганізацый Ленінграда па паглыбленні перабудовы. Дык вось, ленінградскія камуністы «з мэтай далейшай дэмакратызацыі палітычнай сістэмы лічаць мэтазгодным абнаўленне палажэнняў Канстытуцыі СССР, якія вызначаюць статус палітычных і грамадскіх арганізацый, у тым ліку і самой КПСС».**

**В. БАРТАШЭВІЧ.**

г. Мінск.

## Пімен ПАНЧАНКА



# Зямля ў мяне адна

Абрабаваная зямля майго маленства
Аж да апошняе сірочае слязы...
Дзе жыта каля лесу?
І дзе лес той?
Ні жаўранкаў, ні сонца, ні расы.

Што мне ваш плюралізм!
Бо праўда ў нас адна,
Нібы далоні матчыны шурпатыя.
Зямля ў мяне адна,
Любоў і смерць адна,
Адна ў мяне і франтавая партыя.

Вядома: несуны і хапуны,
Вядома: разгільдзяйства ў нас
І мафія.
Ды не яны гаспадары зямлі,
Не, не яны з разбойнай біяграфіяй.

Што трэба нам?
Каб жыў народ наш лепш,
Каб нашы ўнукі ў школах больш не мерзлі;
Каб елі свой, а не заморскі хлеб,
Каб дзеці ад Чарнобыля не мерлі,

Каб елі нашу бульбу без нітратаў,
Рашэнні не прымаліся пажарныя.
І можа, дасць нам бог,
І мы залечым страты —
І вернуцца да нас
Атручаныя жаўранкі.

# Арыфметыка

Так нас абдурылі, абдурачылі
Лектары, дакладчыкі, дарадчыкі—
Пачалі і мы хваліць свой рай.
Мы глядзелі і зусім не бачылі,
Як сяляне нашы век батрачылі
І глынулі гора цераз край.

Колькі захрыбетнікаў у Кастрычніку
Змецена было ў нас?
Мільён!
А цяпер?
Сакрэтна, не падлічана,
Іх разоў у трыццаць павялічылі,
А для нас — бядоты і прыгон.

# З польскімі сябрамі

1

Надыходзіла восень,
Млечны шлях пагусцеў.
Лес пакуль што
Шумеў не сурова.
У Каралішчавічах
Мы прымалі гасцей —
Нашых польскіх
Сяброў і сяброўак.

Быў Бранеўскі між іх.
Нешта хмурыўся ён,
Хоць наведаў
Міцкевічаўскія мясціны...
Бралі чарку:
Ад Свіслачы Вісле паклон!
Быў Дом творчасці наш
У той вечар гасцінны.

Ад шасейкі наводшыбе
У лесе глухім
Мы «Марш, марш на Гітлера»
Спявалі.
Было сказана многа
Пра нашы шляхі...
Мы «Нех жые», «Сто лят»
Апантана гарлалі.

Густа тосты звінелі:
«За мудрага Ста...»,
За Гамулку! —
Таксама быў тост
Для парадку.
Тут Бранеўскі
Зусім раззлаваны устаў:
« А ці доўга мы будзем
Рабіць фіззарадку?»

Тамада наш мясцовы
Ускіпеў не на жарты:
— Не дазволю!
— ...Любімага правадыра!
Мы з Бранеўскім і хлопцамі
Выбеглі з хаты,
А услед недарэчна
Грымела «Ура».

Ён, вялікі паэт,
Сцішыў крыўду і боль,
Не вярнуўся
У п'яныя спевы...
Безліч зорак на небе —
І яркіх, і спелых,
На якія глядзеў
Яшчэ шведскі кароль.

Нехта з хлопцаў
Прапітым баском прагудзеў,
Каб забылі хутчэй
Аб той прыкрасці горкай:
— І Міцкевіч глядзеў,
І Бранеўскі глядзеў
На беларускія зоркі.

А ў пісьменніцкай хаце
Паэты спявалі,
Урачыстыя і лагодныя.
Знік Бранеўскі...
А мы ўсё ўставалі, уставалі —
І засталіся галоднымі.

2

Мы ім пра Хатынь,
А яны пра Катынь...
Факты ў нас і у іх,
А праўда — у бога.
Набалелае сэрца,
Супакойся, астынь:
Вінаваціць не трэба
Адзін другога.

Не мы расстрэльвалі
Польскіх афіцэраў палонных,
Не вы спапялялі
У той час
Хатынскіх сялян.
Пад пасёлкам Леніна
Мы ў суседніх
Ішлі батальёнах,
Прага волі, свабоды
Навек парадніла ўсіх нас...

А тыя парадніліся
У крыві і гразі
Недаравальным
Пякельным грэхам:
Крывавы арыец
І крывавы грузін...
А да нас далятае
Расстрэлаў тых рэха.

# Наменклатуршчык

Быў хлопец, як хлопец — адукаваны,
Сяброўскі, руплівы, не подлы,
Ды толькі было яму наканавана
Прабіцца ў наменклатурнае кодла.

І нос адразу задзёрся да чуба;
Строгасць, халоднасць на твары.
Падначаленых
Абрывае груба,
І гучна, каб чулі:
«Званіў мне таварыш...»

Зрабіўся ганарыстым і ганаровым.
Вечна звоніць — загадвае, раіць.
Памочнік піша яму прамовы,
Другі — цытаты штодня падбірае.

Адкуль узялася хітрая творчасць:
Кранаць начальніцкую струну?
Наменклатурнасць — двурушнасць, прытворства,
Штодзённае «пападанне ў струю».

І тут не патрэбна ніякай маралі...
Будуць старога
Персанальна лячыць.
Ён будзе хваліцца:
«І мы аралі»,
І будзе свае ўзнагароды лічыць.

# Чорныя дзіркі

Ёсць вельмі дзіўныя зоркі
У бяздонным сусвеце:
Ярка і доўга
Свецяць і свецяць,
А потым — колапс,
І іх не прыкмеціць.

Сціснецца жудасна
Тая матэрыя,
Горш чым
У пікавы час
У тралейбусе,
Толькі без лаянкі
І істэрыі.
Гэта загадкі касмічныя,
Зорныя рэбусы.

Няма там ні боскага,
Ні чалавечага:
Толькі што трапіць
У прыцягненне —
Усё паглынаецца
У вокаімгненне.

А на зямлі нашай
Што гэта робіцца?
Людзі за працай
Пацеюць і горбяцца,
А паглядзіш
На вынік яе —
Самае лепшае
Дурнямі гробіцца,
І раскрадаецца,
І гніе.

Вечна хлусілі:
«Мы самі з вусамі» —
І працаваць
Развучыліся самі.

І паглынае
Увесь дэфіцыт
Зладзей
І спекулянт,
І бандыт.
Не рэкецiры,
Не рэкецiркі —
Чорныя дзіркі...

А за апошнія
Трыццаць гадоў
Шмат на жыцці нашым
Чорных слядоў:
Шмат беларускіх
Настаўнікаў, школ
Загнаў у магілу
Чыноўніцкі кол.

Глынулі ў нас мову,
Абрады, культуру.
А літаратуру —
У макулатуру.
Жывуць у тых дзірках
І па-варварску рады
Мовы забойцы
І бюракраты.

Злосна якочуць
На чорным ігрышчы:
Цяпер-яны хочуць
І нас усіх знішчыць,
Прагна глыне
І дзяцей у вантробы
Чорная дзірка —
Чорны Чарнобыль.

# У стылі рок

Ахматава сказала пра В-га: «Я кажу з усёй адказнасцю: ніводнага слова сваіх вершаў ён не прапусціў праз сэрца». («Новый мир», 1989, № 1).

Кінь сігарэту!
Кінь сігарэту!
Кінь!
Кінуў чаргу і сігарэту...
З той пары ніводзін радок
Яго сэрцам не сагрэты.
Стаў ён грозным
І кур'ёзным,
І камічным,
І трагічным
Гэты сумны чалавек.

Парк высякаюць,
Парк высякаюць...
Трэба гучна біць у звон,
Ды з ухмылкай шэпча ён:
«Той, хто высек,
Хай пасадзіць;
Ці вунь той,
Хто на пасадзе».
Мысліць з гневам непаўторным,
Як адэскі мудры грэк.
І двудушны, і прытворны,
Гэты злосны і зайздросны
Раўнадушны чалавек.

Асцярожна!
Дзверы зачыняюцца.
Асцярожна!
Мова закрываецца.
Абсякаюць мове крылле:
Затапталі і закрылі.
«Яны закрылі,
Хай самі і адкрыюць»,—
Прабурчаў з экрана злосна
Самы коўзкі і зайздросны,
Самалюбны чалавек.

Начное таксі,
Начное таксі,
Куды ты імчышся,
У які багаты век? —
Праспяваў так заклапочана
Хітры, злосны і зайздросны,
Выпадковы і пабочны
Спрытны сціплы чалавек.

Ён паехаў,
Ён паехаў
Да Парыжа,
Да Нью-Йорка
І ў Квебек...
А нам горка,
А нам горка:
Для яго ўвесь свет пацеха,
Бо ён злосны і зайздросны
Гэты хітры чалавек.

Сіні туман,
Нібыта падман...
«Я кручуся, галашу
І нягучна ўсіх прашу:
Я разумны,
Я харошы,
Дайце славы,
Дайце грошай.
Годзе жэрці ўсё Іванам!
Я і сам
Мастак падману —
Найсінейшага туману».
Так закончыў сваю дзейнасць
Асцярожна-безыдэйны,
Як і ўвесь дваццаты век,
Маладушны, ветравейны
Выпадковы чалавек.

Павел ДЗЮБАЙЛА

# Дні трывог і надзей

Літаратурна-крытычныя нататкі

КАЛІ гавораць пра абнаўленне нашага жыцця, пра новую самасвядомасць савецкай літаратуры, часта выказваюць шкадаванне, непакой, што новыя тэндэнцыі выяўляюцца толькі ў мастацкай публіцыстыцы ды яшчэ ў паэзіі, што слаба пакуль што яны адчуваюцца ў прозе. У цэлым гэта справядліва. Аднак калі ўважліва перачытаць часопісныя творы апошняга часу, то прыйдзецца зрабіць пэўныя ўдакладненні. І ў прозе ўсё часцей вострыя праблемы сучаснасці трапляюць у поле зроку многіх пісьменнікаў. Найбольш востра гэтыя праблемы паўсталі ў аповесцях І. Шамякіна «Драма», В. Гігевіча «Пярэварацень», Т. Бондар «Марыя», У. Някляева «Вежа» і іншых творах.

І. Шамякін у аповесці «Драма» імкнуўся раскрыць цяжкасці на шляху перабудовы, інерцыю валявых, бюракратычна-адміністрацыйных метадаў кіравання ў сістэме раённага звяна, інерцыю старога мыслення наогул.

Па сутнасці, у аповесці І. Шамякіна «Драма» два героі: першы сакратар гаркома партыі Наліцкая Ала Уладзіславаўна і дырэктар завода аўтапрычэпаў Васіль Васільевіч Ліхач. Наліцкая — увасабленне адміністрацыйных метадаў кіравання. Ліхач — чалавек, які сам прапанаваў сябе на пасаду дырэктара, і яго выбраў калектыў.

Развагі і думкі Наліцкай—гэта поўная шматгранная яе характарыстыка. Вось некаторыя з іх. «Ох, нялёгкі лёс у партыйнага кіраўніка — у гэты незвычайны, хай і цікавы, час дэмакратызацыі і галоснасці. Але ж і дэмакратыяй трэба кіраваць, а інакш яна можа перайсці ў анархію». «Трэба рашуча патрабаваць выканання пастаноў, яе ўказанняў, інакш гэтыя... пузатыя адчуюць слабінку і сядуць на галаву, ім толькі паддайся». «А з астатніх трэба добрую стружку зняць...» Ліхач, які ведаў Наліцкую яшчэ са студэнцкіх гадоў, так характарызуе яе: «... у яе нейкая генеральская псіхалогія. Ты знаеш, гэта нават кар'ерызмам не назавеш. Яе задавальняе толькі адно: каб усе маршыравалі. І сама таксама. Але каб яна папярэдзе».

Ліхач лічыць сябе сапраўдным перабудоўшчыкам, усю сваю энергію аддае мадэрнізацыі завода, эканамічнай рэформе. І тут ён дзеля справы робіць «кавалерыйскія наскокі», можа «ісці і на лабавы штурм, і на абходныя манеўры». А наколькі ўсё гэта маральна, неабходна? Падобныя пытанні паўставалі яшчэ пры чытанні рамана «Атланты і карыятыды» (прабіўны Карнач). На іх цяжка адказаць адназначна.

У найсучаснай аповесці па сутнасці няма псіхалагічнай заглыбленасці, духоўных пошукаў, няма ўнутранай перабудовы чалавечай асобы. Уся ўвага сканцэнтравана, калі звярнуцца да галоўнай гераіні Наліцкай, не на выяўленне барацьбы паміж новым і старым, а на прымітыўна фізіялагічным. 36-гадовая жанчына, партыйны функцыянер, ледзь не вар'яцее, што не мае мужа, ні любоўніка, ні дзіцяці. І ўсё гэта паказваецца з такімі натуралістычнымі падрабязнасцямі, што прыходзіцца гаварыць не аб псіхалагізме, а аб біялагізме. Такім чынам, І. Шамякіну не ўдалося паяднаць, зліць у адно цэлае сацыяльна-эканамічнае і духоўна-псіхалагічнае.

У аповесці В. Гігевіча «Пярэварацень» вельмі востра, як ні ў адным з сучасных беларускіх празаічных твораў, паўстала праблема псіхалагічнай інерцыі, неабходнасці пачынаць перабудову з сябе. Пісьменнік пераканаўча паказвае, як складана і нават драматычна адбываюцца працэсы абнаўлення чалавечага мыслення, чалавечай існасці. І не кожны чалавек, які доўга працаваў у застойных абставінах, асабліва на кіруючай пасадзе, здольны на гэтае абнаўленне.

Галоўны рэдактар кінастудыі Сацункевіч Віктар Іванавіч — асоба не так сатырычная, колькі драматычная, нават трагічная. Ён пастаянна адчувае сваю раздвоенасць. Яго крытычны двайнік — гэта яго сумленне, гэта тое, што засталося ад ранейшага Сацункевіча, былога вясковага хлопца.

Праходзіла жыццё яго ў тлумнай мітусні, бесперапынных пасяджэннях, шматлікіх паездках па краіне і за мяжу. І не было калі «задумацца, што і куды цябе нясе ў штодзённым мільганні пусценькіх фільмаў, песенак, хохмачак, якімі лепш за ўсё аплёўваць самае святое для чалавека і народа, канцэртаў вясёлых, як сваіх ансамбляў, так і замежных, выпівак і рэстаранных застолляў, рэдсаветаў і мастацкіх праглядаў, як адкрытых, так і закрытых, для выбранай публікі — усё гэта, што запаўняла цяпер тваё жыццё, назусім адгарадзіла даўні свет маленства...»

Але прыйшоў іншы час, «калі трэба плаціць даўгі. І за вялікія грошы. І за пасаду. І нават за ганаровыя званні». Гэта гаварыў двайнік Віктара Іванавіча. Герой і сам пачынае ўсё часцей разважаць над тым, як ён пражыў жыццё (яму ўжо пад пяцьдзесят): «Калі ж і што ён страціў? Калі ж ён быў на перавале?» Жыццё было пражыта марна. Паправіць, перайначыць нешта Сацункевіч ужо не мог.

Аповесць наводзіць на філасофскія, агульначалавечыя развагі аб прызначэнні чалавека на зямлі, аб праве яму самому распараджацца сваімі інтэлектуальнымі, творчымі магчымасцямі і здольнасцямі. Сацункевіч не мог, а, магчыма, і не хацеў змагацца за гэта права — і вынік трагічны.

Праўда, і ў гэтай аповесці В. Гігевіча можна выявіць думку, што ўся бяда героя ў тым, што ён парваў з вёскай, роднымі каранямі, забыўся на народную мараль, што яго сапсаваў, зрабіў бездухоўным горад. Але тут гэта ідэя не такая навязлівая, як у рамане «Мелодыі забытых песень», яна больш адчуваецца ў падтэксце.

У аповесці Т. Бондар «Марыя» зроблена спроба глыбей глянуць на праблему ўзаемаадносін пакаленняў, выявіць, чаму дзеці нават у знешне прыстойных, забяспечаных сем'ях становяцца разбэшчанымі, ужываюць наркотыкі. Аўтар многае імкнецца растлумачыць стратай у дзяцей ідэалу, веры ў праўду, веру ў сваіх бацькоў, што манілі ім, былі кар'ерыстамі, бездухоўнымі дзялкамі. Комплекс віны, пачуццё наканаванай расплаты за мінулае адчувае маці Марыі Паліна Аркадзьеўна. Гэта ж яна здрадзіла каханню, выйшла замуж за нялюбага, які дапамог заняць наменклатурную пасаду... Ды і пра бяду яна даведалася, знаходзячыся ў санаторыі, спраўляючы любошчы са сваім начальнікам.

У аповесці, акрамя іншага, паказваецца сапраўдная сутнасць наменклатурна-бюракратычнага апарату, які падбіраўся і стварaўся такім чынам, які і сёння не хоча здаваць свае пазіцыі, не разумее і не жадае разумець перамен, што адбываюцца ў нашым жыцці. У гэтым сэнсе аповесць Т. Бондар, як і «Пярэварацень» В. Гігевіча, твор надзённы. Праўда, як і ў ранейшых творах, у аповесці Т. Бондар выяўляецца залішняя экзальтаванасць герояў, экстравагантнасць стылю.

Складанасць нашага часу глыбока выяўлена ў апавяданні В. Карамазава «Супраць неба — на зямлі». Драматызм таго, што адбылося пасля аварыі на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі, узмацняецца драматызмам падзей у Афганістане. Іван Калядка вярнуўся без нагі дамоў, да дзеда і бабы, у небяспечную зону. У старых ні каровы, ні свіней, ні нават курэй няма ў гаспадарцы.

— А што вы тут ясце? Ні свайго малака, ні яечка?

— А нам на кожную жывую душу даюць па трыццаць рублёў грабавых, каб з крамы карміліся.

Вобраз смерці, успаміны пра труны не пакідаюць свядомасці Івана. «Там — бялюткія, блішчаць на сонцы, малыя, адна на адной, кожнаму — свая, а тут — адна пад неба, адна на ўсіх і чорная, мала—яшчэ адна, мала — яшчэ. Адналькава... — там і тут. Толькі што тут, у гэтых, — і зямля, і жывёла, і птушкі... усё!.. Што ж гэта робіцца?..» Гэтыя вобразы суадносяцца з жахлівымі чорнымі стагамі леташняга сена, якія таксама падобныя на вя-

*Чытаючы часопісы*

# Алесь Гарун і сацыял-дэмакратыя

ПРАЦЯГВАЕЦЦА вяртанне творчай спадчыны Алеся Гаруна, «аднаго з самых адданых і пакутлівых... сыноў» (У. Конан) Беларусі. Часопіс «Беларусь» у сваім чарговым, дзесятым нумары адкрывае чытачу зусім незнаёмага Алеся Гаруна — Гаруна-публіцыста, палітычнага і грамадскага дзеяча, руплівца на ніве сацыяльных пераўтварэнняў. Не трэба забываць, што А. Прушынскі поруч з іншымі беларускімі пісьменнікамі так званага «нашаніўскага» перыяду не толькі актыўна пісаў, але і дбаў аб заўтрашнім дні свайго народа, верачы ў яго светлую будучыню. Ён быў адным з заснавальнікаў Беларускай Сацыялістычнай Грамады (БСГ).

Ужо цяжка хворы, А. Гарун працаваў над праграмай сваёй партыі, называючы тыя шляхі, якія, на яго думку, могуць прывесці да сацыяльнай справядлівасці і нацыянальнага разняволення. Брашура А. Гаруна «Беларуская сацыяль-дэмакратычная партыя, яе мэты і заданні», што перадрукавана часопісам з захаваннем адметнасці арыгінала, выйшла ў Мінску ў 1920 годзе. Замест прозвішча аўтара на вокладцы стаяў крыптанім «А. Ж.». А. Гарун такім чынам зашыфраваў свае імя і дзявочае прозвішча маці.

І сам тэкст праграмы, і тое, што яна была надрукавана ў час акупацыі рэспублікі легіёнамі Пілсудскага, якраз і «спрацавалі», каб забыць гэты твор А. Гаруна. Тым больш важна, што «Праграма...» нарэшце стала набыткам грамадскасці. Разумеючы, наколькі неардынарная падобная публікацыя, у рэдакцыі «Беларусі» парупіліся, каб даць да яе грунтоўныя каментарыі — менавіта ў такім плане ўспрымаюцца ўступныя артыкулы У. Казберука «Праграма грамадскіх пераўтварэнняў» і У. Конана «Ён добра бачыў: ідуць да праўды людзі...»

Хоць у самога А. Гаруна і «папулярны выклад праграмы», але ацэнкі вядомых навукоўцаў дапамагаюць лепш зразумець падыходы і палажэнні А. Гаруна, адчуць, што ў яго развагах было навеяна толькі самім супярэчлівым часам і страціла актуальнасць, а што не страціла першаступеннай каштоўнасці і сёння. Ды не толькі не страціла, а як бы працуе на час рэвалюцыйнага абнаўлення грамадства, гучыць ва унісон партыйным платформам, якія накіраваны на далейшую дэмакратызацыю, прадастаўленне чалавеку сапраўдных правоў і дэмакратычных свабод.

Канечне, у праграме ёсць і такое «уязвимое» месца, якое дасць магчымасць сяму-таму зноў абрушыць на А. Гаруна самыя розныя абвінавачанні. Хоць «Праграма...» была надрукавана ў 1920 годзе, у ёй не ўпамінаецца Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя. Не ўпамінаецца, але нагода для гэтага як быццам і была, калі А. Гарун абгрунтоўваў сваю праграму. У прыватнасці, у раздзеле «Социяльная рэвалюцыя» ён зазначаў: «**Процэс клясавага змаганьня завяршыць социяльная рэвалюцыя**» (выдзелена А. Г.). Як жа так, гаворыцца пра рэвалюцыю, а рэвалюцыя ўжо была?

Відаць, варта прыслухацца да думкі У. Казберука: праграма публікавалася «ва ўмовах акупацыі, калі кожнае слова магло друкавацца са згоды ваеннай цэнзуры. А яна магла дазволіць толькі лаяць бальшавікоў... Як мы бачым, аўтар праграмы такой магчымасці не захацеў выкарыстаць. Яго маўчанне ў лепшым выпадку сведчыць аб тым, што ён сябе праціўнікам Кастрычніцкай рэвалюцыі не лічыў».

Не далёкі ад ісціны і У. Конан: «Варта ўлічыць і тое, што А. Гарун пісаў не палемічны артыкул, а папулярную праграму і, натуральна, акцэнтаваў увагу не на тэарэтычных ці палітычных спрэчках, а на пазітыўных ідэалах. І хоць ідэалы яго ў значнай ступені сацыялістычныя па сваёй сутнасці, тым не менш папулярны выклад ідэй беларускай сацыял-дэмакратычнай праграмы па шмат якіх пунктах — альтэрнатыва бальшавіцкай праграме сацыялістычнага будаўніцтва, асабліва ў той яе практычнай форме, у якой яна склалася ў гады грамадзянскай вайны і «ваеннага камунізму».

Адным словам, няма падстаў спрабаваць убачыць у праграме, выкладзенай А. Гаруном, тое, чаго ў ёй няма. Гэтаксама не трэба рабіць нейкія, далёка ідучыя вывады. Куды лепей паспрабаваць адчуць у ёй рацыянальнае зерне, і тады высветліцца, якім празорлівым палітыкам быў А. Прушынскі, наколькі паэт А. Гарун, адчуваючы сам час, чуйна прадугадваў і дзень заўтрашні, наш сённяшні дзень.

Арыентуючыся на тое, «каб запанавала дабро і справядлівасць на свеце», А. Гарун быў пераканаы: «У царство социялізму ўвойдзе беларускі народ, як роўны з іншымі народамі, толькі пры варунку развіцьця ўсіх бакоў яго духоўнага жыцьця, што магчыма толькі ў рамках нацыянальнай культуры». Увогуле, раздзел «Нацыянальная справа» як быццам сёння напісаны. Тое, у чым бачыла сваю мэту Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя, блізка нашаму сённяшняму разуменню задач нацыянальнага адраджэння. Напрыклад, беларускія сацыял-дэмакраты патрабавалі: «адзінай, працоўнай **школы усіх тыпаў і ступеняў на беларускай мове**». Яны патрабавалі «спэцыяльнай увагі з боку дзяржавы да развіцьця беларускай народнай творчасьці, шырокага развіцьця выдавецтва, навуковых і культурных інстытуцый, зашкольнай асьветы на кошт дзяржавы».

Што «развіцьцё нацыянальнай культуры ні троху не перашкодзіць агульнаму ходу гісторыі, не перашкодзіць справе работніцкай, социялістычнай, а наадварот, паможа ім», А. Гарун быў перакананы і ў раздзеле «Нацыя і социялізм». На нацыянальную справу ён глядзеў не як на «прычыну нянавісьці да іншых народаў». У ёй А. Гарун бачыў «**моцную пабудку да працы на карысьць усіх людзей сьвету**». Шчыра верыў: «...у будучыне, калі сьвет будзе йсьці наперад, развіваецца, дык розьніца паміж людзьмі, розьніца паміж народамі не сьціраца будуць, а, наадварот,— расьці». І далей чытаем: «**задача социялізму, які ніколі ня йдзе проці прыроднага развіцьця** справы, **ёсьць не клапаціцца аб зьнішчэньні нацыянальных асобнасьцяў, а наадварот, культываваць іх, як усякую** іншую прыродную сілу». Якраз тое, што сёння мы называем сапраўдным нацыянальным адраджэннем. Ды і як жа інакш, калі «задачаю социялізму ёсьць клапаціцца, каб розьніцы ў псыхалёгіі, у нацыянальнай творчасьці не служылі асноваю спрэчак і барацьбы паміж народамі», а садзейнічалі росквіту кожнага з іх.

Ды ў сваім разуменні дэмакратыі А. Гарун стаяў ці не на пазіцыях сённяшняга дня: «Найвышэйшая ўлада ў дэмакратычнай рэспубліцы будзе належыць парлямэнту, выбранаму **беспасрэдна** ўсімі дарослымі грамадзянамі, якіе карыстаць будуць пры гэтым з **роўнага** выбарчага права, **патаем-**

лікія труны. Ствараецца даволі змрочны і страшны свет, як апошняе папярэджанне людзям.

Сатырычны твор У. Някляева «Вежа» вызначаны аўтарам як «фантастычна-дакументальная прыпавесць». Аповесць, напісаная ў іранічна-завостраным, часам гратэскавым стылі, мае вельмі шырокае абагульненне. Пачатак твора: «Дваццаць восьмага ліпеня, у аўторак, Ютка Казубоўскі прачнуўся, як заўсёды, рана, памыўся, паснедаў на скорую руку і рушыў будаваць вежу да неба... у якой не было ў людзей аніякай патрэбы з пары Вавілону». І ніхто не мог дадумацца, нашто яму гэта трэба.

Вежы, маякі, паказныя гаспадаркі, паказныя палацы культуры для замежных дэлегацый ды ці мала чаго іншага набудавалі мы за пасляваенны час, каб схаваць сапраўднае становішча спраў, развал гаспадаркі. І каму гэта трэба было? Іменна на такія думкі наводзіць аповесць «Вежа». Асабліва завостранай, сатырычна з'едлівай з'яўляецца апісанне банкету ў сувязі з прыездам амерыканскага мільярдэра Моргаўкі, продкі якога, заўважце, мясцовага паходжання. І хоць высокія госці тут замежныя, але ўспамінаюцца ўсё ж нашы банкеты, прыёмы, семінары ў маяках-гаспадарках.

Аповесць «Вежа» ў сферы сатырычнага абагульнення ўзбагачае вельмі кволыя мастацкія пошукі, так добра і моцна выяўленыя яшчэ ў 20-я гады (творы А. Мрыя), і ў пасляваенны час (аповесці Р. Семашкевіча). Безумоўна, што на гэтай традыцыі вырасла аповесць У. Някляева, развіла і ўзбагаціла яе.

БЕЛАРУСКАЯ літаратура апошніх дзесяцігоддзяў найбольш жыла настальгіяй па вёсцы, успамінамі пра цяжкае, але такое роднае і незабыўнае дзяцінства.

Магчыма, наша літаратура штосьці празмерна ідэалізавала і ідэалізуе ў вясковым жыцці, вясковай маралі, у вобразах старых, бабуль і дзядоў, але ў працэсе актыўных духоўных, маральных пошукаў сёння як ніколі патрэбен нам і нашай літаратуры багаты народны вопыт, высокая народная мараль. Сёння «рассяляненаму» жыхару вёскі трэба зноў станавіцца сапраўдным селянінам, працаўніком, гаспадаром на зямлі. Праўда, пры гэтым нельга забываць пра рэгрэсіўныя бакі патрыярхальшчыны. Апавяданне Я. Сіпакова «Свята» аб тым жа — аб выміранні вёсачак, на месцы якіх з'явіліся ўрочышчы, дзе расце збажына, аб чыстых крыніцах, што зарастаюць, аб рэдкіх хатах, у якіх яшчэ дажываюць свой век старыя, нямоглыя, пакінутыя ўсімі людзі, людзі вартыя самага шчырага суперажывання, шкадавання.

І ў гэтым апавяданні адчуваецца моцны зарад ідэалізацыі, але шчырая эмацыянальнасць, душэўная ўсхвалянасць героя-апавядальніка Мікалая, а разам з ім і самаго аўтара, гасяць адчуванне экзальтацыі ці штучнасці ў выяўленні пачуццяў. Прыгадваюцца творы Прышвіна, яго натурфіласофія, простая чалавечая радасць ад сустрэчы з прыродай, ад вечнага яе адраджэння.

Паміж многіх твораў сучаснай «вясковай» прозы апавяданне Я. Сіпакова вылучаецца тым, што моцная настальгія тут пераадольваецца філасофска-аптымістычным светаадчуваннем і светаразуменнем.

Да простага, але мудрага разумення вечных праблем жыцця і смерці прыходзяць старыя вясковыя жанчыны на пахаванні сваёй сяброўкі Пёклы (апавяданне Я. Сіпакова «Стафета»).

Старыя вясковыя людзі, спазнаўшыя столькі гора на сваім вяку і захаваўшыя сапраўдную чалавечнасць і дабрыню, заслугоўваюць вялікай увагі і пашаны. Такая думка выяўляецца ў многіх творах. Але ў жыцці часта бывае інакш.

У апавяданні А. Кудраўца «Пахахуцікі» па сутнасці тыя ж праблемы неўладкаванасці, непрыкаянасці старых у гарадскіх кватэрах сваіх дзяцей, (згадайце, напрыклад, творы А. Карпюка «Карані», С. Грахоўскага «А маці не спіць»).

Тут носьбіт спрадвечнай высокай працоўнай маралі стары Рыгор.

Каб пазбавіцца ад старога, завалодаць усёй чатырохпакаёвай кватэрай, яго сын з жонкай аб'явілі бацьку вар'ятам і адправілі ў Навінкі. Сам жа Рыгор памірае на лавачцы, калі ён убачыў, што адзін з парашутаў у час трэніровачных скачкоў на ўскраіне горада не раскрыўся і чалавек паляцеў да зямлі, да сваёй гібелі... Сэрца не вытрымала болю за жыццё незнаёмага яму чалавека.

Свет эгаізму і жорсткасці і свет святла і чалавечнасці. Іх кантрастнасць добра выяўляецца праз успрыманне дзіцяці, дзяўчынкі Анюты, унучкі Рыгора. Яна бачыла неба, любіла глядзець на парашуцікі — «пахахуцікі». Жыццё яе яшчэ не азмрочана чалавечай няўвагай, пагардай, жорсткасцю.

Іменна гэта завостранасць на праблемах маральнасці і гуманізму вылучае апавяданне А. Кудраўца сярод многіх твораў на падобную тэматыку. Па сваёй змястоўнасці, сюжэтнай скандэнсаванасці яно набліжаецца да добрай лаканічнай аповесці.

У аповесці Н. Маеўскай «Замова» Вішнякоў, начальнік аддзела праектнага інстытута, адправіў маці ў дом састарэлых і даведаўся аб яе смерці задоўга пасля гэтага. Але змест аповесці не абмяжоўваецца праблемамі ўзаемаадносін бацькоў і дзяцей. Галоўнае тут паказаць, што нельга, няможна жыць чалавеку ў адчужэнні ад іншых, што самае вартае ў жыцці—гэта сумленнасць, чалавечнасць, уменне суперажываць, быць міласэрным, жаданне заўсёды прыйсці на дапамогу таму, хто мае ў гэтым патрэбу. І тут вопыт людзей старэйшых пакаленняў вельмі каштоўны, варты засваення і абнаўлення.

СЁННЯШНІЯ творы, у якіх узнаўляюцца падзеі ваеннага часу, становяцца іншымі, не падобнымі на ранейшыя. Гэта творы, у якіх героі вырашаюць маральныя, філасофскія пытанні сэнсу жыцця, сумлення, віны (аповесці В. Быкава «Кар'ер», «У тумане») або творы, дзе ў дэтэктыўным, па сутнасці крымінальным плане разблытваюцца падзеі ваеннага часу. Першыя творы — псіхалагічныя, другія — падзейныя. У аповесцях і раманах, як правіла, перамяжоўваецца сучаснасць і мінулае.

У аповесці І. Новікава «Рыжая Галка» расказваецца пра шляхі-дарогі падпольшчыцы. Узнагарода знайшла яе толькі ў наш час. А былі рызыка, гераізм, катаванні ў гестапа, пададзронасць...

Аднак вострасюжэтнае апавяданне-ўспамін часам даволі аголенае, павярхоўнае, пазбаўленае жывой псіхалагічнай мастацкай напоўненасці. Вось як думае гераіня пра сэнс свайго жыцця: «Магчыма, таму, *што былі там не толькі* фізічныя і маральныя пакуты, а было і нешта большае, нешта значнае, што падтрымлівала яе ўсё астатняе жыццё — былі яе мужнасць, яе стойкасць, яе знаходлівасць, была яе гатоўнасць памерці за Радзіму. Хай *адна яна ведае пра гэта*, але ж так было, так было, і яна тады перамагла, і Радзіма перамагла».

У драматычна-дэтэктыўным плане напісана і аповесць Я. Міклашэўскага «Мёртвая крыніца». Сюжэт аповесці вельмі «закручаны». Паступова, з цяжкасцю раскрываецца ваенная трагедыя, высвятляецца, хто ёсць хто. Падзейнасць, дэтэктыўнасць тут на першым плане. Вобраз Мануйлы-Лешы намаляваны адной чорнай фарбай. Чыста знешняе выяўленне сутнасці чалавека сведчыць аб недастатковым майстэрстве псіхалагічнага аналізу.

А вось апавяданне А. Жука «Каценька-Кацюша» кранае іменна заглыбленасцю ў душэўны свет героя. Маленькі памерам твор, а ў ім умясцілася гісторыя чалавечага жыцця, на аснове якой можна было напісаць аповесць ці нават раман.

Як герой «Каценькі-Кацюшы», які запіў пасля рэабілітацыі, не могуць жыць па-ранейшаму і былыя партызаны з апавядання А. Жука «Багамолка». Калі яны ішлі ўзрываць у блакаду мост, на дарозе засталася збітая жанчына: яна не паказала ворагам, куды пабеглі партызаны. Пасля таго яна засталася жыць, але знямела. А яны тады не вярнуліся, не дапамаглі ёй, пра што не могуць забыцца. «І мы цяпер з хлопцамі баімся з гэтаю нямою стрэцца. Трэба было нам тады ўсё роўна падысці да яе...» Як ніколі раней важным становіцца ў літаратуры імператыў сумлення, адчуванне сумлення пражытага жыцця.

У аповесці В. Хомчанкі «Стрэл у акно» гераіня Алена Макараўна пакутуе ад таго, што яна перажыла ў вайну. Гэта гісторыя, расказаная сапраўды ў дэтэктыўным плане. Але калі яшчэ ў яго рамане «Вяртанне ў агонь» можна было адчуць імкненне пісьменніка да раманнага псіхалагічнага раскрыцця характараў, пры тым жа дынамізме і элементах дэтэктыўнасці, то ў апошніх творах і ў згаданай аповесці «Стрэл у акно» сюжэтная дынаміка, падзейнасць становяцца галоўнымі ў апавядальнай плыні.

Знешне ёсць як бы і раскрыццё ўнутранага стану гераіні, яе напружаных перажыванняў у час прыняцця адказнага рашэння. Але ўсё гэта пададзена вельмі агульна і прыблізна, як гэта звычайна *наглядаецца* ў прыгодніцкай літаратуры. Вядома, такі жанр мае значную папулярнасць, свайго чытача. І ўсё ж для нашай літаратуры на сёння вельмі важныя пошукі новых магчымасцей глыбока рэалістычнага, праўдзівага паказу сапраўднага драматызму і трагізму вайны.

Увогуле нашай літаратуры яўна не стае здольнасці псіхалагічна глыбока і ўсебакова даследаваць складаны духоўны свет сучаснага чалавека, сацыяльныя і маральныя прычыны яго дысгармоніі і неўладкаванасці, яго няспынныя пошукі чалавечнасці, праўды і справядлівасці.

---

**ным** галасаваньнем, з ушанаваньнем правоў меншасьцяў дарогаю **прапарцыянальных выбараў.** У такой дзяржаве лёгка будзе правесьці і іншыя рэформы, якія дазволяць шырака разьвіцца грамадзянскаму жыцьцю і аслабоняць працаўнікоў ад залежнасьці іх ад самаволі адміністрацыі». І яшчэ: «У першую *чаргу павінны быць* праведзены рэформы, якія забясьпечаць **вольнасць слова, друку, сходаў, грамадаў, хаўрусаў, вольнасьць сумленьня, незачэпнасьць асобы, дому, перапіскі, агульную роўнасць усіх грамадзян перад законам, аддзяленьне царквы ад дзяржавы».**

Ёсць у праграме і спецыяльны раздзел «Інтэрнацыяналь». Інтэрнацыянальныя погляды А. Гаруна не адышлі ад таго, пра што марылі «класічныя марксісты»: «Каб удачна змагацца з капіталізмам, каб забясьпечыць клясе працаўнікоў лепшыя варункі працы і быту і каб наблізіць спаўненьне яе апошніх мэтаў, патрэбно самае цеснае **аб'яднаньне працаўнікоў усіх нацый, усіх краёў у адзін вялікі Інтэрнацыянальны Саюз,** альбо, карацей кажучы, Інтэрнацыяналь».

Карысна ўсё-такі прыгадваць забытае! Шмат гаворыцца і пішацца сёння аб тым, што неабходна вярнуць селяніну спрадвечнае права быць на справе, а не на словах сапраўдным гаспадаром *на зямлі. Але ж пра* гэта рупіліся і А. Гарун і яго аднадумцы: «Каб дробная гаспадарка разьвівалася і йшла добра, селянін павінен пачуваць сябе на сваім кавалку зямлі, як на ўласнасці. Спэцыяльны закон павінен забясьпечыць за гаспадаром і яго патомкамі ў простай лініі (сынам, унукам і г. д.) права на карыстаньне тэй зямлёю, у якую ён укладаў праз усё жыцьцё сваю працу. Гэта шмат дапаможа разьвіцьцю сельскагаспадарчай культуры і забясьпечыць гарады хлебам і найпатрабнейшымі прадуктамі».

Марачы пра часіну, калі ў грамадстве будзе «роўнае багацьце, а не роўная беднасць», А. Гарун разумеў, што да развіцця сельскай гаспадаркі і прамысловасці нельга падыходзіць з аднолькавымі меркамі і ўяўленнямі. У першай, на яго думку, шмат могуць даць дробныя гаспадаркі, магчымасці якіх пакуль што цалкам не выкарыстаны. У прамысловасці ж, наадварот, аўтар праграмы ратаваў за буйныя прадпрыемствы: «Разьвіцьцё прамысловасьці ідзе іншымі шляхамі, чым разьвіцьцё сельскай гаспадаркі. **У прамыслосьці больш прыбытковым, а значыць** і больш карысным, **больш паступовым зьяўляецца якраз не малое прадпрыемства, а вялікае».**

Дэмакратычная рэспубліка па ўяўленню А. Гаруна... Ці тая гэта прававая дзяржава, да якой мы імкнёмся?! — «Усімі гэтымі рэформамі **вызваляецца з паднявольнае адміністрацыйнае апекі асоба чалавека,** што дасьць ёй мажлівасьць вольна і шырака разьвіваць свае прыродные здольнасьці, ухіліць нездаровые, дэмаралізуючые ўплывы няволі і прыціску».

Не толькі небяспеку «паднявольнае адміністрацыйнае апекі асобы чалавека» разумеў А. Гарун. Непакоіла яго і тое, каб самыя лепшыя намеры сацыяльнага пераўтварэння грамадства не закончыліся... «бюракратычным сацыялізмам»! Не што іншае, а пагрозу з боку каманднa-адміністрацыйнай сістэмы адчуваў. Спроба асучасніць А. Гаруна, зрабіць яго гэткім празарліўцам? Нікольki! Проста кінем уважлівы позірк на невялічкі раздзельчык «Праграмы...», які называецца «Дробные земляўласьнікі».

На думку А. Гаруна, непатрэбна, нават шкодна «дробную сялянскую ўласнасць на зямлю зьніштажаць зараз жа», калі «яшчэ няма адпаведна падгатаваных працаўнікоў і арганізатараў». Гаворыцца куды больш, чым канкрэтна і прама: «Калі б цяпер быў соцыялізаваны ўвесь вытвар, дык ён трапіў бы ў рукі ўрадоўцаў-профэсіяналаў, зложаных па большай часьці з людзей, служыўшых старой бюракратыі. Ня толькі соцыялістычны парадак быў бы абернуты ў нейкую пародыю, у «бюракратычны социялізм», але сам вытвар моцна абінізіўся бы, што прывяло б да эканамічнай катастрофы».

Як не паўтарыць тут услед за У. Конанам: «ёсць адвечная повязь і адзінства паміж тым, што выпакутавана нашымі папярэднікамі, і тым, што хвалюе і баліць нашым сучаснікам». Пасля знаёмства з «Праграмай...» А. Гаруна яшчэ больш усведамляеш, што і сацыяльна-грамадская думка на Беларусі мае багатыя традыцыі, што і сам марксізм умацоўваўся на глебе, якую ўзбагачвалі прадстаўнікі самых розных палітычных партый.

Настойліва шукаючы шляхі да лепшай долі, часам у нечым памыляючыся, яны хацелі аднаго: каб беларусы маглі людзьмі звацца. Адплачваць ім за гэта забыццём — справа няўдзячная.

НАШ АГЛЯДАЛЬНІК.

---

# Пра невядомыя творы Максіма-кніжніка

**Набліжаецца 100-годдзе з дня нараджэння Максіма Багдановіча. І як падарунак вялікаму святу адкрываюцца невядомыя *староннi творчасці* выдатнага беларускага паэта.**

Так, апошнім часам супрацоўнікам Літаратурнага музея Максіма Багдановіча давялося адшукаць 12 новых твораў, якія належаць пяру паэта і апублікаваны ў яраслаўскай перыёдыцы («Голос», «Северная газета») у 1913, 1914 і 1916 гадах. Сярод іх 5 рэцэнзій. Вялікую цікавасць уяўляюць дзве нататкі «Под угрозой смертной казни» і «Две смерти», змешчаныя ў газетнай рубрыцы «Суд» пад псеўданімам «Ив. Февралёв». Творы на тэму судовага жыцця, напісаныя М. Багдановічам, да гэтага часу не сустракаліся. З вялікай верагоднасцю могуць належаць пяру беларускага класіка *«Покушение на поджег»* (псеўданім «Ив. Февр.»), «Около театра миниатюр» (псеўданім «Ив. Ф.»), «В «Забаве» (псеўданім «Зритель»), «Калейдоскоп жизни» (псеўданім «Эхо»), «Именинница» («Северная газета», псеўданім «Эхо»). Дзевяць твораў М. Багдановіча амаль год назад здадзены ў друк і чакаюць свайго апублікавання ў часопісе *«Нёман». Звыш дваццаці* твораў выдатнага беларускага паэта выяўлена супрацоўнікамі сектара тэксталогіі Інстытута літаратуры АН БССР імя Янкі Купалы (гл. «ЛіМ» за 5 мая г. г.).

І вось яшчэ знаходкі. У газеце «Трактор» за 25 жніўня г. г. змешчана публікацыя С. Белай «Новыя творы Максіма-кніжніка». Да сваіх адкрыццяў аўтар адносіць рэцэнзіі паэта на «Нижегородский ежегодник», «Ежемесячный журнал», «Ежегодник газеты «Речь» за 1914 год» і «Ежегодник Вологодской губернии». Ці ўсе гэтыя творы з'яўляюцца новымі? Вядома, што ў акадэмічным выданні Твораў М. Багдановіча (Менск, 1928, т. 11) *на с. 303—304* змешчана рэцэнзія беларускага класіка на «Ежемесячный журнал», якая не была пасля ўключана ў Збор твораў (Мінск, 1968). Верагодна, па той прычыне, што ў ёй упамінаецца імя ўкраінскага *пісьменніка* В. Віннічэнкі. Прынамсі, артыкулы М. Багдановіча пра В. Віннічэнку і Г. Чупрынку, імёны якіх у той час не ўжываліся, не былі ўключаны з гэтага выдання ў Збор твораў. Аўтару, які даследуе творчасць беларускага класіка, варта было б ведаць той факт, што вышэйназваная рэцэнзія ўжо друкавалася ў выданні *І. І. Замоціна, і тым самым з* большай адказнасцю падыходзіць да публікацыі новых твораў.

Дзве рэцэнзіі («Ежегодник газеты «Речь» за 1914 год» і «Ежегодник Вологодской губернии»), як вышэй гаварылася, былі выяўлены таксама супрацоўнікамі Літаратурнага музея *Максіма* Багдановіча. Шчаслівае супадзенне пошуку, каб не адна акалічнасць. Аўтар артыкула, неаднойчы карыстаючыся фондамі музея, ведала, што гэтыя творы ўжо здадзены намі ў друк.

Цікавай знаходкай С. Белай з'яўляецца пакуль што адзіная вядомая прыжыццёвая рэцэнзія на Багдановічаў зборнік «Вянок». Толькі аўтар чамусьці не робіць дакладнай спасылкі на крыніцу яе апублікавання. Гэтаксама не дае подпісаў пад рэцэнзіямі М. Багдановіча і М. Агурцова і не называе крыніцу захоўвання ўспамінаў рэдактара газеты «Голос» С. С. Каныгіна.

Пошукавы шлях бясконцы, і ён патрабуе беражлівых адносін да каштоўнай літаратурнай спадчыны Максіма Багдановіча.

**В. МІКУТА,**
*ст. навуковы супрацоўнік* Літаратурнага музея Максіма Багдановіча.

## *Галасы сяброў*

### Раіса АХМАТАВА

**З выдатнай чачэнскай паэтэсай Раісай Ахматавай, я пазнаёміўся летась у час сумеснай паездкі ў Балгарыю.**

**Даведаўшыся, што я з Мінска, Раіса Салтмурадаўна ўзрушана цікавілася апошнімі гадамі жыцця і творчасці нашага незабыўнага Уладзіміра Караткевіча, з якім яна разам вучылася на Вышэйшых літаратурных курсах у Маскве і запомніла яго як вельмі таленавітага чалавека; расказвала пра свой нялёгкі жыццёвы лёс, цесна звязаны з яе шматпакутным народам, у свой час пакараным «бацькам народаў».**

**Неўзабаве, пасля вяртання з Балгарыі, Раіса Салтмурадаўна прыслала мне сваю новую кнігу паэзіі «Ожидание», выдадзеную летась у выдавецтве «Советская Россия», і фотаздымак Караткевіча. На адвароце Уладзімір Сямёнавіч напісаў у сваёй звыклай манеры: «Хорошей, умной, талантливой Руан... Пусть будет счастье в Чечне и на всей земле. У. Караткевіч. 18 февраля 59 г.»**

**Мне вельмі прыемна, што вершы Раісы Ахматавай гучаць вось і на беларускай мове, да якой, як і да ўсяго беларускага народа, у нашай каўказскай сяброўкі самыя цёплыя адносіны.**

**Генрых ДАЛІДОВІЧ.**

●

Мне не забыць, як нізка спеюць зоркі
У мясцінах родных, дзе Сусвет за крок.
Ледзь-ледзь прыўстаў — і рвеш тугія
гронкі,
І сам па пояс хутаешся ў змрок...

А гэтых рэчак бурнае ўзлятанне,
Дзе дзвюх стыхій, з'яднаных у адно,
Ты чуеш неадольнае змаганне!
А леднікоў марознае руно!

І на якой мяжы быццё не будзе,
Які ж аульскі выдумшчык схацеў
Стварыць зямлю, дзе нібы зоркі людзі,
Яна — маё бяссонне і мой спеў.

### КІПАРЫС

Зямля вясной — пачатак дзіўнай мары.
І хай бліскуча-стройны кіпарыс,
Я так люблю чачэнскую чынару,
З ёй побач нарадзіліся калісь.

Хоць прыхаванай палкасцю чароўны
Той кіпарыс, яго не апісаць!
Стаіць, бы завароржаны вандроўнік
На беразе, і слоў не падабраць.

Я прызнаю яго! Але мне трэба
Чынара каля саклі, там, дзе з ёй
Прывыкла я дзяліцца ўсім пад небам,
Як з блізкай і пяшчотнаю раднёй.

●

Якая ўлада і якая сіла
Ў змаганні дабрыню і зло звяла?
На дабрыні калісьці замясіла
Прырода нас, падліўшы кроплю зла.

●

Ў асеннім лесе моўкнуць словы...
Як лес наш пад дажджом прамок!
Тваёй далонню ліст кляновы
Мне на плячо пяшчотна лёг.

Гарэза-вецер дзесь прачнуўся,
Свавольны лёт — ва ўсе бакі,
А мне здаецца — ты даткнуўся
Дыханнем жаркім да шчакі.

З-за хмар прабіцца промні хочуць
І тонуць у вачах маіх...
Ды думаецца, — гэта ў вочы
Ты заглядзеўся ў гэты міг.

Замоўкнуў дзень. Аціхла морась,
Апошні з шолахаў прымоўк...
А мне ўсё мроіцца, як колісь,
Паблізу твой спакойны крок.

●

Было яшчэ ўсё проста так штодня,
А сёння, бы дрыгва ўсмактала сцежку,
Дзіцячая завершана гульня,
І нада мной твая ўзышла усмешка.

Што, цяжка непакорных прыручаць?
А ты ж сваёй пяшчоты зведаў сілу:
Як весела магла я даравацъ,
І ўсё таму, відаць, што палюбіла.

Ды надта ж хутка праляталі дні,
Прывык да непахіснае ты ўлады,
І дагаралі ў ачагу агні
Тым шчасцем, што выстуджвае пагляды.

А потым былі месяцы, гады,
Я ўспомніла, і быццам адтавала:
Якою была гордаю тады,
І гордасць тую ў сэрцы аднаўляла.

Хто знае, выйгравала які бой,
Калі да часу сівер мёў сумёты.
Як адзінока мне было з табой!
Цяпер адна. Але без адзіноты.





# Два апавяданні

### Міхась Даніленка

## Дзве зоркі

Няшчасце абрынулася, як чорная хмара з яснага неба.

У адзін з пагожых майскіх дзён каля Тонінай хаты спынілася крытая машына і шэсць салдат асцярожна вынеслі з яе цынкавую труну. І праз момант той, хто блізка быў ад Мартынавай хаты, пачуў мацярынскае галашэнне. Яно ўзвілося ў наваколле і паласнула, бы тая маланка.

З чым параўнаць матчына гора? Мусіць, цяжка знайсці такое параўнанне. Будуць мінаць месяцы, гады, дзесяцігоддзі. Жанчыну прыгне да зямлі невыносны цяжар, твар пакрэсліць маршчынамі, а ў парадзелыя валасы гора навечна ўпляце белую павуціну. А цяжар страты застанецца з таго дня ў мацярынскім сэрцы і, як камень, будзе ціснуць на душу, даводзіць да адчаю.

— А мой жа ты Яшачка! А мой жа ненаглядны саколік!—зазвінеў у двары Антанінін голас.—Чула маё сэрцайка: прыляцеў ты да маці сваёй, да дзеда свайго любімага. Прыляцеў ды не на сваіх маладых крыллях.

Некалі даўно-даўно, калі Яшу мінула якіх дзесяць гадоў, пакінуў Тоню-весялуху, пявунню—муж. Паехаў у далёкую Караганду шукаць іншай долі. Калі жанчыны часам пыталіся, куды адправіўся яе чалавек, Тоня адмахвалася:

— Паехаў сабакам сена касіць. А нам і так добра. Утраіх добра, праўда, Яшачка? Мы вечарамі зоркі свае на небе шукаем, а днём шпакоўні майструем...

Жанчына прыціскала да сябе бялявую сынаву галоўку. А Мартын замілавана глядзеў на ўнука. У душы ганарыўся ім: вельмі ж паслухмяны, разумны рос хлопчык. Тады Мартын працаваў лесніком. І часам браў Яшу з сабой у абход. Часцяком спыняліся яны каля знаёмага мурашніка і абодва—малы і стары—глядзелі, як снуюць, мітусяцца рыжыя насельнікі ля свайго жытла-мурашніка. Нярэдка Яша паведамляў:

— А я, дзеду, бачыў, як дзяцел бярозавік піў.

— Бярозавік, унучак, жыўцельную сілу мае. Вось хітрун-дзяцел з-пад бярозавай кары ў зламанай галінцы і смакуе той сок.

Пасля сярэдняй школы Якаў збіраўся паступаць у лясную акадэмію. І дзед, які, лічы, быў яму за бацьку, у душы ганарыўся тым: пойдзе ўнук па яго слядах, новыя лясы вакол Малых Вішнякоў насадзіць.

Паступіў. Няма Яшы... Балючая стрэмка працяла ўвесь левы бок Мартына, і лейтэнант, што прыехаў з салдатамі, падхапіў пад локаць старога. Амярцвелую Тоню адпайвалі суседкі. Маладзенькі салдат спалохана даставаў з палявой сумкі бутэлечку нашатыру...

Потым была бясконца доўгая дарога да могілак. Пад высокімі шатамі соснаў усё часцей паяўляліся крыжы са свежага дубу: паміралі старыя. А маладзейшыя перабіраліся ў Вялікія Вішнякі ці ў райцэнтр. Што было ім рабіць з гэтымі дзядулямі ды цёткамі?

Антаніну вялі пад рукі. І ногі яе сунуліся па дарозе, як у нежывой. Арына чула, як шапталі бледныя Тоніны вусны:

— А я ж не магу нават пагладзіць твае льняныя валасы, мой даражэнькі... Я не магу ў апошні час наглядзецца ў твае васільковыя вочы. Не магу пацалаваць твае ручачкі, ножачкі...

Жанчыны шапталіся:

— Няхай паплача. Лягчэй будзе. Ад сэрца камень адляжа.

Але Тоня, нібы мёртвая, раптам ледзь не асунулася ў выкапаную яму. Добра, што дужыя салдацкія рукі ўтрымалі яе. Не бачыла ні яна, ні дзед Мартын майскага неба з рэдкімі аблачынкамі, не чулі прарэзлівага голасу жаўны і перазвону жаваранкаў. Стары Мартын думаў, што пакуль на свеце блукае зло, будуць паміраць нашы дзеці і ўнукі. Бо хто ж абароніць, адваюе святло, калі не мы, салдаты? Так ужо наканавана лёсам.

Не чула Тоня, як пошчакам пракаціўся над свежай магілай салют. Не бачыла, як ля іх дома лейтэнант перадаваў дзеду Мартыну маленькую чырвоную скрыначку.

— Тут—баявы ордэн,—растлумачыў ён.—Па закону захоўваецца ў сям'і. Я ў ваенкамаце гаварыў—усё афармлена.

Дзед Мартын асцярожна расчыніў скрыначку і дрыжачай рукой дастаў адтуль ордэн Чырвонай Зоркі. Падумаў, нешта прашаптаў сам сабе і паклаў яго поруч з такім жа сваім ордэнам і медалямі, што хаваліся ў шуфлядзе серванта. Рэдка надзяваў ён пінжак з узнагародамі. Апошні раз ці не тады, калі ездзіў у Мінск на тэлебачанне...

...Міне шмат часу і кожны раз, прыгорбленыя горам, бацька і дачка—стары чалавек і ў гадах жанчына—вечарамі будуць глядзець на зорнае неба. Тоня будзе шукаць там адзінокую зорку свайго незабыўнага Яшы. А стары Мартын выцвілымі вачыма будзе шукаць дзве зоркі. Зоркі двух салдат. Дзе яны? Вунь які неабдымны сусвет раскінуўся над галавой. Колькі тых галактык? Ці ж знойдзе ён іх слабымі вачыма?

## Бранскі

Універсам у новым мікрараёне, што рос, як на дражджах, называўся «Бранскім». Назву такую далі таму, што мікрараён знаходзіўся на поўдзень ад цэнтра горада—шаша паўз яго вяла ў суседнюю Бранскую вобласць. Урэшце жыхароў гэта мала турбавала: «Бранскі», дык «Бранскі», галоўнае,—каб не пуставалі прылаўкі. А яны такі і не пуставалі: былі ў вялікім выбары і рыба, і масла, і кілбасы. А ў левым крыле раней прадавалі гарэлку. І заўсёды, калі ў двор універсама заязджаў фургон са скрынкамі, насустрач яму падаваўся худы мужчына з няголеным тварам у лётчыцкай скураной куртцы.

— З-за Бранскага не паспееш,—незадаволена кідалі яму ўслед тыя, хто днямі аціраўся тут.

Ці то прозвішча яго сапраўды было такім, ці заўсягдатаі піўной крамы так празвалі чалавека за тое, што ён быццам якім дадаткам да універсама быў, але на прозвішча ён ахвотна адзываўся.

Цяжка было вызначыць, колькі гадоў стукнула Бранскаму. Маршчыны пакрывалі лоб, скроні прыпудрыў сняжок сівізны. А калі чалавек здымаў з галавы памяты капронавы капялюш (іх цяпер амаль ніхто не насіў), прасвечвала ладная лысіна. Да гэтага варта дадаць хіба вялікі шызы нос, пра які тыя, хто бадзяўся тут, каля універсама, казалі: пах віна чуе за вярсту...

Бранскі падскокваў да фургона, спрытна падстаўляў паўсагнутую спіну, і шафёр ставіў на яе скрынку з бутэлькамі.

— Нейкім ты хліпкім становішся, — звычайна гаварыў шафёр.

— Гэ, язва, ліха яе вазьмі, замучыла,—лісліва ўсміхаючыся, тлумачыў Бранскі.

— Ведаю тваю язву. Паменш за гальштук закладвай. — і шафёр выразна пстрыкаў пальцамі па горлу.— Дадому б зазірнуў.

У двары універсама высілася цэлая гара скрынак з-пад бутэлек. Здавалася, іх адсюль ніколі не вывозілі. Але бачылі, што амаль кожны дзень з двара вырульвалі машыны, нагружаныя такімі ж скрынкамі. Днём тут ціўкалі вераб'і, лазілі бяздомныя каты. Казалі, што Бранскі, калі стаялі цёплыя ночы, нават начаваў недзе ў гэтым царстве скрынак. Раскіне апратку, схаваецца ад чужых вачэй і спіць сабе. Тыя, хто блізка яго ведаў, расказвалі, што раней Бранскі служыў на аэрадроме, быў ледзь не авіятэхнікам. Меў і воінскае званне. Аднойчы не стрымаўся ад спакусы: глынуў раз-другі авіяцыйнага спірту. Спадабаўся яму той спірт. Далей—больш... І пакаціўся, пашураваў чалавек пад круты адхон. Калі падлічылі, колькі таго спірту выцекла па віне Бранскага, дык адразу разжалавалі, звольнілі з авіяцыі. Жонка ледзь адхрысцілася ад яго,—так надакучыў ачмурэлы чад, што ахутваў Бранскага, калі заяўляўся той дадому. Адмовілася і ад аліментаў, хоць гадавала ўжо ладную дачушку—дзяўчо вучылася ў восьмым класе.

І вось прыбіўся Бранскі да універсама, які, лічы, быў яго цёзкам. І стаў добраахвотным грузчыкам. Ведаў: пацягае скрынкі з бутэлькамі, дык добрыя душы прадаўшчыц не забу-

●

Памяць, памяць, змагу адагрэцца,
Ты ж вядзі мяне ў той аул,
Дзе дзіцячае пудкае сэрца
Ў цеснай саклі жыве аж дасюль!

Тыя дні! Як іх крыўдзіла ўволю:
Не цаніла ні слёз, ні надзей...
Збегла ў свет, бы ў шырокае поле,
Свет сур'ёзных, дарослых людзей.

З кожным днём больш паспешліва крочу,
А ў тых днях мне было не ўявіць,
Што бываюць бяссоннымі ночы
І што сэрца, часамі, баліць.

За акенцам агні ўюцца змейкай.
Снег! І сцежак не бачна за ім,
Што ж так слёзы абпальваюць вейкі...
Не заснула сягоння зусім...

●

Вось і тайнаю нашаю стала
Лясная сцяжына праз тую красу,
Дзе жоўты пах лістоты апалай,
Мокры след, што прыбіў расу.

І хай жа заўсёды жыве таямніцай,
Бо сведка,— толькі зары святло,
Слова, якое цяпер і не сніцца,
І ў ніводзін са слоўнікаў не ўвайшло.

Пераклад Р. БАРАВІКОВАЙ.

дуць яго: сёе-тое перападзе. Бранскі пакрэктвае, прыгінаецца ледзь не да зямлі, але адзін валачэ скрынку ў падсобнае памяшканне магазіна. Бутэлькі бразгочуць.

— Можа, памагчы?—чуецца голас з двара.

Бранскі адмоўна круціць галавой, махае рукой: не трэба!

— На аэрадроме не такія штучкі да самалётаў падчэпліваў,—хрыпіць ён.—Адзін. Ніхто не памагаў.

— Калі тое было,—дзівіцца шафёр.—Кажу: хліпкім стаў.

Шафёр даўно ведае Бранскага. А калі дакладней, дык ён—яго былы сусед. Ведае і жонку, і дачку-васьмікласніцу. Ён яго некалі і прывёз да гэтага самага універсама. Часам прапаноўвае:

— Можа, што тваім перадаць?

— Ат,—адмахваецца той рукою.—Нічога не трэба.

Калі разгрузка закончана, Бранскі, хістаючыся, прысаджваецца на перакуленую скрынку. На ёй ляжыць ватоўка. Чалавек ашклянелым позіркам, быццам упершыню, акідвае плоскі дах універсама, па якім пахаджваюць галубы, двор, у якім высіцца гара парожняй «тары», пакінутую шыну ад аўтамашыны. Мусіць, у яго ачмураных мазгах праносяцца нейкія цьмяныя вобразы, сцэнкі, дзе ці ён сам быў удзельнікам, ці сведкам. Але засяродзіцца Бранскі ні на чым не можа і толькі матляе галавой, быццам адмахваецца ад мух, па-блазенску сам сабе пасміхаецца: прадаўшчыцы з ім ужо разлічыліся...

І раптам—нібы гром з яснага неба: у магазіне перасталі прадаваць гарэлку і віно. Правільней, прадавалі і цяпер, ды толькі з дзвюх гадзін дня і нашмат меней... І Бранскі, да якога прывыклі, як да гэтай гары пустых скрынак, раптам знік. Не было яго тыдзень, другі. Не было месяц. Шафёр, які аднойчы прывёз груз, прызнаўся бойкай прадаўшчыцы:

— Цяжкавата аднаму без Бранскага. Ён хоць і хліпкі, ды цягучы.

— А дзе ж ён?—пацікавілася тая.

— Гэ, маладзічка. Вось што значыць узяць сябе ў рукі. Вярнуўся да жонкі. Працуе на аэрадроме. Грамадзянскім, вядома. Авіямеханікам. Ён, як д'ябла, баіцца вашага універсама. «Век не глядзеў бы на свайго цёзку,—кажа.—Ды слова свайго не парушу». Хочаш? На наступным тыдні ўгавару прыехаць сюды?

«Шафёр забыўся, што некалі ён прывёз упершыню ў гэты мікраараён Бранскага і пазнаёміў з прадаўцамі).

...Ён і праўда прывёз пасля Бранскага. Сапраўды, зусім іншы чалавек стаяў каля універсама. Выпраўка вайсковая, як ні кажы. Хіба толькі па старой куртцы і можна было ў ім пазнаць Бранскага.

Значыць, не прапашчы чалавек.

# Аб чым шумяць векавыя ліпы

## Дом-сядзіба Кастуся Каліноўскага

Улетку 1987 года, рыхтуючыся да 150-годдзя з дня нараджэння выдатнага рэвалюцыянера-дэмакрата і мысліцеля, Гродзенскі абком КПБ і Свіслацкі райком партыі прапанавалі мне надзвычай цікавую справу: у вёсцы Якушоўка на Свіслаччыне пашукаць месца, дзе стаяў дом Каліноўскага. А калі давядзецца яго знайсці, дык зрабіць там раскопкі. Я згадзіўся з вялікай ахвотай.

І вось першая «разведка», першы выезд у Якушоўку з сакратаром Свіслацкага РК КПБ Маргарытай Васільеўнай Кульбіцкай і старэйшынай мясцовых краязнаўцаў, дырэктарам Свіслацкай СШ № 1 Аляксандрам Сямёнавічам Палубінскім. У райкомаўскім «уазіку» борздка імчым па землях «Каліноўшчыны»—багатага прыгранічнага калгаса, які носіць імя знакамітага сына Беларусі.

Па ўскрайку Белавежскай пушчы пераскокваем праз рачулку—і вось яна, Якушоўка. Невялікая, двароў з дзесяць вёска, што прымасцілася на схіле маляўнічага пагорка. На яго вяршыню і вынесла нас дуга палявой дарогі. Выходзім з машыны, азіраемся. Прыгожая мясціна! Што ёй надае хараства—адразу і не сказаць. Але кранае душу гэты пагоркавахвалісты краявід.

На вяршыні пагорка добра бачна зарослае чарнобылем і крапівою котлішча. Адзінокая старая бяроза самотна пільнуе гэтыя сляды парушанага чалавечага прыстанішча. Добра захаваўся склеп, які месціўся пад будынінай.

— Вось тут, здаецца, і стаяў той дом Каліноўскіх,—кажа А. Палубінскі.

Я, між тым, лезу ў абамшэлае сутарэнне, аглядаю муроўкі, вымяраю цагліны... Па ўсіх прыкметах гэта ніяк не будынак першай паловы XIX стагоддзя, а самае, што ні ёсць XX стагоддзе. Дом жа ў Якушоўцы Каліноўскія набылі ў 40-х гадах XIX ст., а пабудаваны ён быў яшчэ раней. Пра ўсё гэта я і распавёў, вылезшы на свет божы, сваім спадарожнікам.

Нашы сумненні вырашыў мясцовы жыхар—стары, гадоў за 70. Прыпыніўшыся са сваім невялікім статкам кароў, даўшы ўсім «добры дзень», ён прыслухаўся да нашай гаманы і адразу скеміў, што і да чаго.

— Ды не, не там шукаеце!—упэўнена сказаў ён.—Дом Каліноўскіх стаяў зусім не тут, а вось там, дзе растуць дрэвы.—І ён паказаў на добры лапік пагорка, густа зарослы асінамі і клёнамі гадоў па 50—60, падлескамі і розным кустоўем.

— Пасля Каліноўскіх гэтым домам валодалі розныя людзі, але апошні гаспадар, у якога парабкавала мая матуля, меў прозвішча Калітоўскі. У мікалаеўскую вайну, у 1915 г., у дом трапіў снарад германца, і ён згарэў. Потым пажарышча непрыкметна стала зарастаць. Цяпер бачна, што тут вырабілася.

Мы падышлі да месца сапраўднай «каліноўшчыны». Сцяна асінніка весела трапятала лісцем; кусты здзічэлай шыпшыны цопка хапаліся за адзежу і не пушчалі ўглыб зарасніку. Выразна акрэсліўся вялікі кавалак падрыхтоўчай працы. Найперш—ліквідаваць гэтыя зараснікі. Патрэбны пілы, сякеры... А пні? Іх жа карчаваць нельга. Бо калі там, унізе, сапраўды рэштні спаленага дома Каліноўскіх, то карэнне прашыла ўсё наскрозь. Трэба будзе іх акуратна абсекчы, а ўжо потым карчаваць.

Клопаты станавіліся одумам, ад якога нікуды не дзецца. Але, як гэта часта бывае ў жыцці, дапамога прыйшла нечакана. Да нашай грамады пад'ехаў «Масквіч», і з яго выйшаў энергічны мужчына з раскошнай капною валасоў над прыветным вясёлым тварам, добра збіты і рухавы. Павітаўшыся з намі, прадставіўся:

— Старшыня калгаса імя Каліноўскага—Смурага Сяргей Пятровіч.

Уведаўшы нашы клопаты, падтрымаў размову з сардэчнай зацікаўленасцю.

— Ну, такую бяду я і рукамі развяду. Дапаможам. У нас жа ёсць добрая тэхніка, так што будзьце спакойныя. Усё зробім акуратна. Пакуль прыедзеце са сваімі студэнтамі на раскопкі—тут будзе чыста.

І сапраўды, ён аказаўся чалавекам слова і справы. Але аб гэтым крыху ніжэй.

Між тым настаў час сказаць сваё слова археалогіі. Трэба было зрабіць разведачную шурфоўку. Толькі яна магла адказаць на многія пытанні і сярод іх на адно найважнейшае: ці ёсць на гэтым месцы рэшткі дома менавіта Каліноўскіх. А гэта азначала, што нам патрэбны матэрыялы сярэдзіны XIX стагоддзя.

Хто, на вашу думку, з'яўляецца галоўнай працоўнай сілай на археалагічных раскопках, хто зрабіў найвялікшы ўклад у археалагічную навуку рэспублікі ды і краіны? Не трэба доўга гадаць, гэтая рухаючая навуку сіла—школьнікі і студэнты.

Вось і цяпер на дапамогу мне прыйшлі адвечныя нашы памочнікі—школьнікі мясцовай Грынкаўскай школы і школ са Свіслачы. Выбраўшы некалькі мясцін сярод зарасніку на месцы колішняга пажарышча, пачалі мы асцярожна заглыбляцца ў зямлю. Хутка пайшлі рэшткі згарэлай будыніны, потым розныя рэчы XIX стагоддзя. А адным шурфом мы «селі» проста на разбураную печ. Хораша працавала дзятва, шчыруючы адзін перад другім, нават адпачываць не хацелі! Ды які можа быць адпачынак, калі вунь суседзі адкапалі груд незвычайных фігурыстых бутляў з эмблемамі розных заводаў—пастаўшчыкоў «двора его Императорского Величества», а тут—толькі дзверцы ад грубкі.

І вось калі ўрэшце аднойчы я сказаў, што разведка закончана, што здабыты доказы, якія даюць права на правядзенне раскопак, і што сюды для гэтага прыедуць ужо студэнты універсітэта—памочнікі мае вельмі засмуціліся, а ў некаторых нават бліснулі слёзы... Так ім не хацелася расставацца. Так усе здружыліся і ўцягнуліся ў цікавую працу, так заглыбіліся ў сапраўдную, жывую гісторыю роднай зямлі...

Пазней у Якушоўку прыехалі на археалагічную практыку студэнты-гісторыкі Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта. Старшыня калгаса С. Смурага сваё слова стрымаў: месца будучых раскопак было ачышчана ад дрэў і кустоўя. Сам ён не раз завітаў на раскопкі, клапаціўся аб студэнцкім быце, чым мог—дапамагаў. Дзіва што! У яго ў сям'і пяцёра дзяцей, а старэйшы сын-салдат у той час служыў у Афганістане. Не забывалася на нас М. Кульбіцкая і абласное начальства.

За два тыдні мы адкапалі і дэталёва расчысцілі рэштні дома Каліноўскіх. Высветлілася, што гэта была трохсекцыйная пабудова памерам 12,2 X 18,2 метра. Ад будынка ацалеў толькі ніжні вянок—падруба. Зруб стаяў на валунным фундаменце, пакладзеным насуха. Унутры дома ўдалося расчысціць падлогу, сасновыя дошкі якой хаця і абгарэлі, але захаваліся.



Праект аднаўлення сядзібы Каліноўскіх.



Цікавая знаходка.

Усходнюю секцыю дома займала кухня з камбінаванаю варыстай печчу і грубкаю, невялікі пакойчык кухара. Там таксама стаяла грубачка. Менавіта тут было найбольш знойдзена розных прадметаў—кухонны посуд, замкі, ключы, розныя штофы і бутэлькі.

З кухні меўся выхад на падворак, а таксама дзверы ў цэнтральную частку дома. У яе траплялі і праз парадны ўваход.

Цэнтральная частка дома складалася з перадпакоя, гасцёўні з белакафляным камінам-грубкаю і невялікай залы. Ад грубкі-«галандкі» і каміна захавалася толькі глінабітна-каменная падстава, якая дазваляе зрабіць іх рэканструкцыю.

Заходняя частка дома Каліноўскіх у Якушоўцы складалася з мноства невялікіх пакойчыкаў. З літаратуры вядома, што пасля смерці маці Кастуся ягоны бацька ажаніўся другі раз. Ад двух шлюбаў Сымон Сцяпанавіч меў 17 дзяцей. Тут яны, відаць, і месціліся.

Не выключана, што якоесьці жыллё магло быць на паддашку, на другім паверсе. Усё-такі сямейка была ладная...

Раскопкі і мяне і студэнтаў вельмі захаплялі і радавалі. Але ж былі сумненні: а ці таго часу гэта будынка, ці маюць дачыненне да Каліноўскага разнастайныя прадметы, якія мы штодня знаходзілі? І вось першая бясспрэчная «ластаўка»—манета 1861 года вартасцю ў 1 капейку. Ну як тут не прыгадаць прымаўку: «Малы залатнік, ды дарагі». Тая медная капеечка перабывала ў руках кожнага студэнта і шматлікіх гасцей (а іх штодня было многа, асабліва сялян з навакольных вёсак). І радаваліся мы ёй, як дзеці. Гэта ж вам не жартачкі—1861 год! Можа, яна і выпала з небагатай каліты самога Кастуся—усё можа быць.

А потым настаў і зусім святочны дзень. Была знойдзена пячатка бацькі К. Каліноўскага Сымона Сцяпанавіча. Ёю маркіраваліся гатовыя на продаж сувоі льняного палатна з невялікай—на 12 варштатаў-кросен—фабрыкі. На бронзавай круглай пячатцы ў 8 гарызантальных радкоў быў уціснут надпіс наступнага зместу: «Фабрика льняных изделий Гродненской губернии Волковыскаго уезду в имении Якушувка С. Калиновского».

Зразумела, што пасля такой знаходкі на душы зусім адлягло, зніклі апошнія сумненні.

...«Адпрацаваны» археалагічны раскоп звычайна будзіць у душы лёгкі шчымлівы сум. Скончана шматдзённая мазольная праца. І вось бульдозер засыпае баластам, зямлёю месца, якое толькі што было эпіцэнтрам «палявога» жыцця. Пройдзе час, і месца раскопу будзе не пазнаць і не адрозніць ад наваколля.



На раскопках.

У выпадку з домам К. Каліноўскага ўсё было не так. Тут раскапаныя рэшткі будынка не засыпаліся, а былі акуратна закрыты поліэтыленавай плёнкай і абгароджаны металічнай сеткай. Праз нейкі час сюды прыйдуць будаўнікі-рэстаўратары і дакладна па плане старой пабудовы узвядуць новы дом, які стане музеем-сядзібай Кастуся Каліноўскага. Спробу праекта аднаўлення гэтага будынка зрабіла старшы архітэктар Гродзенскіх рэстаўрацыйных майстэрань Алена Андрэеўна Ермаковіч.

Хутчэй бы гэты шчаслівы дзень настаў, каб сюды, на святую зямлю Кастуся Каліноўскага, пакутніка і змагара за лепшую долю народа, змаглі прыйсці і прыехаць яго нашчадкі і прадаўжальнікі вялікіх спраў і задум; пакланіцца яго дому, яго светлай памяці, прайсціся ля старых магутных ліп у прысадах, пасаджаных калісь Кастусём і яго братам Віктарам. Аб чым шумяць гэтыя векавечныя ліпы? Ці не чуваць у іх пошуме слоў легендарнага «Яські, гаспадара з-пад Вільні»:

— Каго любіш?
— Беларусь!
— Так узаемна!

Няхай вечна жыве на нашай зямлі гэты покліч, гэты рэвалюцыйны пароль нашых сэрцаў, як і імя чалавека, што выкрасаў яго калісьці сваім жыццём і смерцю нам у вечную спадчыну!

Міхась ТКАЧОЎ,
доктар гістарычных навук.

— Я лічу, што такі саюз патрэбны. І не толькі ў якасці матэрыяльнай падтрымкі, а перш за ўсё ў плане падтрымкі духоўнай: тут і творчыя зносіны кампазітараў, і, урэшце, вялікая адказнасць за сваю дзейнасць не толькі перад сабой, але і перад сваімі таварышамі.

**— Вы працуеце выкладчыкам у Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі. Ці дае вам гэтая праца творчае задавальненне, ці яна існуе толькі ў якасці «матэрыяльнай падтрымкі»?**

— Я выкладаю інструментоўку і чытанне партытур на новай кафедры, якую ўзначальвае Уладзімір Дарохін. Называецца яна «Кафедра інструментоўкі, аранжыроўкі і чытання партытур», адкрылася ў кансерваторыі зусім нядаўна. Педагагічная дзейнасць прыносіць мне вялікую карысць. Тут пастаянна працуеш з партытурамі, набываеш пэўныя навыкі. Акрамя таго, паколькі рэпертуар народнага і духавога аркестраў невялікі, ёсць магчымасць пачуць свой твор у новай аркестроўцы — мы імкнёмся даваць студэнтам магчымасць больш працаваць з беларускай музыкай. Так што, акрамя матэрыяльнай падтрымкі, выкладчыцкая работа дае мне і творчае задавальненне.

**— На заканчэнне нашай гутаркі, калі можна, — пра вашы творчыя задумы...**

— Гэта будзе зноў буйны твор і зноў на сюжэт з гістарычнага мінулага Беларусі. Дакладней, з пачатку XVI стагоддзя. З лібрэтысткай Святланай Клімковіч мы пішам оперу пад рабочаю назвай «Пані Ядвіга» паводле дакументальнай навелы Кастуся Тарасава «Чорны шлях».

**— Дзякуй за размову.**

Таццяна ПЕСНЯКЕВІЧ.

маскоўскім калектывам — камернаму хору «Ликостояние» (кіраўнік Т. Сямёнава), мужчынскаму ансамблю рускай духоўнай музыкі пад кіраўніцтвам В. Рыбіна, хору храма Прападобнага Пімена, ансамбля «Благовест» пад кіраўніцтвам Г. Кальцовай і інш.

Сапраўдным святочным падарункам для мінчан былі дзве праграмы Мужчынскага хору выдавецкага аддзела Маскоўскага Патрыярхата (рэгент С. Крывабокаў), калектыву, вядомаму і ў краіне, і замежным слухачам. Мы адкрылі для сябе унікальнай прыгажосці голас яго саліста А. Рызнічэнкі, які можна параўнаць хіба што з дайшоўшым да нас на пласцінках высокім шаляпінскім басам.

Лепшыя фестывальныя праграмы праз нейкі час, пэўна, пакажа Беларускае тэлебачанне, якое рабіла запіс канцэртаў. Дарэчы, аб праграмах. Яны ўтварылі досыць разнастайны пласт духоўнай культуры: класічная спадчына І. -С. Баха, Х. Глюка, Д. Бартнянскага, С. Рахманінава, музыка беларускіх царкоўных кампазітараў М. Нікалаевіча, А. Валынчыка, знаменныя распевы XVI стагоддзя, музыка літоўскіх касцёлаў, харавая прэм'ера — трыпціх мінчанкі Г. Казловай, балгарскія песнапенні і неад'емныя ад праваслаўных святаў творы А. Архангельскага, П. Часнакова...

КАЖУЦЬ, што людзей, якія далучаюцца да духоўнай музыкі, яна ператварае на гэтыя імгненні ў анёлападобныя істоты. Можна проста ўсміхнуцца, пачуўшы такую выснову, можна ўсур'ёз спрачацца з ёю... Але навошта? З самою ж музыкай спрачацца немагчыма. Бо яна і сапраўды вялікая ўплывовая сіла, якая дапамагае чалавеку быць і заставацца чалавекам. Узвышаць свой дух, ачышчаць душу, прасвятляць розум.

С. БЕРАСЦЕНЬ.

*У святле рампы*

# Малітва ў Анатаўцы

**«ПАМІНАЛЬНАЯ МАЛІТВА» Р. Горына паводле Шолама-Алейхема ў Акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы**

ЯНЫ з'яўляюцца на падмостках у нейкім дзіўным і дзівосным карагодзе — персанажы гэтага спектакля. Заўзяты тэатрал, і той не пазнае па абліччах усіх акцёраў. Нават і маладых жанчын, якія выконваюць ролі дзяўчат з дому Тэўе-малочніка: яны адразу робяць уражанне зусім пэўных характараў у сваёй стрыманай тэмпераментнай гаме пачуццяў і адметнасці вонкавага выгляду. Крыху пазней мы пераконваемся, што гэтыя позіркі, поўныя спадзяванняў і спачатку гарэзлівага настрою, што гэтая манера па-жаночы хітравата адстойваць свае правы і сваё месца пад сонцам — іхнія: А. Сідаравай, А. Іваннікавай, З. Белахвосцік... І гэты жвавы да мітуслівасці і такі лагодны Мотл Камзол — А. Уладамірскі. Зусім нечакана адгадваеш Ю. Авяр'янава ў такім зацятым у кожным сваім памкненні і кожным учынку Менахэму-Мэндлу...

Карагод рухаецца, круціцца ў танцы вясёлым, ды з адчувальнай сумотнай нотай. Быццам хтосьці з іх уцягнуты ў скокі, каб не заплакаць пры людзях, а камусьці здаецца, што наогул у жыцці, якое ўяўляе сабой кароткае жывое імгненне ў гэтым спрадвечным сусвеце, трэба карыстацца любым выпадкам, які дазваляе табе ўдосталь паспяваць, патанцаваць, выпіць кілішак, пацалаваць любага. У карагодзе — зухаватыя гарэзы і вясковыя мудрацы, дасціпныя жартаўнікі і пахмурныя скептыкі, даверлівыя жыццялюбы і схільныя да адчаю пасля першай жа аплявухі лёсу, фанабэрлівы ганарлівец з высока ўзнятай галавой і пакорлівы паслугач чужой улады з набычаным каркам. Кампазітар А. Рэнанскі і балетмайстар С. Дрэчын гэтай карагоднай выявaю як бы даюць камертон відовішчу, пастаўленаму Б. Эрыным. Гэта — не асобны акорд спектакля, а арганічна ўпісаны ў яго мастацкую тканіну выяўленча-рытмічны кампанент, які эмацыянальна ўплывае на гледача, уводзячы яго ў рэчышча сучаснай сцэнічнай версіі «свету Шолама-Алейхема» (п'есу пераклаў У. Някляеў).

Кажу ўпэўнена «свет Шолама-Алейхема» не таму, што лічу сябе знаўцам гэтага свету. Я сядзеў у крэсле партэра разам з Заірам Азгурам, вельмі ўзрушаным у той вечар. Ужо ў антракце ён усхвалявана гаварыў пра тое, што на гэты раз купалаўцы паўстаюць перад намі — купалаўцамі ў лепшым значэнні гэтага слова. Яны гранічна набліжаюцца да жыццёвага праўдападабенства, у якім нават непаўторная яўрэйская інтанацыя ў мелодыі беларускай мовы трымціць без надакучлівай аднастайнасці і той акцэнтоўкі, што «расквечвае» анекдоты ў вуснах стараннага іх расказчыка.

Сцэны ў доме Тэўе прасякнуты нейкай, паўтару яшчэ раз тое ж вызначэнне, дзіўнай і дзівоснай аўрай местачковага быту. І гэтыя падрабязнасці сцэнаграфіі — кола ад фурманкі, кабанчык-пудзіла, швейная машына, — нібыта ўведзеныя мастаком Б. Красновым толькі для характарыстыкі пэўнага асяроддзя і месца падзей п'есы, выразна адцяняюць тэатральнасць пастаноўкі. Як і бутафорская кабыла, на якой Тэўе возіць са сваёй Анатаўкі па суседніх вёсках і мястэчках малако, сыраквашу, вяршок, сыры, — яна адкрыта дэкарацыйная, але ўспрымаецца і як жывая істота, увасобленая на сцэне «старым» прыёмам традыцыйнай тэатральнасці. І яшчэ Заір Азгур падкрэсліваў арганічнае спалучэнне ў партытуры відовішча, зробленага Б. Эрыным, «дозы» амаль што натуральнай побытавай рэальнасці з «дозай» хітраватага сцэнічнага гумару і іроніі. Ёсць у гэтым драматычным спектаклі мудрая ўсмешка (яўрэі называюць яе «мёдам з гарчыцай напалову»).

Усмешка... Шолама-Алейхема?

**— Не зусім, — адказаў Заір Азгур. — Хутчэй Тэўе. Таго, якога паказвае нам Аўгуст Мілаванаў. Ты звярнуў увагу на тое, што гэты артыст не пнецца дацягнуцца, скажам, да Саламона Міхоэлса ў гэтай ролі і не паўтарае адкрыццяў Міхаіла Ульянава... Але, я згодны з табой: няма ў яго і таго, што было пафасам у вобразе, створаным нашым славутым Аляксандрам Ільінскім у коласаўскім тэатры ў шэсцьдзесят трэцім годзе. Так-так, у Шурыка Ільінскага Тэўе быў ад прыроды мудрацом, якога жыццёвыя абставіны вымушаюць размаўляць з богам і сусветам са свайго амаль жабрацкага прытулку. А Мілаванаў? Гэты Тэўе выглядае хутчэй звычайна разумным мужыком. А мудрым яго робіць жыццё. Тыя аплявухі лёсу, якімі яно ў яго пазначана...**

Сапраўды, А. Мілаванаў і пачынае спектакль як бы «ад імя тэатра», абвяшчаючы, што і дзе адбудзецца зараз на падмостках. Акцёр не адразу робіцца Тэўе. І прыглядаецца ён угару, туды, дзе «Той» — стваральнік усяго існага і законаў, па якіх тое існае існуе, набываючы то яву сапраўднага хараства і радасці, то ўвасабляючы рэчаіснасць пачварную і дзіўную. Мілаванаўскі Тэўе яшчэ можа мірыцца з тымі крыўдамі, якія робіць чалавек чалавеку, але калі заканамернасцю жыцця з'яўляецца фатальна непазбежны «парадак», згодна якому ты нібы і нараджаешся для суцэльных пакут, ён бурчыць. Спрачаецца. Распытвае бога і самога сябе. Абураецца. Чаму дарослыя дочкі — і не сказаць, быццам, такія ўжо дурныя! — выбіраюць кожная свой шлях, які не стасуецца з уяўленнем бацькоў пра шчасце! Не дапамагаюць ні слёзы, ні мальба, ні праклён Тэўе — Цэйтл, Годл, Хава аказаліся здатнымі выкінуць такую штуку, што хоць кладзіся ў труну...

Поўныя светлага розуму і тужлівай сумоты позіркі кідае гэты Тэўе ўгару: «Госпадзі божа літасцівы. Ты ж вялікі, відушчы і справядлівы, дык чаму тады гэткі парадак, калі аднаму Ты даеш усё, а другому — нічога? Аднаму — ласункі ды пачастункі, другому — кара егіпецкая...» Бадай, адна-адзіная ўцеха была дадзена Тэўе — рахманая і міласэрная Голда. Такой жонкі ніхто не мае ні ў Анатаўцы, ні нават у Касрылаўцы! І яе забірае Бог. Тэўе — і гэта адчувальна перадае А. Мілаванаў — да гэтага часу ўжо зведаў многае. Але пчала можа даць табе мёду, можа і гэтак балюча ўджаліць. І калі ты сам хочаш быць у жыцці з мёдам, дык нястомна лятай і збірай яго, працуючы да сёмага поту. І ён, Тэўе, — працуе! Як і жыве — сумленна. За што ж адабраў Бог у яго Голду?..

Сцэнограф Б. Красноў, можна сказаць, «пасадзіў» на падмостках яшчэ і дрэва-асілак. Карчасты дуб. Моцны. Як сімвал сілы жыцця. Толькі дуб гэты павалены. Ці не доля гэта Тэўе? Зваліцца. Скарыцца...

Духам ён бунтуе. Герой А. Мілаванава ў сваіх мудрых зваротах да Бога як бы выкладае ладную тэорыю гарманічнага жыцця, натуральнага, разумнага і справядлівага парадку. Ды тэорыя — мара. Суцэльныя летуценні.

Бо нават жыць у суладдзі з суседзямі, з тымі, з кім ты падзяляеш радасці і гора, хлеб і соль, улада не дазволіць. Калі ў Анатаўку ўрываюцца прадстаўнікі ці то некалі славутай «чорнай сотні», ці то цяперашняга таварыства «Памяць» на чале з раз'юшанай супраць «жыдоў» Дзяўчынай (выдатная акцёрская работа А. Ельяшэвіч), тыя асацыятыўныя імпульсы, што выпраменьвала сцэна і раней, робяцца надзвычай надзённымі. Падзяляючы многія з максімаў і парадоксаў, адрасаваных Тэўе Богу — лёсу, «парадку», звычаям і завядзёнкам, мы ў глядзельнай зале неяк асабліва жыва ўспрымаем асуджанасць так званага «маленькага чалавека», «звычайнага», такога, «як усе», на непазбежныя сувязі з акаляючым светам, а значыцца — і на канфлікты з да сябе падобнымі «іншымі». Канфлікты сямейныя, бытавыя, грамадскія, сацыяльныя, нацыянальныя, расавыя, рэлігійныя... Вызваліцца ад забабонаў, якія асабліва падтрымлівае, якім патурае афіцыйная ідэалогія, неверагодна цяжка, мо і немагчыма. І калі не раз'юшаны натоўп на чале з Дзяўчынай (чамусьці прыгадаеш абагульнены тэрмін нашых дзён — «нінаандрэевай»), дык царскі ўказ у руках анатаўскага ўрадніка пра высяленне яўрэяў з Анатаўкі падсячэ пад корань нават моцнага духам Тэўе.

**Ці такога ўжо і моцнага? Ён, праўда, не рве валасы на галаве і не дзярэ пазногцямі грудзі. Ён доўга хавае крыўду і збянтэжанасць за горка-мудрай сваёй усмешкай. У гэтым спектакль вобразна выяўляе яшчэ адну асаблівасць чалавечых узаемаадносін з аб'ектыўнымі рэаліямі. Тую асаблівасць можна вызначыць наступным чынам (я гэта калісьці вычытаў з кніг): чым больш поўнай выглядае ў вачах сур'ёзнага чалавека гармонія рэчаіснасці, набліжаючыся да ягонага ўяўлення пра яе, тым хутчэй і больш катастрафічна маральна разбураецца гэтае ўяўленне, калі чалавек нечакана адкрывае разлад і неадпаведнасць паміж ідэалам і бязлітаснай явай. Чым больш тонка і арганічна мроіцца табе такая жаданая і магчымая гармонія, тым іранічней ты будзеш потым смяяцца са сваіх летуценняў... Менавіта такі — горкі! — смех асвятляе спектакль «Памінальная малітва», прасякнуты драматычным адчуваннем недасканаласці не адно толькі «парадку» ў той жа Анатаўцы і ва ўсім свеце, але недасканаласці чалавека як біялагічнай і грамадскай істоты.**

Найбольш ярка гэты матыў шолама - алейхемаўскай усмешкі выяўлены і ўвасоблены вобразам Менахэма-Мэндла. Увесь унутраны лад і ўсе памкненні яго Ю. Авяр'янаў падначаліў гэткай прыроднай здольнасці чалавека па інстынкту самазахавання прыстасоўвацца да існуючых умоў любым коштам. Для гэтага ад цябе жыццё вымагае пэўнай «маскі», пэўнага «аблічча» або, як цяпер кажуць, «іміджа». Менахэм-Мэндл у купалаўцаў па-свойму шырока дасведчаны гандляр і прайдзісвет. Спрытны, вынаходлівы, кемлівы, але... Але — і ён нешчаслівы да болю чалавек. «Маленькі чалавек», які ўзнамерыўся перахітрыць «парадак», лад, лёс. Ён і духоўны сын сваёй дзіўнаватай маці, у ролі якой С. Станюта дэманструе віртуознае мастацтва эпізода ў вялікім сцэнічным відовішчы, — жанчыны летуценнай і да глупства наіўнай, смешнай і кранальна бездапаможнай, з прыкметамі былога танна прэстыжнага жыцця ў прыстойным асяроддзі заможных правінцыяльных яўрэяў.

Тэўе ведае, што і такім чынам можна існаваць, падманваючы самога сябе і ўласным «іміджам», і ілюзорнымі ўдачамі, ды толькі лёс Менахэма-Мэндла не для яго. Пры ўсёй залежнасці ад «парадку» Тэўе самай надзейнай і вартай павагі ў чалавеку рысай лічыць сумленне. Такое, якім надзяліў бог Голду. У гэтай ролі выступае Г. Талкачова, даючы паглыблены і вельмі ж маляўнічы характар лагоднага і добразычлівага жаночага «варыянту Тэўе». Яна і размаўляе натуральна, быццам ні аб чым не задумваючыся, як птушка, а на самай справе — колькі душэўнага такту ў яе стаўленні да вясковага дзівака Сцяпана (В. Філатаў), да мілага няўдаліцы Мотла, да такога шчырага Фёдара (В. Манаеў), да гэтага вандроўнага Перчыка (В. Паўлюць, які пакуль што вельмі цьмяна ўяўляе сабе характар свайго персанажа). Узрушае яе маналог перад смерцю: вялікая духоўная энергія і светлы гонар чалавека выпраменьваюцца з усёй постаці Голды ў хвіліну яе апошняй споведзі і апошняга звароту да тых, хто жыве і дае жыццё новым людзям... Род Тэўе не можна не доўжыцца, калі ў ім была такая моц і такое хараство матчынай сілы!.. Ці ж выпадкова пасля гэтага маналогу ў зале ўспыхваюць дружныя апладысменты на адрас Г. Талкачовай...

Яны ўвогуле даволі часта гучаць на спектаклі, адзначаючы акцёрскія ўдачы і сакавітую тэатральнасць відовішча. Акрамя памянёных мной вышэй, мушу назваць яшчэ стваральнікаў каларытных сцэнічных вобразаў — Б. Уладамірскага (Лейзер Волф) і П. Дубашынскага (Ураднік). Прываблівае ансамблевае акцёрскае суладдзе, якое здаўна было нават не спадарожнікам у творчасці гэтай трупы, а яе своеасаблівай прэрагатывай.

Ах, каб яшчэ спектакль не быў бы так зацягнуты па часе! У ім ёсць вельмі смачныя ў аўтаномным выкананні артыстамі эпізоды, якія міжволі абцяжарваюць відовішча. Якія? Сказаць дакладна не бяруся. Ды і Б. Эрына разумею: хай сабе ён і сам бачыць, як хранаметраж пастаноўкі перавышае жаданы, выбраць з мноства цудоўна выкананых сцэн «неабавязковыя» амаль немагчыма. Дзеля належнага рытмічнага малюнка спектакля — неабходна. І яшчэ. На тым паказе «Памінальнай малітвы», які бачыў я, у А. Мілаванава зрэдку, але праскоквалі інтанацыі завучанасці; рэплікі, прамоўленыя амаль механічна. Можа, і дыкцыя была ў

(Працяг на стар. 12).

# Коласава крынічка

Соф'я Маркіянаўна Корань, карэнная жыхарка Балачанкі, дакляруе:

— Я звяду вас з Соф'яй Пініпаўнай Клеўкай,— смяецца. — Па мясцоваму з Зоськай. Гадкоў 80 жанчыне. але ёмкая. Пра Коласа шмат ведае.

— Ты можаш яшчэ параіць, каб завіталі да Соф'і Іванаўны Корань. Акурат непадалёку ад яе хаты жыў пасляваенны старшыня калгаса Канстанцін Дзятка,— заўважыў муж Соф'і Маркіянаўны Мікалай Уладзіміравіч.

Добра, што Соф'я Маркіянаўна падахвоцілася правесці экскурсантаў — вучняў Амяльнянскай СШ да Соф'і Піліпаўны. Вяртаецца яна, аднак, ні з чым.

— Куды падзелася? — разводзіць рукамі жанчына.— Згалела кабета.

І сапраўды: у вёсцы 9 хат. Крамы ў Балачанцы няма, медпункта — таксама. Стала тут жывуць яшчэ дзве сям'і — Соф'і Іванаўны Клеўкі і Васіля Міхайлавіча Клунка. Дзе ж жанчына?

— Астатнія, хто пасяліўся тут, аселі ў гарадах, дажываюць век у дзяцей,— ахвотна тлумачыць Соф'я Маркіянаўна.— Прыязджаюць увесну, калі трэба дагледзець агародчык. падлатаць плот, паправіць комін.

Дзеці запрашаюць цётку Зосю ў калгасны аўтобус (на дварэ золка). Жанчына дае згоду, ахвотна расказвае пра народнага паэта.

— Калгаснікі яго называлі проста: дзядзька Колас. Дзеці—дзядзька Якуб (у Балачанцы да вайны школка была на чатыры класы).

Канстанцін Міхайлавіч упадабаў нашы мясціны. Збіраўся тут дачу ставіць, але вайна перашкодзіла. А да 1938 года, да ссялення вёсачкі-хутара Вусце, ён летаваў там з сям'ёй. Пяць хат у Вусці. Жылі там добрыя людзі — Клеўкі, Рымашэўскія. Прыгожая мясцінка, вабная. Балачанка ўпадае ў Свіслач, побач — Вусцянскі грудок, а на ім грыбоў — хоць касу закладвай. Як у дзеўках я хадзіла, бывала, па грыбы злётаю на грудок. Баравікі там карычневыя, куртаценькія. Там і дзядзьку Коласа сустракала. То рыбачыць, то па лесе ходзіць. Абачліва, не спяшаючыся,— заўважае Соф'я Маркіянаўна.

— Добра паэту, відаць, думалася ў Вусці, добра пісалася,— зазначае намеснік дырэктара Амяльнянскай СШ Браніслава Іванаўна Сакалова.— Маляўнічыя мясціны ў Вусці. у Балачанцы такіх няма. У Вусці пагоркі, узвышшы, спады. Краявід.

Слухаю аповяд Корань і спрабую адкрыць тайну. Чаму ўсё ж так прыцягвала яго тая мясцінка? Тое, што былая вёска — сама «беларуская Швейцарыя», яшчэ ні аб чым не гаворыць. Дастае прыгажосці і непаўторнасці і Балачанцы.

Праз пяць гадоў я зноў наведаў Вусце,
Прытулак мой, абраны мой куток.
Дзе высіцца Вусцянскі мой грудок,
І вецер лёгенька гайдаецца на кусце.

Верш «У родных мясцінах», з якога я прывёў тут страфу, сатканы з дыяментаў рос, святла гукаў, аскабалачкаў смутку і жальбы па загубленым, страчаным. Тут Колас парадніўся з вусцянцамі духоўна. Але дзе вытокі гэтай знітаванасці, дзе пачатак яе? Пачатак ёсць, а канца няма, бо любоў людская не ведае мяжы.

Грудок усё ж такі, як быў прыветны,
Гваздзічка белая, чабор на ім.
Ды ўжо гляджу я поглядам другім,
Як дуб стары, астаўшыся бяздзетным.

Проста з Балачанкі ён прыехаў да Вусця ў 1945 годзе. І жахнуўся ад убачанага. Паслужлівая памяць нагадала:

Бязлюддзі, ціш. Высокаю травою
Вусцянскія сялібы зараслі,
Бярэзнічак заняўся на зямлі,
Атульвае разложыстую хвою.

Зрэшты, расказвае Соф'я Маркіянаўна, цягне ў Вусце і сына Коласа Данілу Канстанцінавіча. Былы старшыня калгаса Апанас Аляксеевіч Лопан з Данілам Міцкевічам абышлі не раз увесь Вусцянскі лог. Дарагія, думаю я, сыну бацькавы сцежкі.

— З'явілася, нарэшце,—кажа Соф'я Маркіянаўна, згледзеўшы праз шкло аўтобуса Соф'ю Піліпаўну.— І дзе ж ты, дзеўка, ходзіш?— звяртаецца да жанчыны.— Людзі ж цябе чакаюць ціцеперся ўжо.

— Ой, не кажы,— нібы апраўдваецца старая Зоська.— У лесе была, душой адышла.— А ў кашолцы ў яе першыя кветкі вясны пралескі. Бабуля адорвае імі шчодра дзяцей.— Бярыце, дзеткі, бярыце, — прапануе яна фіялетавую акрасу, а сама хараша і светла ўсміхаецца.

А пасля расказвала-згадвала:

— Аднаго разу легкавушка Коласава засела. Наўпроці маёй хаты. Колас у бальніцу да доктаркі вёз хворага. Ну, мой чалавек вызваўся памагчы. Колас недзе адхінуўся, шафёр з маім прыносяць у вёдрах ігліцу з мурашніка, пад колы машыны сыплюць. Тады гразка было. Падклалі мурашніку пад шыны, машына на цвёрдае і выйшла. Колас, як угледзеў, што мурашнік развярнулі, вельмі ўзлаваўся. Што вы, кажа, лесу шкодзіце.

Соф'я Піліпаўна ўспамінае і такі выпадак.

— Жук у нашай вёсцы быў. Дачушка расла ў яго, Ганначка. Пяць годзікаў мела дзіцятка. І ўсё румзае: то кот лапкай нос падрапае, то певень дзеўбане ў ножку. Даведаўся Колас пра тую яе бяду. Прыходзіць у хату да Жука і пытае:

— Дзе той пеўнік нядобры, што Ганначку крыўдзіць?

Ну, а дзяўчынка ў плач:

— У лес сышоў з катом, — кажа.

— Дык і сабачка няйначай з імі, што вока табе запарушыў, калі разграбаў на агародзе лапамі зямлю.

— Усе яны заадно,—у слёзы Ганначка.— Згаварыліся.

Тут Колас і заступіўся за ката. Прызнайся, кажа, што носік ад сонца ў цябе палупіўся, ад загару, значыцца. Можа, дапраўды, не вінаваты той кот быў. Ганначка вочкі апусціла долу, успомніла, што кот і праўда не драпаў яе лапай. І Тузіка, што ў Жука быў, Колас апраўдаў нязмушана.

— А ўся бяда,— смяецца Піліпаўна,— што Ганначка не хацела ў стасункі ўвайсці раней з катом, сабачкам, пеўнем. А як стала сама карміць ката, у сподачак яму малака нальe, пеўню зярнят вынясе, дык яны ўсе, быццам згаварыўшыся, не крыўдзілі больш дзяўчынку.

— Гэта Ганначцы так дзядзька Якуб падказаў?—пытаюцца вучні.

— Ён, ён,— згаджаецца Соф'я Піліпаўна. — Вельмі ж Колас любіў дзяцей і не пераносіў, калі хто з іх пакутуе.— Канстанцін Міхайлавіч,— дадае жанчына,— верш склаў пра Ганначку. Пра тое, як яна нэндзай была. То тое раней не па ёй, то гэта — кепска. А тут быццам другім стала дзіцяткам. Вось што значыць мець клопат пра іншых.

Соф'я Маркіянаўна і Соф'я Піліпаўна параілі звярнуцца да Веры Саўлевіч, якая да вайны жыла ў Вусці, а цяпер атайбавалася ў Падбярэжжы.

— Гэта кіламетры са тры адсюль, рукой падаць. Калі брацца на Хідру, то чацвёрты дом з правага боку.

Неўзабаве мы былі ў Падбярэжжы, адшукалі Саўлевіч.

— Чым дарага Коласу Вусце было? — задумалася жанчына.— Давайце разам думаць. Аднойчы сабраў ён нас, малых, ды кажа: «З глыбінь да нас ідзе чароўная вадзіца. Хто яе пап'е — дужым стане». А хто ж не хоча стаць дужым. Клеўкавы дзеці ў адзін голас: «Хочам асілкамі стаць». А Колас ім: «Трэба дапамагчы вадзіцы праз пласты зямныя прабіцца. У каго рыдлёўкі ёсць?» Нехта бочку з дома без дна прыкаціў. У выкапаную яміну ўставілі. Пайшла вада. Усе п'юць — не нахваляцца. А вада чыстая, сцюдзёная, аж зубы ломіць. Кажуць жанчыны, што і зараз па ваду тую ходзяць, хто ў Балачынцы жыве. У Мінск унукам у пляшках возяць ад хвароб.

— А вось Якуб Колас піша ў вершы «У людных мясцінах», — звяртаецца да Саўлевіч Браніслава Іванаўна:

І толькі мне адно сягоння горка,
Няма таго, з кім думкі я дзяліў,
З кім тут стаяў, з кім я шчаслівы быў.
Пагасла ты, яснюсенькая зорка.

— Гэта пра Марыю Змітраўну, жонку сваю. Колас напісаў. Яны ў Дзяткі летам кватаравалі, перад вайной. У 1945 годзе Марыя Змітраўна памерла.

Саўлевіч разгортвае сямейны альбом. Уразіла фота: Колас сярод калгаснікаў. Нешта расказвае людзям. Пры гальштуку паэт, у капелюшы, на лацкане пінжака — дэпутацкія і лаўрэацкія рэгаліі.

— Гэта наша, можна сказаць, сямейнае фота. Памяць, ведаеце...

— А з якой нагоды сфатаграфаваліся ўсе разам? — пытаюся.

— Дык у той год, — адказвае Саўлевіч,— Колас на свае зберажэнні набыў палутарку для калгаса. Ёмкая, ведаеце, машына: каго ў бальніцу, памятаю, шафёр Шчэрба падкіне, а там, глядзіш, грузавічок ужо на ферму імчыць, а затым спяшае жанок забраць пад вечар з поля.

Жанчына дастае з сямейнага альбома газетныя фотавыразкі.

— Фатаграфаваў,— каменціруе Саўлевіч,— чалавек з Мінска. Вось подпіс пад фота стаіць: Уладзімір Кутас. 1952 год.

На другім здымку Якуб Колас з нейкімі мужчынамі.

— Гэта нашы людзі,— тлумачыць Саўлевіч.— Па правую руку ад пісьменніка — Міхал Саўлевіч, бухгалтар, а другі — Нупрэй Кавалеўскі, ляснік. У збажыне стаяць, светлай памяці,— ціха гаворыць жанчына.

Хата Кастуся Дзяткі, пасляваеннага старшыні, не захавалася, час не збярог яе. Але ж знак які-небудзь можна было б паставіць. Тут, маўляў, жыў першы старшыня калгаса, а ў яго кватараваў народны пісьменнік. У Вусці струменіць Коласава крынічка. Абагарадзіць бы яе ды таксама нейкую шыльдачку паставіць. Захаваць, адным словам, памяць. Можа б, за добрую справу ўзяліся ўсе разам — Пухавіцкі сельсавет, праўленне калгаса імя Чапаева, мясцовая школа, што ў Пухавічах? З думкамі пра гэта еду да сына Коласа ў Мінск.

Даніла Канстанцінавіч кажа:

— Ваш раён — памяць нязгасная. Да вайны мы адпачывалі ў Загібельцы, каля Талькі, пасля кватаравалі летам у Беразянцы ў хаце Леаніда Шчэрбы. Потым пераехалі ў Вусце. Пасля вайны бацька на два тыдні прывёз нас на адпачынак у Балачанку... Я вельмі люблю пухаўчукоў,— гаворыць Даніла Канстанцінавіч. — Гэта людзі вялікай душы і добрага сэрца. Бацька і маці з радасцю наведвалі ваш зялёны край. Добра, што ў іх сэрцах жыве памяць аб ім.

Праз нейкі час вучні Амяльнянскай СШ зноў прыехалі ў Коласавы мясціны. Не з пустымі рукамі. Там, дзе была хата Дзяткі, паклалі камень з надпісам: «У 30—50 гадах тут летаваў Якуб Колас з сям'ёй». У Вусці, дзе быў хутар, замацавалі шыльдачку ля крыніцы народнага песняра.

Прыязджайце і вы папіць з яе.

**Браніслаў ЗУБКОЎСКІ,**
**настаўнік Амяльнянскай СШ Пухавіцкага раёна.**

# Малітва ў Анатаўцы

**(Пачатак на стар. 11).**

той вечар у яго не ў лепшым стане (як кажуць, акцёр «не ў голасе»). Затое ягоны маналог пасля смерці Голды і ўсіх далейшых пакут пра нікчэмны сэнс жыцця для дрэва, што пазбаўлена сваіх галін, свайго вецця і сваёй лістоты, гэтая пачалавечы зразумелая і натуральная прага салідарнасці паміж людзьмі, так своеасабліва выказаная праз стогн-плач мудрага і мужнага Тэўе,— выдатны момант спектакля. Аказваецца, памылковыя забабоны і ісціна-праўда пераплецены ў свеце, як змеі. Быццам для героя зараз гасне сонца назаўжды, настае суцэльны змрок, а ўсе людзі, што жывуць у гэтым здзічэлым грамадстве, трапілі ў тунель без выйсця.

Праўда, у Тэўе ўжо нарадзіўся першы ўнук. Магчыма, у гэтага «Ліра з Анатаўкі» сярод дачок ёсць і свая «Кардэлія»? Прамень надзеі...

**Спектакль не затрымліваецца на гэтай асацыяцыі. Ён зноў пачынае круціцца ў рухавым карагодзе. І ўсе яны бяруцца за рукі—пахмурны скептык і здатны на спачуванне чужому гору царскі ўраднік, вясновы мудрэц і летуценны закаханы, зайздрослівы ганарлівец і гэткі местачковы Хлестаноў, вясёлая плёткарка і высакародны поп тутэйшай царквы, прыцішаны рабін і спрытны гандляр. Мільгацяць у запаволеным танцы стракатыя хусткі, наглянцаваныя боты, шырокія спадніцы, саматканыя світкі. І на тварах—маўклівыя ўсмешкі. Надзеі? Веры? Ці горкай цвярозай насцярожанасці? А мо гэта і ёсць памінальная малітва? Яны ж усе—не благія людзі і ўмеюць спачуваць адзін аднаму! Чаму тады такая сумная ў іх паўсядзённасць і чаму яны так пакорліва схіляюцца перад устаноўленым не імі «парадкам», ды і кіруюцца часта самі антычалавечнымі забабонамі?**

Чаму?

*Тэўе ўзнімае ўгару руку — ці то ён рашуча скажа нешта такое, што ўсё нам і анатаўцам растлумачыць, ці то шпурне картуз на зямлю і пашле праклён таму, хто наладжвае такі «парадак» і заводзіць сярод людзей такія забабоны...*

Барыс БУР'ЯН.

# «БЕЛТЭАТР» ПАДПІСВАЕ КАНТРАКТ

Хутка ўжо год, як у Мінску пачало сваю дзейнасць Беларускае рэспубліканскае тэатральна-гастрольнае бюро «Белтэатр», гасразліковая арганізацыя, пра спецыфіку работы якой нам расказвае старшыня бюро Валерый Чайкоўскі.

— Валерый Віктаравіч, не сакрэт, што сёння розныя гасразліковыя арганізацыі з'яўляюцца, як грыбы пасля дажджу...

**— Можаце не працягваць. Думаю, я зразумеў правільна: вас неабходна пераканаць, што бюро нарадзілася невыпадкова, што яно займаецца справай? Дык вось, наша бюро праводзіць усю, падкрэсліваю, усю работу па арганізацыі гастроляў дзяржаўных тэатральных калектываў у БССР. Мы для тэатраў з-за межаў Беларусі арандуем пляцоўкі, размяшчаем іх у гасцініцах горада, прадаём білеты. Адным словам, нясём адказнасць за паспяховае правядзенне гастроляў.**

— Але ўсё-такі, чым выклікана нараджэнне зусім новай арганізацыі ў рэспубліцы?

**— Яна новая не толькі для нашай рэспублікі. Аналага тэатральна-гастрольнаму бюро «Белтэатр» у краіне яшчэ няма. Праўда, ёсць інфармацыя, што ў «Росконцерте» таксама вырашылі стварыць падобнае бюро. Пасля значнага скарачэння апарату Міністэрства культуры БССР сталася так, што гастролямі калектываў займацца няма каму, а гэты ўчастак работы вельмі складаны. Тут мы і прапанавалі свае паслугі.**

— Адным словам, «Белтэатр» вядзе ўсю работу з прыезджымі калектывамі. Як я разумею, кожны тэатр, які трапляе ў нашу рэспубліку, павінен заключыць пагадненне з бюро...

**— Не заўсёды, усім навязваць свае паслугі мы не маем права. Калі тэатр адмаўляецца ад нашых паслуг, мы выпісваем яму гастрольнае пасведчанне і на гэтым нашы кантакты спыняюцца. Першымі калектывамі, якія запрошаны да нас па лініі бюро, былі Маскоўскі яўрэйскі тэатр «Шалом», Ноўгарадскі драматычны тэатр. Да прыкладу, Калінінградскі абласны драмтэатр адмовіўся ад нашых паслуг, і свае летнія гастролі арганізоўваў сам.**

— Некаторыя гастралюючыя калектывы адмаўляюцца ад супрацоўніцтва з-за высокага кошту паслуг?

**— Думаю, што не: тэатры пераводзяць на наш рахунак 3 працэнты ад даходаў. Мне здаецца, што гэта не такая вялікая сума, якая можа калектывы, мякка кажучы, палохаць. Па дагаворы з тэатрам мы бяром яго на гарантыю: абавязваемся займацца ўсёй арганізацыйнай работай па правядзенні гастроляў і калі калектыў панёс за час гастроляў страты, мы са сваёй кішэні вяртаем яму недастаючую суму. Дадайце сюды яўнае зніжэнне цікаўнасці гледача да тэатральнага мастацтва, і вы зразумееце, што на свае плечы ўскладаем вялікі цяжар.**

— Ваша фірма носіць такую прыгожую назву — «Белтэатр». Якую практычную карысць беларускаму тэатральнаму мастацтву прыносіць работа вашага бюро?

**— Сваёй работай мы дапамагаем правядзенню гастроляў калектывам з Беларусі. Напрыклад, Рускі тэатр БССР імя М. Горкага гастралюе ў Севастопалі, а да нас прыбывае Севастопальскі драматычны тэатр. Значыць, севастопальцам мы ствараем усе ўмовы для работы ў нас, а ўжо ў Севастопалі па дамоўленасці дапамагаюць нашаму тэатру. Такая эквівалентная дапамога будзе аказвацца і надалей. Мы выходзім на замежныя сувязі. Так, у Мінску гастралявалі не без нашай дапамогі міжнародная група артыстаў тэатраў лялек з Нідэрландаў, Аўстрыі, ФРГ. Цяпер запрашаем для паўторных гастроляў тэатр Крыстафа Бахданьскага (Аўстрыя), у планах бюро — гастролі варшаўскага тэатра «Розмайтоцкі». Між іншым, 5 працэнтаў ад сваіх даходаў мы адлічваем у фонд развіцця тэатральнай справы ў Беларусі.**

*— Як у кожнай нованароджанай арганізацыі, у вас, Валерый Віктаравіч, ёсць і свае праблемы?..*

**— Больш чым трэба, пра іх можна было б расказваць доўга. Самая значная — у нас адсутнічае памяшканне, а гэта азначае мноства няўвязак, якія паўстаюць штодня.**

Інтэрв'ю ўзяў
**В. ЛАПЦІК.**

*Водгукі, палеміка*

# Час паразумецца...

**Адкрыты ліст Анатолю ГРЫЦКЕВІЧУ**

ГЛЫБОКАПАВАЖАНЫ Анатоль Пятровіч!

Не адразу вырашыў я звярнуцца да Вас з гэтым пісьмом. Пакутліва думаў — ці варта? Ці не пашкодзіць яно агульнай нашай справе? Прыйшоў да высновы, што варта, што і Вы, і чытачы «ЛіМа» зразумееце мяне правільна.

Сюжэт казкі пра «каварнага» «старэйшага брата», які праглынуў «двунадесять языков», зрабіўся да такой ступені модным, што можа смела канкурыраваць сваёй распаўсюджанасцю з тым, якім забаўлялі нас калісьці ў дзяцінстве, — пра Чырвоную Шапачку і Шэрага Воўка. Вось і Вы не пераадолелі спакусы пачаставаць ім чытачоў «ЛіМа» («ЛіМ», №39, 1989). Прызнаюся, мяне гэта засмуціла. Не ведаю, можа, гэта покліч крыві, можа, прычына больш празаічная — любоў да ісціны, але ў адрозненне ад некаторых аўтараў, якія не хочуць «своими счесться», лічу сябе русічам, таму для мяне вельмі нават неабыякава, што пра мяне думае Анатоль Грыцкевіч.

Але — бліжэй да справы. Я цалкам згодзен з Вамі, што гісторыя ўзаемаадносін двух нашых братніх народаў у тым выглядзе, у якім яна паўстае ў пісаннях савецкіх герадотаў, вельмі далёкая ад ісціны. Не магу не падзяліць і Вашай заклапочанасці з нагоды такога прыкрага становішча. Мы проста абавязаны ўзнавіць гэту гісторыю ў сапраўдным абліччы, ва ўсёй паўнаце і трагічнай часам супярэчлівасці.І, зразумела, не з аднаго толькі акадэмічнага інтарэсу. Я не гісторык па адукацыі. Аднак жа і не манкурт. Таму ў меру сваіх сіл і магчымасцяў гатовы ўсяляк садзейнічаць рашэнню гэтай задачы.

Пачну з таго, што Вам здаецца вельмі істотным, а мне — зусім неістотным — са спасылак на аўтарытэты. Вы выказваеце жаль, што «На працягу дзесяцігоддзяў замоўчваўся большасцю гісторыкаў шэраг твораў К. Маркса і Ф. Энгельса», і бачыце ў гэтым амаль што асноўную прычыну нядобрага становішча, што склалася ў беларускай гістарычнай навуцы. Я ж, наадварот, вельмі далёкі ад думкі, што «мнения чужие только святы», а таму лічу за лепшае глядзець сваімі вачамі і думаць уласнай галавой. Але я гатовы і ў гэтым пункце пайсці Вам насустрач і выкласці некаторыя забытыя старонкі тых аўтарытэтаў, якіх Вы клічаце ў сведкі.

**Дык вось: «Никто не станет утверждать, что карта Европы установлена окончательно. Но все изменения, поскольку они рассчитаны на долгий срок, должны исходить из того, чтобы крупным и жизнеспособным европейским нациям во всё большей и большей мере предоставить их действительно естественные границы, которые определяются языком и общностью симпатий; в то же время обломки народов, которые еще имеются кое-где и которые не способны более к самостоятельному национальному существованию, должны остаться в составе более крупных наций и либо раствориться в них, либо остаться в качестве этнографических памятников, без всякого политического значения» (К. Маркс. Ф. Энгельс, Соч., т. 13, с. 218).**

Ганарар за публікацыю аўтар пералічвае на рахунак Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны.

Ці не чуюцца Вам тут матывы той пераможнай песні, якую праспяваў у 1939 годзе В. М. Молатаў над адоленай Польшчай. Ці не здаецца Вам, што, каб наш міністр замежных спраў не быў такім неадукаваным, ён бы мог падвесці пад гэтую сталінска-гітлераўскую разбойніцкую здзелку моцны тэарэтычны фундамент, спасылаючыся на «самую передавую грамадскую навуку»? І ці ёсць неабходнасць спецыяльна даказваць, што нічога нават блізка падобнага на гэтую «тэорыю» гістарычнага лёсу нацый Вы не знойдзеце ні ў Герцэна, ні ў каго іншага з выдатных дзеячаў рускай культуры? І ў пытанні аб падзелах Польшчы дальбог не было аніякай неабходнасці ехаць па навуку ў «туманную Германию». Звярнуліся хоць бы да таго ж Герцэна, Бакуніна, ды ці мала да каго са «старэйшых братоў». Спасылаецеся Вы на Мураўёва-вешальніка. Што ж, як кажуць, што было, тое было Але ж, акрамя «Муравьёвых, которые вешали», былі яшчэ і «Муравьёвы, которых вешали». Хто з іх з'яўляецца сапраўдным выразнікам настрояў і нацыянальных інтарэсаў рускага народа — права вырашаць гэта я пакідаю Вам і чытачам паважанага мною «ЛіМа».

**Але пойдзем далей — праўда дык праўда. Я працягваю выпіску: «Конечный же вывод из всего этого исследования состоит в том, что мы, немцы, заключили бы замечательную сделку. если бы могли обменять По, Минчо, Эч и всю итальянскую ветошь на единство Германии... Как только мы добъемся этого единства, мы сможем прекратить оборону. Нам тогда не потребуется более никакой Минчо, тогда снова «особенность нашего духа» будет заключаться в том, чтобы «атаковать», а ведь существуют еще такие гнилые места, где это весьма необходимо» (там жа).**

**Ці не праўда — па-салдацку *проста і адкрыта? Але для нас* з Вамі вельмі істотна ведаць і іншае: што гэта за «гнилые места», якія наважыўся «атакаваць» наш ваяўнічы аўтар? Адказ ёсць на с. 635 таго ж тома. Цытую: «Неужели рейнские земли не имеют никакого иного значения. как служить добычей в войне во имя того, чтобы Россия получила свободу действия на *Дунае и Висле*? Так стоит вопрос. Мы надеемся, что Германия скоро ответит на него с мечом в руке. Если мы будем держаться вместе, то уж выпроводим и французских преторианцев и русских «капустников».**

Не буду закранаць тут праблему суадносін выкладзенай вышэй праграмы з той, якую «мы, славяне», добра ведаем post hominum memotiam як Drang nach Osten. Цікавіць мяне ў гэтым выпадку іншае пытанне: ці можам мы з Вамі быць упэўненымі, што чалавек, які прытрымліваецца такой гістарычнай тэорыі і гэтакай палітычнай дактрыны, дае аб'ектыўны і непрадузяты аналіз «внешней политики русского царизма»? Нарэшце, ці натхняцца народы, асабліва малалікія, што адчуваюць зараз уздым нацыянальнай самасвядомасці, тым лёсам, які прарочыць ім аўтар цытаванай мною працы? Я вельмі сумняваюся ў гэтым. Калі Вы згодны, што мае сумненні не зусім беспадстаўныя, давайце звернемся да рэальнай гісторыі, адкінуўшы ўбок усё тое, што не мае дачынення да справы: тое, як гісторыя гэта камусьці падаецца або як ён хацеў бы яе падаць.

І тут я мушу перш за ўсё выказаць прынцыповую згоду з Вамі ў тым, што сапраўдная, гэта значыць, навуковая гісторыя можа існаваць толькі пры дакладным уліку «тэорыі гістарычнай навукі, у тым ліку тэорыі і методыкі гістарыяграфіі і крыніцазнаўства». Але я зусім не разумею Вашых нападак на «прынцыпы». Даруйце, якая ж гэта тэорыя гістарычнай навукі ды й сама гісторыя без прынцыпаў? Гэта будзе не гісторыя, а тое, што старажытныя грэкі называлі даксаграфіяй, гэта значыць, выкладанне гістарычных фактаў так, як бог на душу пакладзе, без асэнсавання іх неабходнай унутранай сувязі. Іншая справа — якія яны, гэтыя самыя прынцыпы. Адлюстроўваюць яны логіку самой гісторыі або высмактаныя з пальца? У гэтым я не магу з Вамі пагадзіцца. Спасылаючыся на Сталіна, Вы ставіце пад сумненне навуковасць і эўрыстычную плённасць прынцыпу гістарызму. Але прычым тут Сталін? Прынцып гістарызму — гэта адзін з карэнных прынцыпаў дыялектыкі, дыялектычнага метаду, і Сталін тут абсалютна ні пры чым.

**Вось мы гаворым сёння і гаворым справядліва, што палітыка жорсткай цэнтралізацыі грамадзянскага і дзяржаўнага жыцця, якую праводзіў Сталін, прывяла да таго. што мы сапраўды маем: да адміністрацыйна-каманднай сістэмы з яе адзяржаўленнем усяго і ўся, з ведамасным дыктатам, бяспраўнасцю рэспублік, манаполіяй вытворцы, уніфікацыяй духоўнага жыцця, або дакладней — бездухоўнасцю, «сацыялістычнай па змесце і нацыянальнай па форме». Але ці азначае гэта. што цэнтралізацыя наогул, пры любых і ўсякіх умовах, заўсёды і ўсюды — гэта зло і толькі зло? Вядома ж, не. Зусім не азначае. І гісторыя нашых з Вамі народаў — пераканаўчы таму доказ. Чаму, спытаемся, лейтматывам літаральна ўсіх ідэолагаў Кіеўскай Русі з'яўляецца асуджэнне княжацкіх міжусобіц і заклік да адзінства? «Почто ви распрю имати между собою, а поганіи губят землю Рускую?» — гэта пытанне «мужи смысленеи» задавалі не аднаму Святаполку. Значыцца. ідэю цэнтралізацыі нельга разглядаць абстрактна, па-за часам і прасторай. І Сталін, праводзячы сваю палітыку, меў бы стольки ж падстаў спасылацца на аўтарытэт ідэолагаў Кіеўскай Русі, колькі мелі б і мы з Вамі, калі б, чаго добрага, надумалі ганьбаваць нашых продкаў за схільнасць да сталінізму. «Хитрость истории» ў тым, што палітыка цэнтралізацыі, аб'яднанне рускіх зямель у адзіную цэнтралізаваную дзяржаву была гэтак жа аб'ектыўна неабходна і прагрэсіўнай у мінулым, як і супрацьлеглая ёй палітыка дэцэнтралізацыі, злому створанай Сталіным адміністрацыйна-бюракратычнай сістэмы аб'ектыўна неабходная і прагрэсіўная ў цяперашні час. Зразумела, гэта толькі схема. Але тое-сёе. думаю, яна высвятляе.**

Гэтак выглядае справа з «прынцыпамі». Звернемся да «фактаў». Я зноў мушу паўтарыць, што зусім не збіраюся падтрымліваць усю тую лухту, што змешчана ў нашых падручніках (і не толькі падручніках) па гісторыі Беларусі. Але падаецца мне, што, справядліва пярэчачы той лухце, Вы перагінаеце кій у другі бок, пераходзіце з адной крайнасці ў другую.

Возьмем, да прыкладу, тое ж пытанне аб «агрэсіўнай Літве, якая захапіла Беларусь і працягвала агрэсію супраць Маскоўскага Вялікага княства». Згодзен з Вамі, гэта — лухта. Але Вы дарэмна давяраецеся кампетэнцыі тых, хто лічыў, што «У той час, калі Вялікаросія трапіла пад мангольскі прыгнёт, Беларусь і Маларосія знайшлі сабе абарону ад азіяцкага нашэсця, далучыўшыся да так званага Літоўскага княства». Ну, як жа, вядома, усходнія славяне самі па сабе аніяк не маглі абараніцца, ім трэба было шукаць абарону калі не ў немцаў, дык хоць бы ў літоўцаў. І наогул, каб не прыбалтыйскія бароны, ніякай рускай дзяржаўнасці наогул бы не існавала. Ну, а тое, што «так званае» Вялікае княства Літоўскае ў пераважнай большасці сваёй тэрыторыі і насельніцтва было Руссю, што дзяржаўнай мовай яго была мова беларуская — гэта такія дробязі, на якія і ўвагі звяртаць не варта. Літоўскае княства было Літоўскай **Руссю**. Менавіта так яно і ўспрымалася сучаснікамі. Адказваючы на абвінавачанне ў здрадзе, князь Андрэй Курбскі між іншым піша Івану IV: «Царь Перекопский присылал яко кролеви моляся, так и нас просячи, иже бы пошел есть с ним на ту часть Руские земли, яж под державою твоею». Як бачыце, Курбскі зусім не лічыць, што руская зямля — гэта тое ж самае, што і Маскоўскае княства. Маскоўскае княства — гэта толькі частка «Руские земли», а Літоўскае — таксама Русь. Выходзіць, справа зусім не ў тым, што Беларусь і Маларосія знайшлі абарону ў князя Літоўскага. Справа ў іншым. І тут мы падыходзім да праславутай канцэпцыі «старэйшага брата».

Перадусім хацелася б адзначыць, што праблема «старэйшага брата» ў сталінскай яе аркестроўцы наогул не мае ніякага сэнсу. Але яна мае свой **гістарычны** сэнс і закранае лёс трох народаў, якія маюць агульныя этнічныя карэнні — народаў рускага, беларускага і ўкраінскага. Як жа яна ўзнікла і які рэальны змест несла ў сабе?

Вышэй ужо гаварылася аб тым (лічу, тут няма падстаў для спрэчак), што аб'яднанне рускіх зямель — пасля заняпаду Кіеўскай Русі — вакол адзінага цэнтра было аб'ектыўнай неабходнасцю: вырашаўся лёс народа — быць яму ці не быць. Прычым на гэтую ролю аб'ядноўваючага цэнтра («старэйшага брата»), законнага спадчынніка ўсіх рускіх зямель прэтэндавала не толькі Маскоўскае княства, але і яшчэ два: Галіцкае і Літоўскае. Галіцкія князі адкрыта называлі сябе «самодержцами всея Руси», а літоўскі князь Альгерд, напрыклад, гаварыў прускім рыцарам: «Omnis Russia ad Letwinos devet simpliciter pertinere» (Уся Русь павінна належыць выключна літвінам). Праўда, саперніцтва паміж паўднёва-заходняй Руссю і паўночна-заходняй Руссю спынілася пасля ўваходжання Галіцкага княства ў склад польскай дзяржавы. Але затое яно ўзмацнілася паміж Літоўскім і Маскоўскім княствамі. Абмежаваныя рамкі газеты не даюць магчымасці прасачыць усе падрабязнасці гэтага саперніцтва, дый асаблівай неабходнасці ў тым няма. Было тут усё: і маскавіты «воевали Литву», і літва «воевала Московию». Важна зразумець іншае: спрэчка пра тое, хто быў тут агрэсарам, а хто ахвярай — бессэнсоўная і недарэчная з навуковага пункту гледжання, бо нельга узурпіраваць тое, што лічыш сваёй неад'емнай уласнасцю. Але ж менавіта так ацэньвалі сітуацыю і літоўскія князі, якія прэтэндавалі на землі паўднёва-заходняй і паўночна-ўсходняй Русі, і князі маскоўскія, якія прэтэндавалі на землі той жа Русі паўднёва-заходняй і Русі паўночна-заходняй. Сітуацыя гранічна абвастрылася пасля Люблінскай уніі, бо, як лічыла «московская сторона», у гэту чыста сямейную спрэчку ўблыталася Польшча, якая да гэтай спрэчкі дачынення не мела і не павінна была мець. Гістарычны лёс зрабіў так, што перамогу атрымала Масква, а не Літва, хоць цалкам магло здарыцца і наадварот. Зразумела, гэты факт можна ацэньваць па-рознаму, але абвінавачваць на гэтай падставе Маскву, лічыць яе агрэсарам — азначае ігнараваць вытокі спрэчкі, абыходзіць пытанне з нечаканага боку, пераводзіць яго ў зусім іншы аспект. Бясспрэчна, Сталі-

# «Нефармал» і закон

У друку паведамлялася ўжо аб юрыдычных санкцыях супраць вучоных Г. Грушавога і Ю. Хадыкі за іх удзел у арганізацыі «Чарнобыльскага шляху». На гэтую падзею адгукнуліся і чытачы «ЛіМа». Лісты, у якіх выказваецца маральная падтрымка гэтым людзям, даслалі ў рэдакцыю, у прыватнасці, супрацоўнікі НВА «Інтэграл» (ліст падпісалі 30 чалавек), супрацоўнікі Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР (72 подпісы), камсамольцы Інстытута цепла- і масаабмену, СКБ з дагледнай вытворчасцю АН БССР (35 подпісаў) і работнікі цэха № 1 Мінскай картаграфічнай фабрыкі. Разам з пісьмом фабрычныя рабочыя прыслалі... паштовы перавод на 70 рублёў, якія просяць перадаць Ю. Хадыку. Перагледзець рашэнне суда патрабуе ў тэлеграме група жыхароў Нароўлі, выказвае сваё абурэнне хімік з Гомеля У. Слабін.

Пра тое, што здарылася з арганізатарамі мітынгу «Чарнобыльскі шлях», у прыватнасці, ішла размова на прэс-канферэнцыі, якая адбылася 23 кастрычніка ў БДУ імя У. І. Леніна.

**Далёка не ўсе жадаючыя змаглі патрапіць ва універсітэцкую аўдыторыю, яўна не прыстасаваную для прэс-канферэнцый. Але многія гатовы былі стаяць у калідоры і лавіць кожнае слова з аўдыторыі — настолькі вялікая была цікавасць да падзеі. Гаворка часам набывала мітынговы напал, але вінаваціць за гэта яе арганізатараў не варта: надта ж вострыя і спрэчныя пытанні былі ў той вечар прадметам абмеркавання.**

**Прадстаўнікі БНФ нагадалі прысутным пра вядомыя падзеі, у якіх праявіўся канфлікт паміж нефармальным рухам і ўладамі і якія сведчаць пра перакананне апарату і, на жаль, праваахоўных органаў, *што з нефармаламі можна* і трэба гаварыць толькі мовай загадаў, забарон, штрафаў і прыводаў у міліцыю.**

**Ці ёсць сёння прававыя гарантыі для нармальнага існавання самадзейных арганізацый, членамі якіх з'яўляюцца паўнапраўныя савецкія грамадзяне?**

**Прыведзеныя факты, сказаў на прэс-канферэнцыі доктар фізіка-матэматычных навук Ю. Хадыка, сведчаць аб прававым нігілізме дзяржаўных і партыйных улад. У падмацаванне сваёй думкі ён спаслаўся на шматлікія выпадкі парушэння выканкомамі тэрмінаў разгляду заяў на правядзенне мітынгаў, на спробы дзейнічаць у абход законаў і нават падтасоўку фактаў у самых высокіх заканадаўчых органах.**

**На прэс-канферэнцыі Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР ад 08.04.88 г. аб правядзенні мітынгаў і дэманстрацый і Указ ад 31.03.89 г., палажэнні якога тычацца, у прыватнасці, сімволікі і сцягоў, а такcама выдавецкай дзейнасці нефармалаў, натуральна, апынуліся ў цэнтры ўвагі.**

**Пра тое, як скарыстоўваюць гэтыя ўказы ў барацьбе супраць нефармальных рухаў мясцовыя ўлады, паказалі на канкрэтных прыкладах дэпутат Наваполацкага гарсавета рабочы А. Кулік і выкладчык Магілёўскага педінстытута М. Булавацкі.**

**Старшыня нядаўна створанага Венскага камітэта БНФ філосаф Р. Якаўлеўскі гаварыў аб тым, што згаданыя ўказы не адпавядаюць міжнародным пагадненням, падпісаным Савецкім Саюзам у студзені гэтага года ў Вене.**

**Прысутныя на прэс-канферэнцыі звярнуліся да запрошаных супрацоўнікаў МУС і пракуратуры з просьбай даць ацэнку прыведзеным фактам. Але яны, на жаль, не ў стане былі адказаць на большасць**

ну было карысна рэаніміраваць ідэю «старэйшага брата», да таго ж перакруціўшы яе сапраўдны сэнс, каб узваліць на гэтага «старэйшага брата» адказнасць за ўзноўленую ім у XX стагоддзі дзяржаўнасць тыпу ўсходніх дэспатый. Але прычым тут рускі народ? Званне «старэйшага брата», якое надаў яму, не пытаючы згоды, «вождь всех времен и народов», прынесла рускаму народу толькі адну-адзіную карысць: пустэчу ў самым сэрцы Расіі (якую, па слову кагось з публіцыстаў, ужо і Расіяй не называюць, а Нечарназем'ем).

Нарэшце, апошняе. Вы лічыце, што «спрадвечная цяга і нават барацьба працоўнага насельніцтва Беларусі за ўз'яднанне з Маскоўскім Вялікім княствам, а потым і з Рускім царствам» — не больш чым выдумка і міф. Я са свайго боку лічу, што тут не ўсё так проста. Ва ўсякім выпадку адносіны паміж літоўскай арыстакратыяй і арыстакратыяй беларускай і малароскай былі не такімі ідылічнымі, як яны Вам, відаць, падаюцца. Асабліва — пасля уніі Літвы і Польшчы. І тут, мне думаецца, ісціна болей за М. Каяловічам, чым за Вамі. Такая «извечная тяга» — не выдумка, не міф, а рэальнасць. Інакш чым Вы растлумачыце, напрыклад, сапраўды надзвычайныя поспехі Івана III у барацьбе з вялікімі князямі літоўскімі Казімірам і Аляксандрам? Вы можаце запярэчыць, што самае знішчальнае паражэнне Маскве нанесла літоўскае войска на чале з праваслаўным заходне-рускім (беларускім) князем Канстанцінам. Можаце спасылацца і на той факт, што магіляўчане знішчылі маскоўскі гарнізон. І гэта будзе таксама чыстая праўда.

**Дык у чым жа тут справа? Лічу, што на гэтае пытанне даў вычарпальны адказ ужо М. Доўнар-Запольскі, аналізуючы ход вайны паміж Масквой і Польшчай у XVII стагоддзі за валоданне Маларосіяй. Ён, у прыватнасці, піша: «...Беларусы самі прызывалі вялікаросаў, наладжвалі сувязь з імі, здраджвалі палякам, але як толькі яны адчулі на сабе цяжар маскоўскага кіравання, яны апынуліся ў безвыходным становішчы і пачалі памалу ізноў цягнуць да Польшчы». Вось у гэтым уся справа. Натуральная цяга беларусаў (як, зрэшты, і маларосаў) да аднапляменнікаў і аднаверцаў знікала адразу, калі яны сутыкнуліся з маскоўскімі парадкамі. Інакш і быць не магло. Характар эканамічных адносін у Маскоўскім княстве істотна адрозніваўся ад тых жа эканамічных адносін у княстве Літоўскім, а потым і ў Рэчы Паспалітай. Прычым — ні ў якім разе не на карысць Масквы. І калі, скажам, Іван Грозны ў XVI стагоддзі канчаткова пераўтварыў служылых людзей у царскіх халопаў, то ў Літве, наадварот, Берасцейскі сейм у 1566 годзе даў шляхце права безумоўнага распараджэння сваёй маёмасцю, зрабіў іх суверэннымі ўласнікамі сваёй зямлі. Прычыны гэтага я тут не буду аналізаваць. Аднак указаныя абставіны, на мой погляд, добра тлумачаць няўстойлівасць беларускіх і маларасійскіх сімпатый.**

Дарэчы, нешта падобнае адбылося ўжо ў наш час. Я, напрыклад, добра памятаю той энтузіязм, з якім сустракалі «рускіх» у Бесарабіі ў 1940 годзе, прычым не толькі балгары, украінцы, гагаузы, але і малдаване. Але энтузіязм гэты вельмі значна зменшыўся адразу пасля вайны, калі Сталін, падобна да таго, як гэта зрабіла Кацярына II у Маларосіі, пачаў усталёўваць там свае парадкі. Канчатковы вынік? Пачытайце нядаўняе інтэрв'ю малдаўскага кампазітара Я. Догі карэспандэнту часопіса «Огонек».

Прашу мяне зразумець: я зусім не збіраюся быць адвакатам знешняй палітыкі царскай Расіі. Але навошта заводзіць падвойную бухгалтэрыю — адну для Расіі, другую — для ўсіх іншых? Расія была «турмой народаў», як быццам тая ж Англія ці Францыя, скажам, была пансіянатам для народаў сваіх калоній. Расія вяла агрэсіўную палітыку на Каўказе, як быццам да таго ж Каўказа не цягнуліся рукі Англіі і Турцыі. У «варварскай» Расіі быў «Мураўёў-вешальнік», як быццам у «цывілізаванай» Францыі не было «Сент-Арно-вяндляра». Расія праводзіла палітыку асіміляцыі, як быццам не тую ж палітыку праводзіла Польшча. Аўтар «Знешняй палітыкі рускага царызму» бачыць гістарычную місію Германіі (чытайце: Прусіі) у аб'яднанні **ўсіх** немцаў (вам не прыпамінаецца аншлюс Аўстрыі ў 1938 годзе?), але рашуча адмаўляе такое ж права на аб'яднанне вялікаросаў, беларусаў і маларосаў.

Цяпер вось і за «казарменны сацыялізм», пабудаваны па праекце «вялікага дойліда», казлом адпушчэння той-сёй хацеў бы зрабіць усё тую ж Расію, хаця Сталін быў, як вядома, грузінам, а не рускім, а Смольны ахоўвалі ў свой час не рускія грэнадзёры, а латышскія стралкі. Ды й Устаноўчы сход, наколькі мне помніцца, быў разагнаны атрадам, якім кіраваў не рускі гардэмарын, а ўкраінскі матрос. І ніхто не хоча зразумець, што справа зусім не ў грузінах, не ў латышах, а, тым больш, не ў рускіх. Спыталіся хоць бы ў маіх адзінакроўцаў з «Памяці». Яны вам адразу б давялі, як двойчы два чатыры, што сапраўдная прычына нашай трагедыі — «жыды і масоны».

«Скушно жить на этом свете, господа».

Вялікі галандскі мысліцель Бенядзікт Спіноза калісьці сказаў, фармулюючы крэда навукоўца: не плакаць, не смяяцца, а разумець. Я прытрымліваюся гэтага прынцыпу. І не таму, што з'яўляюся абыякавым па натуры ці, будучы «варварам», эмацыянальна не цывілізаваны. Проста я добра ведаю: размахваць кулакамі ўслед гісторыі і, як пушкінскі Яўгеній, крычаць «Ужо тебе» — не самая вялікая мудрасць на свеце. Над гісторыяй не рвуць у роспачы валасы і не пасыпаюць попелам галаву. У гісторыі вучацца. А каб вучыцца ў гісторыі, яе трэба ведаць.

На заканчэнне нашай з Вамі размовы мне б хацелася нагадаць мудрыя словы агульнага продка нашага: «Рекоста бо брат брату: «се мое, а то мое же». И нагяша князи про малое «се великое» молвити, а сами на себя крамолу ковати; а поганіи с всех стран приходжаху с победами на землю Рускую».

Няважна, што «поганіи» знаходзяцца цяпер не ў стэпах палавецкіх, а ў... Зрэшты, Вы ведаеце, дзе яны сядзяць.

**В. АКУЛАЎ,**
**доктар філасофскіх навук, прафесар.**

**пытанняў, бо пытанні гэтыя выходзілі за межы іх кампетэнцыі. І хоць пракурор Маскоўскага раёна сталіцы В. Сіманоўскі выказаўся ў прынцыпе за дыялог з нефармальнымі арганізацыямі, сказаць, што на гэты раз такі дыялог атрымаўся, відаць, нельга.**

**Пра тое, як цяжка пераадольваць інерцыю апаратнага мыслення, пра яго накіраванасць на свядомую канфрантацыю з перадавой часткай грамадства, гаварыў народны дэпутат СССР С. Шушкевіч. Частку свайго выступлення ён прысвяціў таксама праблемам Чарнобыля.**

**Паведамленне дэпутата Вярхоўнага Савета БССР Г. Ерамеева было прысвечана выбарчым законам.**

**Многія пытанні на прэс-канферэнцыі выйшлі за рамкі тэмы, заяўленай яе арганізатарамі. Магчыма, па гэтай прычыне яна празмерна задоўжылася. Але можна зразумець імкненне арганізатараў даць максімум інфармацыі, паколькі такая магчымасць ім была прадстаўлена, па сутнасці, упершыню.**

**НАШ КАР.**

**P. S. Гэты матэрыял быў падрыхтаваны да друку, калі ў рэдакцыю прыйшоў яшчэ адзін ліст — ад жыхароў пасёлка Лясны Мінскага раёна. Яны, у прыватнасці, пішуць: «Марш пратэсту «Чарнобыльскі шлях» — гэта высокая і адказная грамадзянская акцыя. І не судзіць трэба яе арганізатараў, а ганарыцца, што ў нашым грамадстве ёсць такія мужныя і неабыякавыя да лёсу Бацькаўшчыны людзі, як Юрый Віктаравіч Хадыка. Судовае рашэнне, нам думаецца, не мае пад сабой ніякіх прававых падстаў. Патрабуем скасавання рашэння суда над Ю. В. Хадыкам».**

**Пад гэтым лістом — 52 подпісы.**

**Н. К.**

*Гісторыя вучыць*

# Так мы дэфармаваліся

Цяпер, як ніколі раней, стала відавочнай неабходнасць сумленнага высвятлення тых прычын і механізмаў дзеяння, якія прывялі да катастрафічнага стану родную мову і нацыянальную культуру.

Няма падставы згаджацца са сцвярджэннямі аб тым, што беларускі народ быццам сам адмаўляецца ад роднай мовы. Моўная сітуацыя, якая склалася ў нас, мае свае прычыны, але яны не могуць быць зведзены да спасылак на блізкасць беларускай мовы да рускай альбо на ўзмацненне ў пасляваенны час міграцыі і урбанізацыі. Гэтыя фактары, безумоўна, садзейнічалі павышэнню ролі рускай мовы як сродку міжнацыянальных зносін, але самі па сабе яны не маглі прывесці да выцяснення з дзяржаўнага і грамадскага жыцця мовы, культуры, традыцый карэннай нацыі, якая дала імя суверэннай рэспубліцы і састаўляе абсалютную большасць яе насельніцтва.

Галоўная прычына заключаецца ў ігнараванні прынцыпаў раўнапраўя нацый і іх моў, якія фарміруюцца з жыццядзейнасці цывілізаванага чалавецтва і атрымалі ў свой час найбольш паслядоўнае і поўнае ўвасабленне ў ленінскай канцэпцыі нацыянальнай палітыкі. Але з канца 20-х гадоў пачалі дзейнічаць механізмы, накіраваныя на ліквідацыю правоў і магчымасцей рэспублік, на адмову ад рэалізацыі ленінскай нацыянальнай палітыкі.

Што канкрэтна ўяўлялі сабой адзначаныя вышэй механізмы? Гэта тэрарыстычна-рэпрэсіўны механізм адміністрацыйна-валюнтарысцкага ўздзеяння і механізм ідэалагічных маніпуляцый па нацыянальным пытанні. Па сваім характары і выніках функцыяніравання яны з'яўляліся наднацыянальнымі і антынацыянальнымі, паколькі супярэчылі дэмакратычным і сацыялістычным інтарэсам усіх нацый СССР і кожнай з іх паасобку. Таксама гэта механізмы надкласавыя і антысацыялістычныя, паколькі яны супярэчаць карэнным інтарэсам рабочых, сялян і інтэлігенцыі.

Дзеянне гэтых механізмаў у нашай рэспубліцы ў 30-я — пачатку 80-х гадоў і прывяло да ўсебаковага выцяснення беларускай мовы і разбурэння нацыянальнай культуры.

Першы з механізмаў, тэрарыстычна-рэпрэсіўны, даў аб сабе знаць ужо ў 1930 г. ілжывымі абвінавачаннямі ў нацыяналізме і ў прыналежнасці да антысавецкай арганізацыі «Саюз вызвалення Беларусі» (на справе такой арганізацыі не існавала). Пасля гэтага рэпрэсіўная машына задзейнічала безупынна па знішчэнні беларускай інтэлігенцыі, усё новых і новых ратацый кіруючых кадраў рэспублікі. У яе крывавую пашчу трапілі многія з Заходняй Беларусі — камуністы, вучоныя, удзельнікі дэмакратычнага нацыянальнага руху. А ў 1935—37 гадах была рэпрэсіравана палова складу партыйнай арганізацыі рэспублікі.

Менавіта пасля масавых рэпрэсій і тэрору яшчэ ў перадваенныя гады беларуская мова перастае быць мовай функцыяніравання дзяржаўных і партыйных органаў, ВНУ і акадэмічных інстытутаў. Чаму? Перш за ўсё таму, што тыя, хто ў канцы 30-х гадоў заняў месца рэпрэсіраваных, не маглі не ўсвядоміць для сябе пачварную сітуацыю: родная мова і іншае праяўленне нацыянальнай свядомасці могуць стаць прычынай для абвінавачання ў нацыяналізме. Сіндром страху перад рэпрэсіямі стаў масавым і ўстойлівым.

Напомнім, што нават у 1951 годзе адной з прычын расправы над міністрам народнай асветы рэспублікі П. В. Саевічам з'явілася абвінавачанне ў нацыяналізме, паколькі ім была выказана думка аб аднаўленні правоў беларускай мовы ў ВНУ БССР.

Дзеянні другога, адміністрацыйна-валюнтарысцкага механізма не толькі ўскосна, а ў некаторых важных напрамках прама вялі да звужэння сферы выкарыстання беларускай мовы.

Так, з 30-х гадоў і ў пасляваенны час прымаліся пастановы, накіроўваліся інструкцыі і тэлеграмы, даваліся вусныя «кіруючыя ўказанні» адносна спынення выдання газет, часопісаў, вучэбнай, навуковай і мастацкай літаратуры на беларускай мове, рэзкага змяншэння тыражоў беларускамоўных выданняў. У вучэбныя планы школ уносілі змены па адцясненні беларускай мовы на пазіцыі пасля рускай і ўсіх замежных моў. Мізэрныя магчымасці адводзіліся тэлебачанню і радыё рэспублікі для перадач на мове беларускага народа. Няма нацыянальнага кіно, падрэзаны карані нацыянальнага тэатра. Да апошняга часу не спынялася (ці спынілася канчаткова і сёння?) кампанія па ліквідацыі школ з беларускай мовай навучання.

Трэці механізм — гэта ідэалагічныя маніпуляцыі па нацыянальным пытанні. Фарсіраванне дэбеларусізацыі народнай асветы ў значнай меры абумоўлена суб'ектывісцкім нецярпеннем і паспешнасцю: каб не «спазніцца» са збліжэннем і зліццём нацый да пачатку 80-х гадоў, калі ў адпаведнасці з праграмнымі дакументамі павінен быў наступіць камунізм. У гэтым выпадку тэарэтычнае палажэнне марксізму-ленінізму аб зліцці нацый у аддаленай гістарычнай перспектыве, на вышэйшай ступені камунізму (Ленин У. И. Полн. собр. соч. Т. 38, с. 181) было валюнтарыстычна трансфармавана ў сучасную практычную задачу. Пры гэтым ёй прыдавалася аднабаковае і прамалінейнае трактаванне ў выглядзе замены беларускай мовы на рускую.

Нацыянальная самасвядомасць не можа мірыцца ні з нацыяналізмам, ні з любымі спробамі прынізіць годнасць нацыі, яе мову і культуру. Прыкладам такой спробы можа быць артыкул Ю. Афоніна ў «Чырвонай змене» ад 7 чэрвеня г. г. На думку аўтара, беларуская моладзь, абітурыенты і студэнты ВНУ і тэхнікумаў БССР «разлічваюць павысіць сваю канкурэнтаздольнасць у выпадку ўзаконення здачы ўступных экзаменаў на іх роднай мове». Спытаем аўтара: ці прытрымліваецца ён такой жа думкі ў адносінах здачы рускай моладдзю ўступных экзаменаў на іх роднай мове ў ВНУ і тэхнікумах Масквы, Разані, Омска і іншых гарадоў РСФСР? Напэўна, не. Бо вучоба на роднай мове ў сваёй рэспубліцы (дзяржаве) з'яўляецца для моладзі карэннай нацыянальнасці законным правам, агульным прынцыпам для цывілізаванага чалавецтва.

Дзейнасць усіх трох вышэйразгледжаных механізмаў прывяла ў Беларусі да глыбокай дэфармацыі нацыянальных адносін. У сваю чаргу функцыяніраванне гэтых структур цяпер само ўзнаўляе сітуацыю, якая характарызуецца ў Беларусі 80-х гадоў наступным. Беларуская моладзь амаль паўвека як пазбаўлена магчымасці атрымаць адукацыю на роднай мове ў ВНУ і тэхнікумах. Спынілася выданне на беларускай мове кніг, слоўнікаў як па прыродазнаўчых і тэхнічных навуках, так і па філасофіі, палітэканоміі.

Вось тут і з'яўляюцца «дабрадзеі», якія «дэмакратычна» прапануюць бацькам самім вырашаць пытанне, у якой школе — беларускай ці рускай — вучыцца іх дзецям. Вядома, што ад сэрца бацькоў-беларусаў ідуць імпульсы нацыянальнай годнасці і прыхільнасці да роднай мовы, але іх мысленне турбуе, і не без падставы, думка аб тым, дзе пасля заканчэння беларускай школы іх сын, дачка знойдуць прафесійнае прымяненне на роднай зямлі роднай мове?

Добрыя надзеі парадзілі рашэнні X пленума ЦК КПБ, ініцыятывы Міністэрства народнай асветы і Міністэрства культуры, творчых саюзаў, стварэнне ТБМ, і нарэшце — Пленум ЦК КПСС па міжнацыянальных адносінах...

Без стварэння неабходных умоў для выкарыстання беларускай мовы ў прафесійнай дзейнасці ўсе іншыя меры застануцца паўмерамі і самі па сабе жаданага эфекта не дадуць.

Першымі крокамі тут можа стаць прымяненне беларускай мовы як рабочай у дзейнасці апарату Вярхоўнага Савета БССР, міністэрстваў народнай адукацыі, культуры, сельскай гаспадаркі, а ўслед за імі і ў адпаведных органах выканкомаў мясцовых Саветаў народных дэпутатаў. Такі крок, напэўна, з'явіўся б добрым прыкладам для другіх органаў Савецкай улады, а за імі і для грамадскіх арганізацый рэспублікі. Першапачатковай мерай павінна стаць «беларусізацыя» педагагічных інстытутаў і вучылішчаў, увядзенне паралельных патокаў (з беларускай і рускай мовай навучання) на ўсіх факультэтах універсітэтаў.

Адраджэнне беларускай мовы і нацыянальнай культуры народа патрабуюць дзяржаўнай абароны і дапамогі. 8 саюзных рэспублік (Азербайджан, Арменія, Грузія, Латвія, Літва, Малдавія, Узбекістан, Эстонія) ужо аб'явілі мову карэннай нацыі дзяржаўнай мовай. Прэзідыум Вярхоўнага Савета УССР унёс адпаведную прапанову на разгляд сесіі Вярхоўнага Савета УССР. У РСФСР руская мова даўно з'яўляецца дзяржаўнай дэ-факто, гэта значыць на справе. Патрэбна і беларускай мове надаць статус дзяржаўнай.

Калі не прыняць актыўныя дзяржаўныя меры, то сучасная сітуацыя непазбежна прывядзе да страты беларусамі роднай мовы, занепаду нацыянальнай культуры, паступоваму зніканню беларускага народа.

Думаецца, што такі працэс не ў інтарэсах як для беларусаў, так і для рускіх і іншых народаў СССР. Не адпавядае такі лёс аднаго са славянскіх народаў ні прынцыпам сацыялізму, ні развіццю агульначалавечай культуры.

**Анатоль ЯЦКЕВІЧ,**
**доктар філасофскіх навук, прафесар.**

**Міністэрства культуры БССР смутнуе з нагоды смерці былога намесніка начальніка планава-фінансавага аддзела міністэрства БУНІМОВІЧА Веніяміна Ільіча і выказвае глыбокае спачуванне яго родным і блізкім.**

**Супрацоўнікі Літаратурнага музея Якуба Коласа выказваюць глыбокае спачуванне галоўнаму бухгалтару Цэнтралізаванай бухгалтэрыі пры Міністэрстве культуры БССР Мядзюн Хрысціне Уладзіміраўне з прычыны вялікага гора—смерці МАЦІ.**

